Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 29 (4675) 20 ліпеня 2012 г.

## Думка пісьменніка

### Пра мовы і пераклады



— Адразу адзначу, што ў літаратуры я займаюся ў асноўным паэтычнымі перакладамі, як з беларускай на рускую, так і наадварот. Тое, што мы, беларусы, валодаем рускай лепш за многіх расіян, — наш вялікі набытак. Маса літаратуры, вялікая частка сусвету, дзе разумеюць рускую мову, адчыненыя для нас насцеж. Аднак жа гэта толькі палова нашага моўнага багацця, і цяжка сказаць, якая з палоў больш важкая. Як перакладчык магу адзначыць: свае ўласныя рэчы я часцей пішу на рускай мове, аднак перакладаць на беларускую часцяком лягчэй. Гэта заканамерна. Беларуская мова больш мілагучная, яна лепей пасуе для паэзіі. Гэта можна даказаць нават матэматычна: калі ўзяць сярэдні беларускамоўны тэкст, дык працэнт галосных гукаў у ім будзе большым, чым у аналагічным рускамоўным. Па напеўнасці нашу мову пераўзыходзіць можа толькі італьянская. Сінанімічны шэраг у нас таксама шырэйшы, ды й варыятыўнасць вымаўлення і напісання многіх слоў здольная вельмі дапамагчы пісьменніку. Але як мы распараджаемся гэтым багаццем!

Паглядзіце, не ўсім, нават вялікім, народам дадзеныя такія магчымасці ў мастацтве слова! Колькі сёння паэтаў, скажам, у Англіі? Адзінкі. Мне давялося праз аднаго сябра атрымаць зборнік сучаснай англійскай паэзіі з Вялікабрытаніі — атрымаць са значнымі цяжкасцямі, бо паэзія там выдаецца нават меншымі накладамі, чым у нас. Дык вось, большая частка яго зместу — белыя вершы, верлібры. Па звычцы чытаеш іх “на слых” — а рытм увесь час збіваецца. Ніякай асалоды ад чытання нерыфмаванага верша няма, і запомніць яго немагчыма. Такі верш прачытае мо адзін раз нейкі гурман — і ўсё, у вусным ці пісьмовым цытаванні ён жыць не будзе. Дык то англійская мова, матэматычна-лагічная па сваёй сутнасці. Яна прыстасаваная больш для перадачы інфармацыі, чым эмоцый, хаця Кіплінг і даказваў, што гэта не так. А ў нас, беларусаў, ёсць куды больш прыстасаваны інструмент для вершавання — дык чаго не карыстацца ім?

І гэты інструмент — багацце, якога ніхто не здолее ў нас адняць, калі мы самі не адмовімся ад яго. А перакладаць нашу паэзію, і ў першую чаргу на рускую мову — трэба. Менавіта каб мову нашую захаваць. Так, паэтам і пісьменнікам патрэбна шырокая аўдыторыя — творца павінны быць пачутым, а руская культура была, ёсць і будзе найбольш блізкай для нас. Праз пераклады ўзнікне цікаўнасць і да самога творцы (праўда, прозвішчы перакладчыкаў часцей за ўсё чытач не запаміна е…), а там, глядзіш, і да мовы арыгінала. Бо падставы ёсць. Карэнны русак Уладзімір Мулявін зрабіў для прапаганды беларускай мовы ў свеце, напэўна, больш, чым увесь тагачасны саюз пісьменнікаў! І гэта тады, калі ніякай гаворкі пра “адраджэнне мовы” не йшло. Што ж мы цяпер спяваем пра “добрую, светлую, чыстую, нежную, белую Белую Русь” не па-беларуску? Няўжо сярод беларусаў не знойдзецца свайго Мулявіна і трэба зноў выпісваць яго з Расіі?

**Андрэй ЦЯЎЛОЎСКІ**

# Па рацэ часу — у вечнасць

**Раіса БАРАВІКОВА,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь**



Ніяк не хочацца верыць: з жыцця так раптоўна пайшла Вера Вярба, амаль гэтак, як год таму Валя Коўтун — у самоце, на дачы... Як некалі Еўдакія Лось — у ліпені, у пару летняга цвіцення...

А яшчэ зусім нядаўна ў Музеі гісторыі беларускай літаратуры арганізоўвалася выстаўка жанчын-паэтаў другой паловы XX стагоддзя, і ў дзень яе адкрыцця ладзілася вечарына. Вельмі прыцягальна глядзеўся стэнд Веры Вярбы з прыгожым партрэтам яе ўнука — сярод бабуліных кніжак... Вера не змагла прыйсці тады на вечарыну, сказала, што хварэе і, магчыма, на адкрыццё прыйдзе сын з унукам. Але як хораша пра яе творчасць гаварылі нашы паэты старэйшага пакалення! І немагчыма не гаварыць... Ні тады, ні цяпер, калі агортваюць жаль і глыбокі смутак... Вярба — вельмі яркая, знакавая постаць у залатой Кнізе айчыннай паэзіі. Магчыма, менавіта яна сваёй летуценнапяшчотнай лірыкай і дала пачатак у нашай літаратуры так званай “жаночай паэзіі”. Выраз, канечне, даволі адносны. Ёсць проста паэзія і непаэзія, таленавітая і не надта... Прырода дала Веры Вярбе надзвычай адметны, глыбокі, непаўторны талент! Я не магу сказаць, што мы блізка сябравалі, але ў 70-я некалькі гадоў разам працавалі ў “ЛіМе”. З тых часоў у мяне застаўся томік яе выбраных вершаў з аўтографам: “...падчас сумеснай працы ў славутай газеце «ЛіМ»”. Вера і сама была славутая. Песня “Ручнікі”, напісаная кампазітарам М. Пятрэнкам на яе словы, спявалася ад Брэста да Далёкага Усходу і ўмомант стала народнай, калі імя паэта ўжо і не згадвалася. Хоць самой Веры Вярбе яшчэ тымі гадамі было шмат недададзена — яна магла мець і розныя прэміі, і званні... Але тады лірыка была не ў пашане, ды і сама Вера — ганарліва-яршыстая: “За што вы толькі не судзілі, а я па-свойму ўсё раблю. На зайздрасць вам мяне любілі, і я на зайздрасць вам — люблю”.

Вера — самотная зорка нашай паэзіі. Мы, паэткі так званага пасляваеннага пакалення, неяк заўжды трымаліся разам і, як напісала нядаўна Галіна Каржанеўская, “Нас было многа...” Вера ж была ад нас трошкі ўбаку, хутчэй — над намі. Яна нарадзілася ў 1942 годзе, можна сказаць, дзіця вайны, і заўжды гарнулася да старэйшых, была бліжэй да іх. І класікі прымалі яе як сваю, роўную ім. Але справа не ў гэтым, а ў тым, што лірыка Веры Вярбы ўжо даўно класіка. І, як усё класічнае, яна — надоўга!

На пачатку 90-х Вера адышла ад літаратуры, ад пісьменніцкага асяродка, яе імя рэдка можна было сустрэць у друку. Але вось літаральна нядаўна, некалькі тыдняў таму патэлефанаваў мне Ізяслаў Катляроў, пытаўся яе тэлефон, маўляў, пераклаў Веру Вярбу і сёння гэтыя пераклады надрукаваны ў маскоўскай “Литературной газете”, хачу пра гэта сказаць Веры.

Якой бы самотай Паэт не агароджваўся ад людства, ад нашага неўтаймоўна-жорсткага свету, ён усё роўна застаецца Паэтам. Іншымі словамі, у любым часе знойдзе і свайго чытача, і свайго выдаўца, таму што ён Паэт, а не “словапісец на гадзіну”...

Апошні раз мы бачыліся з Верай у мінулым годзе, недзе позняй восенню... Мне здалося, што яна асаблівая і не змянілася з часоў маладосці. Але, як аказваецца, у нейкі час усё раптоўна змяняе лёс... І вось ужо дзесьці незваротна далёка, у неўяўляемых абсягах жанчыны-паэты майго пакалення: Жэня Янішчыц, Ніна Мацяш, Тася Бондар, Валя Коўтун... А гэты ліпень праводзіць у вечнасць і Веру Вярбу... Успамінаюцца яе радкі: “Ішла з вясны — было мне дваццаць, а ты з вайны — мой лейтэнант...” Дзе той лейтэнант, дзе тая вясна?! Засталося жыццё ў вершах. Гэтым Паэт і неўміручы.

## “Славянскі базар у Віцебску”




# Цэнтр прыцягнення

**Паўночная сталіца Беларусі сустракала велічнымі храмамі, рознагалоссем гасцей і гасціннасцю гараджан, шматлікімі ружамі і лілеямі, моднымі льнянымі сукенкамі і прыязнымі ўсмешкамі тых, хто акунуўся ў вір “Славянскага базару”, які аб'яднаў вакол сябе людзей добрай волі, каб паказаць найлепшыя дасягненні ў розных галінах мастацтва.**

**Раіса МАРЧУК**

Міжнародны фестываль мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” нязменна ўтрымлівае самыя высокія пазіцыі на ўсходнеславянскай прасторы. Пацвярджэннем таму — цікавасць соцень тысяч гледачоў, якія кожны год з нецярпеннем чакаюць фэст. Фестываль, як і раней, мае моцную дзяржаўную падтрымку і праводзіцца пад патранатам Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі, падкрэсліў падчас прэс-канферэнцыі ў Віцебскім аблвыканкаме міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка.

Сёлетні фэст стаў ужо гісторыяй. Усяго на 11 пляцоўках прайшло 75 розных мерапрыемстваў. Практычна па сем праектаў у дзень. Фестывальную акрэдытацыю атрымалі каля пяці тысяч чалавек. Шматлікія падзеі форуму асвятлялі больш як 460 прадстаўнікоў СМІ. Арганізатары пастараліся, каб у Віцебск, які за мінулы год значна папрыгажэў, завіталі знакамітыя госці. На канцэртных пляцоўках выступіла шмат вядомых замежных выканаўцаў, заявілі пра сябе “свежыя імёны”, таленавітыя маладыя артысты, якія маюць асабістыя сольныя праекты, — Пелагея, Марыя Навумава і інш. Найбольш цікавае мерапрыемства — канцэрт-адкрыццё.

— Бясспрэчна, віцебскі форум стаў адным з тых зерняў, з якіх прарастае еўразійская інтэграцыя, таму што ён дазволіў нашым народам захаваць гістарычную агульнасць і адзіную культурную прастору. Гэтаму форуму самім лёсам было наканавана стаць цэнтрам прыцягнення розных культур. Нават у яго назве — “Славянскі базар” — чуецца водгук і еўрапейскай, і ўсходняй цывілізацый, — лічыць Аляксандр Лукашэнка.

Канцэрт-адкрыццё вызначыўся тым, што ў ім узялі ўдзел пераможцы міжнародных дзіцячых конкурсаў і нядаўняга “Еўрабачання” —“Бурановские бабушки” і шведская спявачка Ларын. Рэжысёрам грандыёзнага, відовішчнага дзейства выступіў Вячаслаў Панін, рэжысёр Маладзёжнага тэатра эстрады.

Яшчэ адна адметнасць фэсту: пастаноўшчыкі ўсіх фестывальных мерапрыемстваў — беларусы. Падчас афіцыйнага адкрыцця спецыяльная ўзнагарода Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “Праз мастацтва да міру і ўзаемаразумення” была ўручана народнаму артысту Расіі Льву Лешчанку, а за некалькі гадзін да гэтага прайшла цырымонія адкрыцця яго “Зоркі” на Алеі лаўрэатаў.

(Заканчэнне на стар. 2.)

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Аляксандра Ціхановіча з 60-гадовым юбілеем. “Вы — адна з тых яркіх, заўважных творчых асоб, без якіх нельга ўявіць сабе сучасную беларускую музыку. Ваша творчасць — сапраўдны залаты фонд айчыннай эстрады, прыклад для маладых спевакоў і кампазітараў”, — адзначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб узнагароджанні дзяржузнагародамі прадстаўнікоў розных сфер дзейнасці. У тым ліку медаль Францыска Скарыны быў уручаны старшыні Мінскага гарадскога армянскага культурна-асветніцкага таварыства “Айастан” Георгію Егіазарану, артыстам Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г. Цітовіча і Беларускага дзяржаўнага заслужанага харэаграфічнага ансамбля “Харошкі”. Ганаровае званне народнага артыста Беларусі нададзена артыстам балета, майстрам сцэны Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Вользе Гайко і Людміле Кудраўцавай. Заслужанай артысткай Беларусі стала артыстка Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Белдзяржфілармоніі Юлія Стэфановіч.

✔ Помнік Уладзіміру Мулявіну будзе ўсталяваны ў Екацярынбургу. Гэту ідэю падтрымаў міністр культуры Расіі Уладзімір Мядынскі на рабочай сустрэчы з міністрам культуры Беларусі Паўлам Латушкам падчас XXI Міжнароднага фестывалю мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску”. Галоўнай тэмай гутаркі міністраў сталі пытанні далейшага ўзаемадзеяння ў сферы культуры.

✔ Выстаўка дзевятнаццацігадовага беларускага мастака Яраслава Сафонава, студэнта Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, адкрылася ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі. У экспазіцыі прадстаўлена 20 карцін філасофскага зместу пад агульнай назвай “Памяць”. Мастак, нягледзячы на свой даволі малады ўзрост, ужо з'яўляецца лаўрэатам шэрагу міжнародных фестываляў і конкурсаў. Гэтая выстаўка для яго — сямнаццатая па ліку.

✔ Беларускія нацыянальныя строі і ручнікі з Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН экспануюцца ў Парыжы. Адкрыццё выстаўкі суправаджалася канцэртам класічнай музыкі з удзелам прафесійных беларускіх выканаўцаў. Экспазіцыя выклікала вялікі інтарэс у французскай інтэлігенцыі.

✔ У Чачэрску з'явіцца бібліятэка ў гонар заснавальніка горада графа Чарнышова. Яна будзе працаваць пры мясцовым гісторыка-этнаграфічным музеі. Аснову фондаў складуць творы аўтараў, якія жылі ў часы графа Чарнышова — у канцы XVIII — пачатку XIX стст. Стварэнне бібліятэкі прымеркавана да Года кнігі і 290-годдзя з дня нараджэння графа Захара Чарнышова.

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Літаратурны аўторак

**Па ініцыятыве Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі ў летнія канікулы ў кінатэатры “Ракета” раз на тыдзень перад пачаткам дзіцячага кінасеанса праводзіцца сустрэча з беларускімі дзіцячымі пісьменнікамі.**

Лізавета ПАЛЕЕС

“Пісьменніцкі аўторак” — так называецца гэтая невялікая, але вельмі патрэбная акцыя.

Не так даўно дзеці сустракаліся з пісьменніцай Аленай Міхаленкай, знаёміліся з яе апавяданнямі і вершамі. Кніжка пісьменніцы “Добрые сказки”, выдадзена па блаславенні Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта. Алена Іосіфаўна, — педагог, а таксама рэдактар газеты “Воскресение” на вельмі простых і зразумелых прыкладах, мякка і ненадакучліва дае запамінальныя ўрокі дабрыні, узаемаразумення, любові да бліжняга.

А некалькі дзён таму ў госці да хлопчыкаў і дзяўчынак завітаў пісьменнік Міхаіл Дзеравянка, не толькі аўтар фантастычных твораў і дзіцячых казак, але і заснавальнік і рэдактар цэлай серыі часопісаў для дзяцей: “Мишутка”, “Тигра”, “Мамино солнышко”, “Журавлик”.

— Дзіцячая літаратура, вядома ж, павінна вучыць дабрыні, гэтай вечнай і жаданай перамозе дабра над злом, — упэўнены Міхаіл Андрэевіч, — але мэта нашых часопісаў яшчэ і развіваць. Мы стараемся ў даступнай забаўляльнай форме навучыць дзяцей самастойнаму мысленню, уважлівасці, правільнай гаворцы... Бо, па меркаванні псіхолагаў, у 5 — 7 гадоў яны незвычайна ўспрымальныя да ўсяго, і малы ў гэтым узросце можа запомніць столькі, колькі яму часам не адужаць за ўсё астатняе жыццё.

Міхаіл Андрэевіч прыйшоў да дзяцей не адзін, а з казачнымі героямі сваіх твораў — Мішуткам і Гузікам, якія прапанавалі хлопчыкам і дзяўчынкам рашыць задачы, разгадаць загадкі і шарады ды адказаць на пытанні.

Дзеці, сярод якіх былі і часовыя выхаванцы дзіцячага прытулку, вельмі шчыра радаваліся сустрэчы, падарункам — кніжкам і часопісам. Ды запрашалі часцей прыходзіць у госці.

## Прынятыя ў СПБ



**Марціновіч Дзяніс Аляксандравіч**
*Літаратурны крытык*

Нарадзіўся 8 жніўня 1986 года ў Мінску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і магістратуру таго ж факультэта. Працуе літаратурным аглядальнікам у газеце “Літаратура і мастацтва”. Друкаваўся ў часопісах “Беларуская думка”, “Мастацтва”, Роднае слова”, у газетах “Культура”, “ЛіМ”, “Настаўніцкая газета”. Літаратурныя даследаванні прысвечаныя жыццю і творчасці Івана Чыгрынава, Уладзіміра Караткевіча. Лаўрэат рэспубліканскіх навуковых конкурсаў. Лаўрэат Спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы адораных навучэнцаў і студэнтаў.



**Марчанка Валерый Рыгоравіч**
*Празаік*

Нарадзіўся 7 верасня 1954 года ў Томскай вобласці (Расія). Скончыў Разанскае вышэйшае паветрана-дэсантнае камандные двойчы Чырванасцяжнае вучылішча, інстытут павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў УА “Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава”. Аўтар кнігі “Афган: разведка ВДВ в действии” (2009). Працуе галоўным спецыялістам упраўлення ідэалагічнай работы Віцебскага аблвыканкама. Узнагароджаны двума ордэнамі Чырвонай Зоркі, ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга Рэспублікі Афганістан і 17 медалямі. Палкоўнік запасу.

# Цэнтр прыцягнення

Раіса МАРЧУК

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Асаблівасць сёлетняга фэсту ў тым, што ён праводзіўся пад знакам некалькіх творчых юбілеяў: 25-годдзя Нацыянальнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга, 75-годдзя Дзяржаўнага акадэмічнага ансамбля народнага танца імя Ігара Майсеева, юбілеяў Льва Лешчанкі і народнага артыста Беларусі Аляксандра Ціхановіча.

Традыцыйна шырока на “Славянскім базары” прадстаўлена культура Беларусі. Сярод новых праектаў — сімфа-рокавая праграма “Ураган” у выкананні Прэзідэнцкага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам Віктара Бабарыкіна, якая з вялікім поспехам была прадстаўлена ў канцэртнай зале “Віцебск”. У Дзень Беларусі адбылася прэзентацыя мастацкай кінастужкі “Адзінокі востраў” (сумесная вытворчасць Беларусі, Латвіі і Эстоніі), удзельніка конкурснай праграмы прэстыжнага Маскоўскага міжнароднага фестывалю. Прыемна, што большая частка здымачнай групы — прадстаўнікі Нацыянальнай кінастудыі “Беларусьфільм”.

Упершыню на фестывалі заявіў пра сябе Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага са спектаклем “Пане Каханку” Андрэя Курэйчыка. Многім гараджанам і гасцям Віцебска пашанцавала пабачыць адну з самых відовішчных і яркіх пастановак у рэпертуары тэатра. Завяршыўся Дзень Беларусі гала-канцэртам майстроў мастацтваў, які традыцыйна збірае поўную залу. Асноўная ідэя праграмы “Зямля беларуская” — своеасаблівы зварот да гісторыі і культуры Беларусі, пацвярджэнне прыгажосці нашай сінявокай старонкі.

Віцебскі фэст — адзін з буйнейшых культурных праектаў Саюзнай дзяржавы. Падчас прэс-канферэнцыі дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Рыгор Рапота зазначыў, што, безумоўна, уражвае размах самога дзейства. “Гэта свята не толькі для жыхароў Віцебска і Беларусі, гэта свята для расіян, украінцаў, для ўсіх тых, хто сюды прыехаў. Падчас нашай сустрэчы з губернатарам Віцебскай вобласці Аляксандрам Косінцам мы абмеркавалі, які ж эканамічны, культурны і інтэлектуальны патэнцыял Віцебшчыны і што можа быць выкарыстана для далейшага супрацоўніцтва ў рамках Саюзнай дзяржавы. Мяне ўразілі тыя праграмы, якія распрацоўваюцца сёння кіраўніцтвам гэтага рэгіёна ў многіх сферах. Усе яны знаходзяцца на вастрыні тэхнічнага прагрэсу. У будучым мы вырашым, якія праекты можна рэалізаваць менавіта на віцебскай зямлі”, — распавёў Рыгор Рапота.

— Што датычыць сумесных літаратурных праектаў, то камісія па культуры іх акрэсліла, яны прапрацоўваюцца і абавязкова будуць ажыццёўлены, — зазначыў член Камісіі парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі па заканадаўстве і рэгламенце, дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Мікалай Самасейка падчас размовы ў Міжнародным прэс-цэнтры. — Таксама на апошняй сесіі Парламенцкага сходу Беларусі і Расіі прынята рашэнне, па-першае, аб павелічэнні фінансавання праектаў у гуманітарнай сферы. Па-другое, аб рэалізацыі ўнікальнага і затратнага праекта — здымках кінастужкі, прысвечанай вайне 1812 года.

Дарэчы, і беларускі, і расійскі бакі выказаліся ў адным кірунку: каб не атрымалася, што гэты фільм нас разлучыў. У яго здымках возьмуць удзел не толькі Расія і Беларусь, але і Германія, Венгрыя, Аўстрыя, Францыя.

Кожны год у Віцебск прыязджаюць маладыя артысты, якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў сваіх краінах. Усе кропкі над “і” расставіў 21-ы Міжнародны конкурс выканаўцаў эстраднай песні “Віцебск-2012”. Самы напружаны — другі дзень конкурсу, падчас якога прагучала 20 лепшых галасоў. Гран-пры атрымаў спявак з Македоніі Бобан Майсоўскі.

І хаця “Славянскі базар” завяршыўся, над Віцебскам працягвае вітаць дух славянскага яднання… Ён жыве і будзе жыць!

## Да 200-годдзя вайны 1812 года

# Гусары… уланы… героі…

**На Магілёўшчыне ўрачыста адзначылі 200-годдзе Айчыннай вайны 1812 года. Святкаванне абласнога маштабу адбылося ў гадавіну славутай бітвы ля вёскі Салтанаўка, дадзенай генералам Раеўскім французскаму палкаводцу Даву, і на месцы гэтай бітвы, ля капліцы, узведзенай у памяць герояў, што загінулі тут.**

Наталля МАСЛАВА

Узгадаць пра Салтанаўку сёння магіляўчан прымусіла не толькі юбілейная дата. Зусім нядаўна Магілёўскім гісторыка-патрыятычным клубам “Виккру” каля вёскі было знойдзена пахаванне трох рускіх салдат часоў вайны 1812 года. І гэтая падзея можа лічыцца сапраўды сенсацыйнай. Было прынята рашэнне ўрачыста перапахаваць герояў у Салтанаўскай капліцы ў гадавіну бітвы.

Гэтым актам нашай памяці і павагі, які суправаджаўся хрэсным ходам ды малебнам, і распачаліся юбілейныя ўрачыстасці. Падчас мітынгу, удзел у якім узялі прадстаўнікі абласнога кіраўніцтва, духавенства, пасольства Расіі ў Беларусі, неаднаразова падкрэслівалася веліч герояў бітвы пад Салтанаўкай, самай буйной для пачатку вайны 1812 года. І тое, што магіляўчанам варта ганарыцца продкамі. Бо Магілёў быў адзіным з вялікіх гарадоў Беларусі, які адмовіўся сустракаць Напалеона “хлебам-соллю”, абраўшы для “прыёму” заваёўніка гарматы. Гонарам зямлі таксама варта лічыць абаронцаў Бабруйскай крэпасці, якія некалькі месяцаў паспяхова стрымлівалі напалеонаўскіх салдат.

Насычаны тэматычнымі літаратурнымі і музычнымі нумарамі канцэрт, які адбыўся адразу пасля мітынгу, змяшчаў элементы тэатралізацыі. На пляцоўцы перад капліцай час ад часу артысты у сучасным адзенні змянялі “пастаці з мінулага” — у мундзірах і ківерах. А паміж канцэртнымі нумарамі адбылося падвядзенне вынікаў Літаратурнага конкурсу паэтаў і празаікаў Расіі і Беларусі “Далёкому мужеству верность храня…” Ініцыятарам і арганізатарам яго выступіла Рускае культурна-асветніцкае таварыства. Пераможцаў у дзвюх намінацыях: “Паэзія” і “Малая проза” — вылучала кампетэнтнае журы, у склад якога ўвайшлі прафесійныя пісьменнікі і выкладчыкі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова. Перамога сярод паэтаў ва ўзроставай групе 14 — 18 гадоў дасталася магіляўчанцы Юліі Дзерыбалот, у групе 18 — 35 гадоў — брастаўчаніну Дзмітрыю Шылянкову, у старэйшай узроставай групе — Барысу Вароніну. Сярод празаікаў сталі лепшымі дзесяцігадовая мінчанка Ліза Багадзяж, сямнаццацігадовы магілёўскі школьнік Ілья Лукойц з Магілёва і курскі журналіст Якаў Салодкін — у старэйшай узроставай групе. Канкурсанты, якія так удала ўвасобілі ў сваіх творах постаці часоў вайны з Напалеонам, атрымалі дыпломы і ілюстраваныя гістарычныя кнігі.

Між іншым, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Мікалай Пераяслаў, павіншаваўшы членаў “Рускага культурна-асветніцкага таварыства” з тым, што на магілёўскай зямлі нараджаецца новы, незвычайна цікавы літаратурны праект у выглядзе згаданага конкурсу, выказаў жаданне стаць адным з яго сузаснавальнікаў пры правядзенні чарговага міжнароднага спаборніцтва.

Літабсягі

# Свята над ракой Арэсай

**На Любаншчыне, у вёсцы Камуна, ярка і весела прайшло III раённае свята паэзіі і песні "Я словам слаўлю родны край". Прымеркаванае да 130-гадовага юбілею Янкі Купалы, яно сабрала аматараў прыгожага слова і задушэўнай мелодыі на зямлі, апетай Песняром у паэме "Над ракой Арэсай", у мясцінах, дзе жывуць і працуюць шматлікія нашчадкі герояў праслаўленага паэтычнага твора.**

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,**
**фота аўтара**

Наўрад ці Купала, ствараючы ў 1933 годзе паэму пра апантаных чырвонаармейцаў, якія асушылі тутэйшыя балоцістыя мясціны, стварылі камуну і ўжо на другі год пасля гэтага дабіліся незвычайна высокага ўраджаю, асэнсоўваў, якое важнае значэнне для іх нашчадкаў, жыхароў вёскі Камуна, ды і для ўсёй Любаншчыны будзе яна мець. Твор класіка разглядаецца сёння як каштоўнае сведчанне эпохі, якая патрабавала сплаву літаратуры і публіцыстыкі, каб сродкамі мастацкага слова данесці сэнс грандыёзных падзей да шырокіх мас.

Святу ў вёсцы Камуна папярэднічала навуковая канферэнцыя ў Любані, прысвечаная паэме "Над ракой Арэсай". Сімвалічна, што сярод удзельнікаў яе быў дзевяностагадовы літаратар Іван Муравейка, легенда Любаншчыны і адзін з самых вядомых у Беларусі дзіцячых пісьменнікаў.



*Маленькія пераможцы конкурсу чытальнікаў Яна Кузняцова і Соф'я Акуліч.*

— Тым, хто захоча, вывучаючы Палескі край, зразумець яго і палюбіць усім сэрцам, трэба проста ўзяць у рукі паэму "Над ракой Арэсай", — упэўнены ён. — Там ёсць усё, і нават больш, чым мы пакуль заўважаем. Купала быў з тых, хто добра разумеў: вёска павінна перабудоўвацца, беднасць і забітасць трэба пакінуць у гісторыі. Таму ён з такой сімпатыяй ставіцца да камунараў, так любоўна вымалёўвае іх постаці.

Доктар філалагічных навук Таццяна Дасаева, краязнаўца Анатоль Вялічка і пісьменнік Уладзімір Ліпскі таксама падкрэслілі непаўторнасць паэмы, якая ўзнікла ў надзвычай драматычны час, пасля амаль двухгадовага паэтычнага маўчання класіка.

Перамясціўшыся ў вёску Камуна на канцэртную пляцоўку пад адкрытым небам, свята набыло рысы народнага гуляння. Галоўнымі дзеючымі асобамі сталі пераможцы раённага конкурсу чытальнікаў паэтычных твораў і самадзейныя паэты Любаншчыны. Гучалі песні, напісаныя Любанскімі кампазітарамі на словы мясцовых жа аўтараў, працавала выстаўка друкаванага слова літаратараў Любаншчыны, прэзентаваліся іх кнігі. Актрыса і кіраўнік паэтычнага тэатра "Зьніч" Галіна Дзягілева прадставіла ўрыўкі са спектакля пра Купалу "Мне сняцца сны аб Беларусі".

Артлінія

# Пленэр на Дзяржыншчыне

**Міншчына славіцца прыгожымі краявідамі. І зусім невыпадкова ў вёску Вялікае Сяло, што на Дзяржыншчыне, які ўжо год запар з'язджаюцца мастакі з праблемамі слыху, прадстаўнікі многіх гарадоў Расіі, каб стаць удзельнікамі пленэру "R + Я". Гэтым летам пленэр ладзіўся дзявяты раз.**

**Лявон ЦЕЛЕШ,**
**фота аўтара**

На Дзяржыншчыну прыехалі мастакі (сярод іх шмат прафесіяналаў) з Масквы і Падмаскоўя, Санкт-Пецярбурга, Тулы, Кіева. З Гомеля прыбыў адзін з ініцыятараў пленэру, яго заўсёдны ўдзельнік, аўтар цыкла твораў "Чарнобыль", выдатны педагог-мастак Васіль Сідарэнка, а разам з ім — колішні вучань, цяпер студэнт Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Аляксандр Пакацілa. Удзельнікамі пленэру былі студэнткі Расійскага дзяржаўнага спецыялізаванага інстытута мастацтваў, а таксама сталыя прафесіяналы, члены Саюза мастакоў Расіі. Нягледзячы на ўзрост, з Тулы прыехаў выдатны творца Анатоль Мельнік, які на сваёй радзіме ўзначальвае арттрупу глухіх мастакоў "Данка". Украіну прадстаўляў Міхась Паплаўка — прэзідэнт Кіеўскага саюза глухіх мастакоў "Натхненне".

Для ўсіх гэтых таленавітых людзей, з дзяцінства пазбаўленых магчымасці ўспрымаць гукі, выяўленчае мастацтва замяняе музыку. Работы амаль усіх удзельнікаў пленэру знаходзяцца ў многіх музеях, прыватных калекцыях Францыі, Польшчы, Германіі. Расіі… Як і ў мінулыя гады, гасцей сустракала мастак-педагог, дырэктар Дзяржынскага раённага Дома народнай творчасці, што знаходзіцца ў Вялікім Сяле, Наталля Ермаловіч. Акрамя прыгожых летніх краявідаў Вялікага Сяла яны малявалі іншыя куткі Дзяржыншчыны, а таксама прыгарада Мінска.

У Доме народнай творчасці нядаўна з'явіўся незвычайны абраз пад сімвалічнай назвай "Вылячэнне глухога" — падарунак ад Міхася Паплаўкі. На заканчэнне пленэру ў цэнтры Дзяржынска, ля гарадскога фантана, была разгорнута выстаўка работ, створаных падчас пленэру. Месцічы з вялікай цікавасцю глядзелі на карціны. На развітанне мастакі пакінулі цёплыя сяброўскія лісты, у якіх выказалі глыбокую ўдзячнасць арганізатарам пленэру: аддзелу культуры Дзяржынскага райвыканкама, дырэктару і педагогам вялікасельскай сярэдняй школы, добразычлівым і гасцінным мясцовым жыхарам.



*Ля Сажалкі. Малюе Аксана Коўнер.*

Уражанні мастакоў нібы абагульняе выказванне расіяніна Андрэя Авяр'янава: "Душа Беларусі — ветлыя, уважлівыя людзі. Пленэр у Вялікім Сяле — лепш за ўсялякія лекі. А Наталля Ермаловіч для нас — як сапраўдная маці".

У наступным годзе мастакі плануюць прыехаць сюды на 10-ы, юбілейны пленэр "R +Я".

Повязі

# Свет абразоў

**"Шануем вобраз Твой святы" — пад такою назваю ў Доме Масквы адкрылася выстаўка праваслаўных абразоў, вышытых бісерам матушкай Святланай Семашкевіч. Яе арганізатарамі выступілі Дэпартамент знешнеэканамічных і міжнародных сувязей горада Масквы і Беларускі саюз жанчын.**

**Дар'я ШОЦІК**

Ва ўтульнай зале, дзе прадстаўлена больш як 30 незвычайных, цудоўных работ, прысутныя ўглядаліся ў абразы, каб натапіць душу чысцінёй і спакоем. Вялікую цікавасць да выстаўкі выклікала тое, што яна прымеркавана да Усерасійскага дня сям'і, кахання і вернасці, калі Праваслаўная Царква ўспамінае святых Пятра і Феўронню, жыццё якіх з'яўляецца прыкладам кахання і вернасці. Таму другая назва экспазіцыі — Дзень Пятра і Феўронні Мурамскіх.

Матушка Святлана Семашкевіч каля 20 гадоў вышывае бісерам абразы, выкарыстоўваючы ўнікальную тэхналогію, якая аб'ядноўвае складанасць і маляўнічасць візантыйскай мазаікі з прыгажосцю спрадвечнай вышыўкі. У яе творчых работах маюцца таксама парча, жэмчуг, аксаміт.

— Абраз — гэта святы цуд, які дапамагае чалавеку знайсці радасць, прыгажосць, спазнаць усю духоўную сілу, — патлумачыла матушка Святлана. — Гэта карпатлівая работа, над якой трэба пасядзець вельмі доўга: 18 гадзін або 3 гады, але з Божай дапамогай усё атрымліваецца.

Матушка Святлана Семашкевіч за сваю высакародную і высокамастацкую работу на карысць Праваслаўнай Царквы была адзначана шматлікімі граматамі і дыпломамі, сярод якіх — узнагароды ад Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

На адкрыццё экспазіцыі завіталі настаяцель Храма Уваскрэсення Хрыстова, протаіерэй Георгій Арбузаў, старшыня Пастаяннай камісіі па адукацыі, навуцы, культуры і сацыяльным развіцці Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Антаніна Морава ды іншыя.

— Дзейнасць Дома Масквы ў Мінску — гэта рэалізацыя культурных і дзелавых праектаў, — зазначыла прэс-сакратар Дома Масквы Святлана Панцялеева. — Такім творчым, мастацкім праектам з'яўляецца выстаўка "Шануем вобраз Твой святы", дзе паказана прыгажосць і любоў да Бога.



*Адна з цудоўных работ матушкі Святланы Семашкевіч.*

З-пад пяра

➤ Конкурс "Мазырская палітра", распачаты дзесяць гадоў таму для навучэнцаў дзіцячых мастацкіх школ і студый, у гэтым годзе прайшоў у новым афіцыйным статусе — першага адкрытага абласнога мастацкага конкурсу. Аднак бралі ўдзел у ім не толькі маладыя мастакі з Гомельшчыны, але з усёй Беларусі, нават з Расіі і Украіны. Каб выявіць пераможцаў і прызёраў у чатырох асноўных намінацыях (станковай і дэкаратыўнай кампазіцый, скульптуры і мастацкага фотаздымка) трох узроставых катэгорый, членам журы давялося ацаніць 524 работы. Тэма, прапанаваная канкурсантам, — "Герой нашага часу". Як аказалася, самыя папулярныя прафесіі — урач, выратавальнік і спартсмен.

**Тамара АНІСІМАВА**

➤ Вечары хрысціянскага дакументальнага кіно ўпершыню прайшлі ў Гродне. У кінапраграму былі ўключаны стужкі, якія занялі прызавыя месцы на Міжнародным каталіцкім фестывалі хрысціянскіх фільмаў Magnificat, а таксама ўзнагароджаныя на іншых вядомых фестывалях. Вялікую цікавасць у гледачоў выклікалі фільмы рэжысёра Аляксандра Лавыша "Промень надзеі" пра нялёгкую працу гродзенскага святара, які спавядае зняволеных, расіяніна Тофіка Шахвердзіева "Свет прастадушных", прысвечаную творчасці людзей з сіндромам Даўна, амерыканскага кінамайстра Рона Шміта "Лабірынт" — пра паляка Мар'яна Каладзея, які пабываў у канцлагеры Аўшвіц.

**Іван ЗАРАНКА**

➤ У Мінску з'явілася новая магчымасць добра правесці час, і назва ёй — "фотасушка". Акцыя праходзіць пад адкрытым небам у пэўным месцы, пра якое ўдзельнікі могуць даведацца праз групы фотасушкі ў сацыяльных сетках "Facebook" і "В контакте". Фотаздымкі, якія былі адпраўлены на першасную развеску, размяшчаюцца валанцёрамі на вяроўках з дапамогай звычайных бялізнавых прышчэпак. На адваротным баку фотаздымкаў аўтары пазначаюць свае кантактныя тэлефоны, электронныя адрасы і іншыя спосабы сувязі. Сэнс акцыі ў тым, што ты можаш забраць сабе любую фотакартку, але на яе месца абавязкова трэба павесіць сваю.

**Вера ЖЫДАЛОВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі глыбока смуткуе ў сувязі са смерцю паэтэсы Веры ВЯРБЫ і выказвае глыбокае спачуванне яе родным і блізкім.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніцы Маргарыце Прохар з выпадку смерці маці — ПРОХАР Марыі Мікалаеўны.

Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, генерал-лейтэнанту ў адстаўцы Іванову Юрыю Сцяпанавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ Лідзіі Іосіфаўны.

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму эканамісту фінансава-эканамічнага ўпраўлення Надзеі Міхайлаўне Гарбуз у сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю МАЦІ.

Калектыў установы "Рэдакцыя часопіса «Вясёлка»" смуткуе і выказвае шчырае спачуванне пісьменніцы, журналістцы Маргарыце Прохар з прычыны гора — смерці МАЦІ.

*Да 130-годдзя Янкі Купалы*

# Хлопчык і лётчык

**У маладыя гады я, як і ўсе ваеннаабавязаныя, праходзіў вайсковую службу ў Савецкай Арміі. Служыць давялося аж тры гады… Было і цяжка, і сумна, бадзёра і весела… Але найперш запомніліся мне людзі, з якімі давялося жыць побач адной вялікай армейскай сям'ёй. Гэта мае пагодкі: паэт Эдуард Зубрыцкі, будучы дыпламат Уладзімір Грыгор'еў, будучы генерал Іван Мінько, рэжысёр Валерый Жыгалка…**

**Генадзь ГОВАР**

Пра Барыса Вялічку згадаю больш падрабязна, бо ён быў маім сябрам усе тры гады ў войску і апасля… Пазней, калі ён захаваўся ў маю сястру Алу і ў рэшце рэшт стаў маім шваграм, наша сяброўства перарасло ў сямейныя адносіны. Цяпер Барыс Вялічка працуе ў Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Ф. Скарыны — выкладае англійскую мову.

Барыс Сцяпанавіч родам з вядомай вёскі Ляўкі Аршанскага раёна. Гасцяваў у Ляўках і я — прыгожая вёска, цудоўныя людзі. Высокі лясісты бераг Дняпра, трохі ніжэй па плыні знакамітая сваёй кафляй старажытная Копысь, насупраць яе, на другім беразе Дняпра, — вёска Александрыя…

У свой час Іван Дамінікавіч Луцэвіч аблюбаваў гэтыя мясціны. У 1935 годзе ўрадавай пастановай ад 11 снежня ў сувязі з 30-годдзем творчай дзейнасці паэту былі выдзелены сродкі на будоўлю дачы. Дзе будаваць? Такога пытання для Івана Дамінікавіча не існавала. І ў тым жа годзе побач з Копыскім лясніцтвам вырас новы бурштынавы дом са звонкай смалістай сасны. У тым жа 1935 годзе выйшла яшчэ адна ўрадавая пастанова аб узнагароджанні Янкі Купалы легкавым аўтамабілем "М-1", які ў 1939 годзе быў заменены на "Шэўрале". Іван Дамінікавіч Луцэвіч вельмі любіў адпачываць тут, на Дняпры. Але адпачынак паэта — гэта заўсёды і творчая праца…

Як высветлілася пазней, з аповеду Барыса Сцяпанавіча і яго старэйшага брата Уладзіміра Сцяпанавіча, Іван Дамінікавіч сябраваў са Сцяпанам Вялічкам — іх бацькам. Сцяпан Емяльянавіч у той час працаваў бухгалтарам у Копыскім лясніцтве. Яно знаходзілася зусім побач. Сцяпан Емяльянавіч нарадзіўся ў 1896 годзе і быў маладзейшым за Івана Дамінікавіча на чатырнаццаць год, але гэта не замінала іх зычлівым адносінам. Малады супрацоўнік лясніцтва знаёміў Івана Дамінікавіча з патаемнымі куточкамі прыдняпроўскага лесу, распавядаў пра жыццё Ляўкоў… Давяральныя адносіны ўсталяваліся і паміж іхнімі сем'ямі. Луцэвічы куплялі малако, гародніну і садавіну ў Вялічкаў. Малако штораніцы прыносілі Сцяпан Емяльянавіч ці ягоная жонка Лідзія Фёдараўна. Заўсёды навідавоку быў першынец Вялічкаў — Валодзя.

Янка Купала любіў забаўляцца з Валодзем, расказваў яму казкі і байкі, задаваў нечаканыя пытанні, частаваў усялякай сталічнай смакатой, катаў па ваколіцах Ляўкоў на аўтамабілі. І, што самае цікавае, менавіта Валодзя Вялічка стаў прататыпам героя яго верша "Хлопчык і лётчык":

*— Мой мілы таварыш, мой лётчык,*
*Вазьмі ты з сабою мяне!*
*Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык*
*І ўмею ўжо лётаць у сне.*
*Мне мама сягоння казала,*
*Што стукнула мне ўжо сем год.*
*Табе гэта, можа, і мала,*
*А мне ляцець толькі ў палёт.*
*Мне ўжо надакучыла дома —*
*У дзіцячы хадзі адно сад.*
*А так паглядзеў бы, вядома,*
*На іншы парадак і лад.*
*Вазьмі ж мяне, лётчык, хачу я*
*Пабыць у людзях, паглядзець,*
*Як месяц на небе начуе,*
*Як блукае ў лесе мядзведзь,*
*Як свецяцца ночкаю зоры,*
*А днём не відаць іх чаму,*
*Як рэчкі ў далёкія моры*
*Улетку плывуць і ўзіму.*
*На моры зірнуць хоць раз вокам,*
*Як ходзяць па іх караблі,*
*Ляцеці далёка, высока*
*Ды так пабываць і ў Крамлі...*
*Вось гэтак у добрым здароўі*
*Мы будзем ляцець і ляцець.*
*Вазьмі ж мяне, лётчык, з сабою,*

*Не будзеш ты клопату мець!*

Факт прысвячэння пацвердзяць жыхары Ляўкоў і ўсіх навакольных вёсак. Дакументы сведчаць: "… у 1941 годзе дача ў Ляўках стала прытулкам для паэта пасля таго, як згарэў яго дом у Мінску (24.06.1941 г.). Але праз тыдзень згарэла і дача паэта ў выніку варожага артабстрэлу". Ва ўрадавай пастанове ад 4 жніўня 1945 года за № 1139-292 у пункце 4-м запісана: "Адбудаваць дачу Янкі Купалы ва ўрочышчы Ляўкі, Аршанскага раёна, Віцебскай вобласці, спаленую нямецка-фашысцкімі захопнікамі, і стварыць там філіял Літаратурнага музея Янкі Купалы…" Будынак дачы быў адноўлены ў 1981 годзе паводле макета мастакоў Я. Раманоўскага і Ф. Анісовіча (макет захоўваецца ў музеі). У будынку дачы створана мемарыяльная экспазіцыя, а ў будынку канторы былога Копыскага лясніцтва, дзе ў 30-я гады спыняўся Янка Купала, размешчана гісторыка-літаратурная экспазіцыя, якая прадстаўляе жыццё і дзейнасць паэта ў складаныя 30-я гады".

Думаю, чытачам будзе цікава даведацца, як склаўся лёс Валодзі Вялічкі, прататыпа героя верша Янкі Купалы "Хлопчык і лётчык". Уладзімір Вялічка атрымаў вышэйшую адукацыю ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Працаваў старшынёй калгаса імя Янкі Купалы Аршанскага раёна і дэпутатам Вярхоўнага савета БССР. Кавалер ордэна Леніна і іншых урадавых узнагарод. Мае сына, дзвюх дачок і шмат унукаў.

*Даніна памяці*

# Застаецца Асобай

**Аляксей ЛІТВІН**

**Відаць, кожны з нас памятае першых настаўнікаў. Сваю першую настаўніцу я прыгадваю літаральна па днях з першага па чацвёрты клас. Менавіта са школьных уражанняў пра Аляксандру Гесь хацелася б пачаць свой аповед.**



У Семігосціцкую школу яна прыехала пасля заканчэння педагагічнага вучылішча разам са сваёй сяброўкай Кацярынай Невяроўскай у жніўні 1958 г. Узгадваю, як нас, першакласнікаў, размяркоўвалі па класах. Я трапіў у 1 "Б", да Аляксандры Мікалаеўны.

Дзяўчаты-настаўніцы многае рабілі не так, як гэта было да іх, не па накатанай гадамі школьнай методыцы, а як падказвала маладое, няўрымслівае сэрца — літаральна "гарэлі" на працы. Толькі сёння я разумею, чаму кожны дзень мы вярталіся са школы на паўгадзіны ці болей пазней. Нам прывівалі навыкі і любоў да працы на зямлі, на дзялянках у школьным агародзе, дзе вырошчвалі бульбу і кукурузу, збіралі па вёсцы попел, металалом і макулатуру, і заўсёды нашыя класы былі першымі. Сяброўкі стварылі школьны хор, мастацкую самадзейнасць, у якой іх класы бралі ўдзел амаль у поўным складзе.

Яшчэ адным "эксперыментам" была амаль поўная прысутнасць настаўніцы ў жыцці вучняў. Пасля заняткаў яна чытала нам казкі народаў свету, прыгодніцкія гісторыі, прапаноўвала пераказваць перад класам тое, што мы чыталі дома. Наведванне хворых вучняў у любую пару года было няпісаным правілам для таго часу. Яна ведала, дзе і як жыве кожны, ведала бацькоў, сваякоў. Шчырасць, цеплыню, а таксама строгасць і правільнасць настаўніцы адчувалі ўсе.

З другога класа Аляксандра Мікалаеўна вучыла нас пісаць сачыненні. Спецыяльна купляла для гэтага сшыткі. Памятаю, што рэдка калі ўдавалася мне ўмясціць свае думкі ў школьны сшытак. Не ведаў я, што мае сачыненні потым зачытваліся ў настаўніцкай.

Шмат можна сказаць пра тыя гады.

У час веснавой паводкі ў школу трэба было плысці на лодках. Малады настаўніцы, якія да гэтага ніколі не трымалі ў руках вёслаў, выдатна асвоілі новую для іх справу.

Чытанне прыгодніцкіх апавяданняў прывяло да таго, што мы пачалі будаваць ранняй вясной 1962-га плот, на якім планавалі з прыходам веснавой паводкі здзейсніць падарожжа па Прыпяці ў Днепр, а затым у Чорнае мора і далей у краіну "райскай" птушкі. Цягаючы па вадзе бярвенне, уся наша група з шасці чалавек папрастуджвалася. Я больш як месяц праляжаў у бальніцы. Аляксандра Мікалаеўна перад ад'ездам на вучобу ва ўніверсітэт адведала мяне. Абліваючыся слязьмі, я паведаміў ёй пра словы доктара Сыса, што, маўляў, лётчыкам і тым больш касманаўтам мне ўжо не быць. Не ведаю, што гаварыла яна пасля гэтага доктару, але праз некалькі дзён ён падарыў мне кніжку ўспамінаў слыннага ваеннага лётчыка Дзмітрыя Мядзведзева.

Падчас вучобы ў Мінску Аляксандра Мікалаеўна падтрымлівала са мной перапіску. Яе лісты я акуратна складваў і захоўваў цягам усіх школьных гадоў. Калі мы заканчвалі дзесяцігодку, А. Гесь прыехала паглядзець на свой клас. З больш як 60 чалавек былых 1 "А" і 1 "Б" завяршылі вучобу 16.

Яшчэ раз Аляксандра Мікалаеўна прыязджала ў вёску ў 80-я гады, калі мы з ёй працавалі ў Гістпарце.

Пра гэты перыяд у яе жыцці хацелася б сказаць колькі слоў.

На пасаду малодшых навуковых супрацоўнікаў мы трапілі ў адзін год. Навуковая дзейнасць у Гістпарце — асаблівы перыяд у жыцці кожнага, хто там працаваў. З аднаго боку, Гістпарт даваў магчымасць знаёміцца з шырокім колам крыніц, якія былі недаступныя іншым даследчыкам, з другога — выключная адказнасць, вернасць лініі партыі, патрабавальнасць да матэрыялаў, якія выходзілі з рук яго супрацоўнікаў. Тады ў Гістпарце працавала шмат высокаадукаваных спецыялістаў, у горшым стане сярод якіх знаходзіліся тыя, хто не меў дыплома кандыдата навук. Аднак пропуск у навуковы свет даюць не толькі навуковыя ступені. І сваёй руплівай дзейнасцю А. Гесь пацвердзіла гэта. Зробленае ёю працуе на будучыню Беларусі. Памяць пра яе жыве ў свядомасці тых, хто яе ведаў.

**Даведка "ЛіМа"**

*Аляксандра Гесь нарадзілася 1 лютага 1940 года ў вёсцы Гусакі Нясвіжскага раёна. Закончыла Нясвіжскае педагагічнае вучылішча. У 1962 годзе паступіла на гістарычны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай гісторыі, дырэктарам у школах Баранавіцкага і Ляхавіцкага раёнаў. У 1975 г. пераехала ў Мінск, дзе яе прынялі на працу ў Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ. З восені 1991-га перайшла ў Беларускі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы, а ў 1995 г. перавялася ў Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Працягвала займацца грунтоўным вывучэннем нацыянальна-культурнага жыцця ў 1920 — 1930-я гг., даследавала лёсы "нацдэмаў" і нацыянал-камуністаў, рэпрэсіраваных у сталінскія часы, удзельнічала ў падрыхтоўцы дакументальных зборнікаў, актыўна друкавалася, асвятляючы дзейнасць прадстаўнікоў беларускага Адраджэння першай паловы ХХ ст.*

Усяго чатыры гады А. Гесь выкладала ў Семігосціцкай школе, але нават цяпер кожны, хто жыў у той час, добрым словам узгадвае настаўніцу. Я часта задумваўся, у чым прычына. Напэўна, у тым, што яна была і застаецца ў свядомасці людзей — Асобай.

Дзевяностадвухгадовая Ксенія Васільеўна Флар'яновіч, на кватэры якой жылі дзяўчаты, неяк прасіла мяне:

— Перадай Шуры прывітанне ды спытай, чаму яна перастала тэлефанаваць… Я кожны дзень яе ўспамінаю.

Сказаць цяжкахворай старой, якая ўжо пахавала мужа і траіх сыноў, што Аляксандры Мікалаеўны няма ў жывых, у мяне не хапіла моцы.

Няхай застаецца яна ў памяці чалавечай назаўсёды жывой!

# Гісторыя дзіўнага кахання

Віктар ШЫМОЛІН

**Пра знакамітага вядучага Цэнтральнага тэлебачання Аляксея Каплера мне калісьці было вядома няшмат. “Кінапанарама”, якую ён вёў, асвятляла шэры фон трафарэтных перадач нешматлікіх тэлеканалаў. Ды раптам тэлевізійны кумір знік з экрана. І хоць трагічныя трыццатыя адышлі ў нябыт, за гэтым знікненнем адчувалася нейкая таямніца.**

## Амаль што зяць Сталіна

Афіцыйныя ўлады маўчалі, а савецкія людзі, выгадаваныя на паўпраўдзе, спрабавалі знайсці ісціну ў газетных публікацыях, чытаючы іх “паміж радкоў”. Як водзіцца, нараджаліся чуткі.

Нечакана ў кабінет зазірнуў карэспандэнт аддзела культуры “Вячоркі” Аркадзь Бржазоўскі: “У Мінск прыязджае Каплер, вазьмі невялікае інтэрв'ю і сфатаграфуй старога. А то ён пакрыўдзіцца. Да таго ж мы будзем манапалістамі: наўрад ці хто з журналістаў іншых газет сустрэнецца з ім, гнаным”. Апошнюю фразу калегі я тут жа звязаў з загадкавым знікненнем Каплера з тэлеэкранаў.

Часу да сустрэчы заставалася ў абрэз, менш як суткі. І я раптам успомніў пра прафесара БДУ Бондараву. Еўфрасіння Леанідаўна, вядомы кіназнаўца, выклікала павагу студэнтаў шырынёй поглядаў, эрудыцыяй і незалежнасцю меркаванняў. Набіраючы нумар яе хатняга тэлефона, спадзяваўся на зычлівасць, характэрную рысу большасці выкладчыкаў журфака. На тым канцы провада адгукнуліся. Пачуўшы прозвішча “Каплер”, Еўфрасіння Леанідаўна ўсклікнула: “Дык гэта ж легендарная асоба!” “На жаль, — прызнаўся я, — мае веды пра гэту асобу абмежаваныя”. “І вы не ведаеце, што ён збіраўся стаць зяцем самога Сталіна?” — “На жаль”, — уздыхнуў я.

Аляксей Якаўлевіч нарадзіўся 11 кастрычніка 1904 года ў Кіеве. У 1919-м стаў акцёрам. Праз год сумесна з Сяргеем Юткевічам і Рыгорам Козінцавым арганізаваў у Кіеве тэатр “Арлекін”. З 1921 г. Каплер быў акцёрам ФЭКС — фабрыкі эксцэнтрычнага акцёра, арганізаванай у Петраградзе Рыгорам Козінцавым і Леанідам Траўбергам. У яе карцінах ён і пачаў здымацца, першую ролю сыграў у прыгодніцкім фільме “Чортава кола” (1926). У 1928 г. Аляксей Каплер быў асістэнтам Аляксандра Даўжэнкі на здымках “Арсенала”, а ў 1929 — 1930 гг. ставіў па ўласных сцэнарыях “культурфільмы” — карціны, якія папулярызавалі розныя галіны навукі і тэхнікі.

Савецкаму гледачу запомніліся стужкі, знятыя па сцэнарыях Каплера: “Тры таварышы” (1935), “Шахцёры” (1937), “Ленін у Кастрычніку” (1937) і “Ленін у 1918 годзе” (1939), “Катоўскі” (1942). Каплер удзельнічаў у Вялікай Айчыннай вайне. Яго артыкулы з партызанскіх атрадаў леглі ў аснову сцэнарыя “Яна абараняе Радзіму” (1943). Затым у біяграфіі Каплера быў загадкавы прабел: толькі ў 1956 годзе на экранах з'явілася кінастужка “За вітрынай універмага”, знятая па яго сцэнарыі.

Найвялікшы поспех спадарожнічаў пастаўленым па сцэнарыях майстра кінакамедыі “Паласаты рэйс” (1961) і карціне “Чалавек-амфібія” (1961, сумесна з Акібаш Гольдбергам і Аляксандрам Ксенафонтавым).

## Рыцар Веры Халоднай

…Раніцай наступнага дня я датэлефанаваўся да гасцінічнага нумара, у якім спыніўся Каплер. Адказу доўга чакаць не прыйшлося. У трубцы пачуў ціхі голас: “Ало! Вас слухаюць”. Прадставіўся і атрымаў дазвол на сустрэчу. У прызначаны час, з “лейкай і нататнікам”, далікатна пастукаўся ў запаветныя дзверы.

Перагортваю пажоўклыя лісткі, напружваю памяць. Ізноў ажывае голас Аляксея Каплера:

— ...З Адэсы я выбраўся аднойчы на кінафірму ФЭКС у Ленінград, дзе чакалі сябры дзяцінства і юнацтва Козінцаў і Траўберг. Ішлі здымкі, і я затрымаўся надоўга. Тэрмін камандзіроўкі даўно выйшаў. Каб пазбегнуць законнага пакарання, адправіў начальніку Адэскай кінастудыі тэлеграму, што захварэў на тыф. Вяртаюся, і дзесьці па дарозе зірнуў на сябе ў люстэрка. Божа мой! На мяне глядзеў тоўсты сыты твар. Які тут можа быць тыф? На бліжэйшым прыпынку пастрыгся ў прывакзальнай цырульні “пад Катоўскага” — нагала. Але падман усё адно адкрыўся, калі выйшаў фільм з маім удзелам.

Свой прыезд у Мінск Аляксей Якаўлевіч патлумачыў жаданнем пагаварыць з народам. Гэта жаданне з'явілася пасля таго, як яго, вядучага “Кінапанарамы”, якую чакала і глядзела ўся краіна, пазбавілі тэлеэфіру. Апошняя жонка Каплера Юлія Друніна ўспаміналა: “Развітацца з гледачамі Аляксею Якаўлевічу не далі, таму яго нечаканае знікненне з экрана выклікала дзікія чуткі. Як жартаваў ён сам, найбольш высакародныя з іх — раптоўны скон. А так — ці то “сеў” за валютныя аперацыі, ці то “рвануў” у чужыя краі...”

Гэтыя акалічнасці сталі вядомыя праз гады. А тады, у гасцінічным нумары, Каплер жаліўся на нейкія тэхнічныя складанасці, на тое, што парушаў ліміт перадачы, якая выходзіла ў эфір без папярэдняга запісу. Ужо потым я ўсвядоміў, што ён проста не жадаў выносіць смецце, распаўсюджвацца пра глыбінныя чыннікі ўзніклых супярэчнасцей, ускосна падстаўляць мяне, маладога журналіста.

Афіцыйнай прычынай прыезду ў Мінск, па словах суразмоўцы, было жаданне пазнаёміць сталічных кінааматараў з новымі кінастужкамі і з творчасцю актрысы Веры Халоднай. “Аляксей Якаўлевіч, — адзначала ў сваіх успамінах Юлія Друніна, — стаў рыцарам Веры Халоднай, светлая памяць якой была абліта абывацельскім брудам. У рамане Ю. Смоліча “Світанак над морам” і ў п'есе Г. Плоткіна “Досвіткам” гэта зорка экрана, трагічна памерлая ў дваццаць шэсць гадоў, патрыётка, якая адмовілася пакінуць радзіму, што палае ў агні грамадзянскай вайны, была выведзена як... шпіёнка і прастытутка”.

Ужо пасля смерці Аляксея Якаўлевіча Юлія Друніна распавяла пра некаторыя падрабязнасці яго сыходу з ТБ: “...бо перадача ўжо не ішла прама ў эфір, а запісвалася загадзя, начальства пры дапамозе нажніц выхоплівала з яе найбольш жывыя і вострыя кавалкі. Ды і шмат адбывалася такога, што Каплер лічыў проста злачынствам, напрыклад, сістэматычна знікаў “увесь найкаштоўнейшы, неадноўны матэрыял, які павінен быў захоўвацца, як валюта” — гэта фраза з ліста, які Каплер уручыў кіраўніцтву ТБ у 1972 годзе. Заканчваўся ён так: “Ставіцца абыякава да ўсяго таго, пра што я напісаў, ды яшчэ да таго, пра што я не пісаў, я не ўмею. А працягваць у тым жа духу адмаўляюся. Вось і давайце развітаемся. Пасля апошняй перадачы 24-га жніўня я лічу сябе вольным”. Уяўляю, як палезлі вочы на лоб у старшыні тэлерадыёкамітэта Івана Лапіна ад аднаго толькі тону заявы, не кажучы ўжо пра яе змест і сэнс. Так з начальствам тады не размаўлялі”.

Слухаючы адказы Каплера, я разглядаў яго добры дзедаўскі твар, зважаючы на міміку і жэсты. Чым больш ён гаварыў, тым больш хацелася яго слухаць. Адначасова спрабаваў уявіць, за што ж дачка самога Сталіна пакахала гэтага сціплага, ветлівага, вельмі далікатнага чалавека, пры якіх акалічнасцях яму выпала з ёй пазнаёміцца і пакарыць яе сэрца?

## Вострыя пытанні да Рамэа

Я пачаў развітвацца, накіраваўся да дзвярэй, праклінаючы сябе за тупасць, бо язь задаць вострыя пытанні. Поўны правал. Падумалася: каму будзе цікава маё сумнае інтэрв'ю?

І тут Аляксей Якаўлевіч паўстаў як тонкі псіхолаг, чалавекалюб. Ён паглядзеў на мяне добрымі вачыма, прыхінуўся да вушака дзвярэй:

— Мне думаецца, у вас да мяне ёсць і іншыя пытанні, але вы, магчыма, іх пасароміліся задаць. Не бянтэжцеся, пытайце. Пытайце пра ўсё. Я ж таксама з вашага племя, журналістаў.

Мы зноў вярнуліся да стала. І я зноў стаў уважлівым слухачом.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, Каплер адмовіўся эвакуіравацца ў Алма-Ату. Перадаўшы калегам, якія ад'язджалі туды, сцэнарый новага фільма пра героя грамадзянскай вайны Г. Катоўскага, малады драматург дамогся свайго прызначэння ваенкарам адной з цэнтральных газет і камандзіроўкі ў партызанскія злучэнні.

Вынікам знаходжання за лініяй фронту стала серыя нарысаў у “Известиях”, якая затым выйшла асобнай кніжкай “У тыле ворага”, а галоўнае — сцэнарый “Таварыш П”, які стаў асновай адной з лепшых карцін пра вайну “Яна абараняе Радзіму” з Верай Марэцкай у галоўнай ролі.

Затым Каплер паляцеў у блакадны Сталінград. Але перад гэтым у яго лёс умяшалася нешта нечаканае, што перавярнула жыццё.



*Аляксей Каплер з жонкай Юліяй Друнінай.*

Эпізоды бурнай біяграфіі — як кадры на экране. Прычым камічных было не менш, чым трагічных. І я зрабіў нечаканую выснову: менавіта талент апавядальніка плюс вялікая эрудыцыя, тонкі гумар, асабістае абаянне дапамагалі яму выходзіць са складаных сітуацый. Напрыклад, у Варкуце, месцы яго першай ссылкі, ён выратаваўся тым, што здолеў рассмяшыць начальніка лагера, і той перавёў яго з ходні на паверхню, уручыў фотаапарат. У гэтым горадзе заслужаны кінамайстар “лічыўся “ў прыдурках” — бегаў па горадзе з фотаапаратам”. Тут жа ён таемна сустракаўся ў адведзеным яму пакойчыку з прымай Варкуцінскага тэатра Валянцінай Токарскай, зоркай Маскоўскага мюзік-хола 30-х гадоў, першай прыгажуняй Масквы, якая адбывала тэрмін за тое, што ў самым пачатку вайны трапіла ў палон.

Адным словам, манахам Каплер не быў. І дачку Сталіна ён, хутчэй за ўсё, як кажуць, “угаварыў”.

Вось што пісала сама Святлана Іосіфаўна ў мемуарах: “У тую ж зіму 1942 — 43 гадоў я пазнаёмілася з чалавекам, з-за якога назаўсёды сапсаваліся мае адносіны з бацькам, — з Аляксеем Якаўлевічам Каплерам... Люся вярнуўся са Сталінграда пад Новы, 1943 год. Неўзабаве мы сустрэліся, і я яго маліла толькі пра адно: больш не бачыцца і не тэлефанаваць адзін аднаму. Я адчувала, што ўсё гэта можа скончыцца жудасна... Мне тады было 17 гадоў... А на наступны дзень, 2-га сакавіка 1943 года, калі ён ужо памкнуўся ехаць, прыйшлі да яго двое і загадалі ісці за імі. І паехалі яны ўсе на Лубянку... Люсю абшукалі, абвясцілі яму, што ён арыштаваны. Матывы — сувязі з замежнікамі... Люся быў для мяне тады самым разумным, самым добрым і самым лепшым чалавекам. Ад яго ішлі святло і ачараванне ведаў. Ён расчыняў мне свет мастацтва, незнаёмы, нязведаны...”

Нягледзячы на прапанову задаваць адкрытыя пытанні, у мяне на гэта не хапіла, магчыма, адвагі, а можа і нахабства. І ўсё ж сёе-тое ён мне распавёў, тое, што, вядома ж, не магло змясціцца не толькі ў кароткім інтэрв'ю для вячэрняй гарадской газеты, але і наогул у савецкім друку.

У маладосці Каплер быў улюблівым. У гэтым ён прызнаўся мне, маладому журналісту. Ён проста называў імёны жанчын, якіх зводзіў з розуму і, мабыць, кахаў.

Падчас нашай гутаркі з гасцініцы раздаўся тэлефонны званок. Аляксей Якаўлевіч папрасіў прабачэння і падышоў да тумбачкі. Вярнуўшыся, паведаміў: “Тэлефанавала Юля, цікавілася здароўем”.

Прачытаўшы на маім твары здзіўленне, патлумачыў, што Юля — гэта яго жонка, вядомая паэтка Юлія Друніна. Для мяне гэта была сенсацыя. Дачка Сталіна, зорка мюзік-хола, знакамітая паэтэса-франтавічка. І гэта далёка не поўны спіс амурных перамог дасведчанага лавеласа.

...Аднойчы ў Эльдара Разанава спыталі: “А ці была гісторыя кахання, якая вас уразіла?” — “Так, вядома, — адказаў ён. — Гэта гісторыя кахання Аляксея Каплера і Юліі Друнінай...” Аднак знакаміты аўтар “Ірoніі лёсу” заўсёды захоўваў да гэтай пары прахалоднае, калі не сказаць халоднае, стаўленне: “У мяне былі свае прэтэнзіі да Каплера, ён ні разу не паклікаў мяне ў сваю “Кінапанараму”, хоць я зняў нядрэнныя фільмы. На прэм'еры “Ірoніі лёсу”, калі ўся зала смяялася, уздыхала, плакала, Каплер і Друніна ў сярэдзіне фільма ўсталі і сышлі. Так што я не любіў яго, не любіў Друніну, якая была адным з кіраўнікоў Саюза пісьменнікаў, сядзела ў прэзідыумах. Але для мяне, калі я даведаўся гісторыю іх жыцця, стала прынцыповым зрабіць карціну пра каханне. Гэта была гісторыя Рамэа і Джульеты, ужо немаладых, але абсалютна прыгожых” (“Настаўніцкая газета”, № 47, 2002 г.).

Нам не дадзена прадбачыць свайго лёсу. Каплер памёр у 1979 годзе, праз тры гады пасля нашай сустрэчы. Друніна перажыве яго больш як на дзесяцігоддзе, а ў смутны час перабудовы развітаецца з жыццём.

## Казаў тое, што думаў

Два незабыўныя вечары я правёў, а дакладней, пражыў, з Аляксеем Каплерам, які выступаў у Акруговым доме афіцэраў. Глядзельная зала ламілася ад публікі. Мінчане жадалі зноў убачыць чалавека, які быў іх кумірам, штотыдзень уваходзіў у хату, аваладваў розумамі, думкамі.

Першы вечар скончыўся грандыёзным поспехам. Драматургу дарылі кветкі і апладысменты. У грымёрцы мы з вядучым вечара Уладзімірам Шэліхіным атрымалі ад Каплера памятныя падарункі: яго кнігі з аўтографамі.

А вось другі вечар чамусьці не атрымаўся. Гледачоў было шмат, але апладысментаў — менш. І Каплер перажываў, выглядаў прыгнечаным, жадаў адшукаць прычыны няўдачы. Мы ж з Шэліхіным спрабавалі растлумачыць, што публіцы ўжо не цікавы лёс вялікай актрысы нямога кіно, што сучасныя жыццёвыя праблемы хвалююць народ больш, чым багемныя стасункі паўвекавой даўнасці.

Аляксей Каплер стаў знакамітым толькі таму, што казаў тое, што думаў, і гэтак жа думалі мільёны яго суайчыннікаў, бо ў сваіх “Кінапанарамах” ён не абмяжоўваўся толькі кіношнай тэматыкай, а закранаў праблемы сучаснага жыцця, звяртаўся да так званага маленькага чалавека з яго клопатамі і патрэбамі. Ён прыносіў надзею.

...Аляксей Якаўлевіч пахаваны ў Крыме, як і наказаў у завяшчанні. Юлія Друніна — там жа. Ейны запавет — пахаваць яе побач з мужам.

# Дабро VS Зло

Анатоль ТРАФІМЧЫК

**Чамусьці так склалася, што беларуская дзіцячая п’еса апынулася на перыферыі чытацкай увагі (і не толькі чытацкай, але і тэатральнай таксама). Звычайна спасылаюцца на яе адсутнасць ці нешта падобнае. Але яна ёсць, вось толькі прыглядацца трэба. Да таго ж адносная нешматлікасць драматургічных твораў для дзяцей з’яўляецца і вынікам такой кволай увагі, якая зусім не каталізуе іх стварэнне.**



Фота Дзмітрыя Іванова

Адным з найбольш значных драматургаў на сучасным этапе паўстае І. Сідарук, які вялікую ўвагу надае творчасці для дзяцей. У дзіцячай драматургіі берасцеец стварае найперш п’есы-казкі. І тут ён здолеў сказаць самабытнае слова. Яго мастацкія характары маюць непаўторнае аблічча. А для канфліктаў аўтар знаходзіць арыгінальныя падзейныя кантэксты.

Бадай, упершыню пасля піянера беларускай дзіцячай драматургіі К. Лейкі І. Сідарук звярнуўся да канструявання сістэмы вобразаў, выкарыстоўваючы прадстаўнікоў флоры. Тут маецца на ўвазе дэбютная п’еса “Кветкі пад ліўнем” (1992). Аўтар анімізуе жыхароў клумбы, кожны з якіх, заўважае Ф. Драбеня, надзяляецца ўласным характарам: “званочак — жыццялюбны, усёдаравальны, півоня — спакойная, улюбёная ў жыццё і сонца, цюльпан — ганарысты, прагны да грошай, занадта цікаўны”. Канфлікт разгортваецца ў плоскасці маралі. Хцівы Гандляр хоча перакупіць у Садоўніка яго кветкі. І, нягледзячы на адмову, робіць гэта з дапамогай здрадніка Цюльпана. Нябесныя сілы ў выглядзе Дажджу аднаўляюць справядлівасць. Аднак здараецца і непапраўнае: Садоўнік, як далікатна сказана, “аддаляецца ад усіх”. Ён увасабляе “вобраз мастака-паэта, які стварае свой шэдэўр не для таго, каб атрымаць вялікія грошы, а для замілавання і душэўнай асалоды ад прыгажосці, каб падарыць талент усім людзям, менавіта падарыць” (Ф. Драбеня), таму ён і не змог перажыць драму. На супрацьлеглым полюсе знаходзіцца Гандляр: для яго проста не існуе духоўных каштоўнасцей, іх пераважвае прага нажывы. Такім чынам драматург не толькі паказвае адносіны да прыроднага наваколля, але і падымае больш важкую праблему —сэнс жыццядзейнасці чалавека. “Прыцягальная моц казкі — у наяўнасці другога плана, які праяўляецца не ў звыклым педагагічным настаўленні, а ў падтэксце вобразаў”, — заключае А. Савіцкая.

Сад у п’есе І. Сідарука “Прыгоды Люстрынкі, або Ваша несусветнае зладзейства!..” сімвалізуе жыццё, прыгажосць і чалавечнасць. Для існавання саду патрэбна людское цяпло. Менавіта ім падзараджаецца Лілея — галоўная кветка саду, яго сэрца, кветка, якую хацелі здабыць злыя сілы, каб панаваць у той краіне. Трыумф дабра наступае толькі дзякуючы супольным намаганням Дабрасея, сабакі Мартына і Люстрынкі.

У многім маральным арыенцірам для людзей з’яўляюцца хрысціянскія каштоўнасці. І. Сідарук таксама не абмінуў мастацкі матэрыял, пачэрпнуты ў рэлігійнай культуры беларускага народа. Аднак яго апрацоўку біблейскага сюжэта ў “каляднай гісторыі” “Збавіцель” крытыка палічыла не зусім удалай: няма паўнавартаснай сітэмы вобразаў і развіцця канфлікту. Твор мае хутчэй асветніцкі характар.

Гэтых недахопаў аўтар пазбегнуў у каляднай п’есе “Меч анёла”. Зло ў ёй прадстаўлена цэлым шэрагам разнастайных персанажаў, кожны з якіх функцыянальна незаменны ў мастацкай палітры вобразаў. Не абышоўся сюжэт і без долі аўтарскай фантазіі: у яго развіццё ўводзіцца памкненне цара Ірада стаць бессмяротным, у чым таму дапамагае Чарнакніжнік. Аднак у свеце Зла існуе бязлітасная канкурэнцыя перш за ўсё паміж яго адэптамі: Чарнакніжнік пры першым зручным выпадку здраджвае свайму гаспадару і займае яго месца. Добрым жа людзям абараніцца ад Зла дапамагае вера ў Бога: за іх заступаецца Анёл з вогненным мячом.

П’еса-казка І. Сідарука “Кветка для Анёла” (2003) кранае сваім глыбокім гуманістычным пафасам. Па сутнасці падрабязна выпісаны характар мае толькі Анёл, які, аслухаўшыся Бога, перастаў бачыць. У яго ёсць два шляхі, каб зноў стаць відушчым: або “зрабіць на зямлі самую добрую справу” (словы Бога), або паслухацца парад Нячысціка. Разгублены Анёл спускаецца на зямлю і імкнецца ашчаслівіць як мага болей людзей. Аднак церпіць фіяска, што павялічвае яго адчай і роспач. Нячысцік у прадчуванні свайго трыумфу падштурхоўвае Анёла сарваць адну маленькую кветачку, якую вырошчвае дзіця. Анёл амаль згодны. Ды выяўляецца, што дзіця ніколі не бачыла белага свету, але даглядае кветку, каб яе прыгажосць убачылі людзі. Анёл вагаецца — і ў выніку пераступае свой эгаізм: не лічачы гэта “самай добрай справай на ўсёй зямлі”, дорыць дзіцяці зрок. Адбываецца цуд: яны абодва пачынаюць бачыць. Пратаганіст паступае паводле закона “імгненнага” (“сиюминутного” — *руск.*) гуманізму баканонаўскай этыкі з твора К. Вонегута “Бойня нумар пяць, або Крыжовы паход дзяцей”, дзе адзіна свяшчэнным з’яўляецца “нават не Бог. Толькі адно... Чалавек... Вось і ўсё. Проста чалавек”. Да таго ж дарэчы прыгадаць знакамітае выслоўе Ф. Дастаеўскага, якое стала метафарызаваным пастулатам гуманізму, што нічога ў свеце не варта нават слязінкі дзіцяці.

Яшчэ адна п’еса — “Свята Раства радасць прынясло” (2004) І. Сідарука — з’яўляецца хутчэй сцэнарыем каляднай імпрэзы. Тым не менш у самім драматургічным тэксце створаны паўнавартасныя вобразы Гаспадара і Гаспадыні, Чорта, Казы, а таксама Дзеда Мароза і Снягуркі. Тут у большай ступені, чым у навагодніх п’есах іншых аўтараў, у дзейства ўцягваецца дзіцячая аўдыторыя, становячыся па сутнасці яшчэ адным галоўным героем.

Драматургі заўсёды прадуктыўна стваралі п’есы для дзяцей на фальклорна-казачнай глебе. Некаторыя творы хоць і не атрымалі аўтарскай маркіроўкі, якая ўказвала б на перапрацоўку фальклорных сюжэтаў і характараў, але ўзніклі менавіта на такім матэрыяле. Так, І. Сідарук у “камічных падзеях” “Кірмашовага балагану” прадставіў адразу дзве казкі “Пра калабка” і “Пра бычка — смалянога бачка”. “Аднак аўтар надзяляе кожнага персанажа казак сваім непаўторным, адметным характарам і асабістым заняткам. Зайчык Міцяйчык корпаецца на градах, мядзведзь Бурдулай даглядае пчол, ліса Анфіса трымае карчму і г. д.” (С. Юркевіч). Вядомы сваім неардынарным падыходам да творчасці драматург па-новаму знаёміць нас з нібыта вядомымі персанажамі. Але вобразы атрымаліся настолькі арыгінальнымі, што ні яны, ні разгортванне падзей не выглядаюць скапіраванымі, а, наадварот, уражваюць сваёй свежасцю і навізной.

Тое ж можна сказаць адносна “Залатой табакеркі” І. Сідарука, у якой тым не менш праяўляюцца больш строгія канфліктныя кантрасты, дзейнічаюць персанажы з набліжанай да рэальнай чалавечай псіхалогіяй. Гультаяваты, але добры, душэўны хлопец Янка раптам атрымлівае шанц змяніць сваё жыццё ў лепшы бок. Чароўная скрыначка для тытуню падштурхнула яго не толькі адкінуць гультайства, але і дапамагаць людзям. Ён ратуе Каралеўну ад змея. Але яна, капрызлівая і няўдзячная, крадзе табакерку. І калі б не верныя сябры Каток і Мышка, а яшчэ і выратаваная Янкам Рапушка, прапаў бы хлопец. Яго дабрыня і шчырае сяброўства нечакана атрымліваюць яшчэ большую ўзнагароду: тройчы ўратаваная ім Мышка ператварылася ў прыгажуню.

У складаныя перыпетыі трапляе галоўны герой у перапрацаванай І. Сідаруком народнай казцы “Салдат і Смерць”. Служыламу даводзіцца супрацьстаяць не толькі Смерці (з ёю канфлікт экспліцытны), але і Купцу, які, падмануўшы Салдата, захацеў і пазбавіцца на сваёй сядзібе ліха, і яшчэ болей узбагаціцца (тут канфлікт раскрываецца не адразу). Патэнцыял фальклорнага твора дазволіў пры мінімуме персанажаў стварыць насычаную калізіямі п’есу. Вобраз Салдата выклікае сімпатыю ўжо з першай рэмаркі, што неўзабаве падмацоўваецца і яго дабрынёю да Жабрака, якому Служылы аддае апошні сухар. За гэта ён узнагароджваецца чарадзейнай торбай. Адзін раз яна выручыла Салдата, але была скрадзена сквапным Купцом. П’еса мае шчаслівую развязку: Смерць пераможана, Купец паплаціўся за свае ўчынкі. Ды і пераможцам Салдат не пазбаўляецца сваіх станоўчых якасцей: пакідае Купца жыць пры палацы.

Пры стварэнні п’ес І. Сідарук плённа працуе і з літаратурным матэрыялам. Так, паводле твораў Якуба Коласа ён напісаў п’есу-казку “Юнак і Вядзьмар”. Вобразы яе герояў Сымона і Ганны вядомыя з паэмы класіка. Перыпетыі твораў істотна адрозніваюцца. Сымон атрымаў у спадчыну ад пастуха чароўную скрыпку, якая павінна выратаваць ад беднасці яго і Ганну. На цудадзейны інструмент палюе і вядзьмар, пускаючыся на розныя хітрыкі. У працэсе пераадольвання перашкод да Сымона прыходзіць разуменне сапраўдных жыццёвых каштоўнасцей. Аўтар выкарыстоўвае метад недагаворанасці. Мы не бачым традыцыйнай перамогі добрых сіл над злымі. І ўсё ж сумная развязка не абыходзіцца без аптымістычнай ноты чароўнай скрыпкі:

*Ды ўстане ён, прачнецца:*
*Круг не скончыў свой Сымон,*
*На шырокі шлях праб’ецца,*
*Хоць мо й доўгі будзе сон.*

Прыведзеныя прыклады сведчаць пра знешне парадаксальна амбівалентную тэндэнцыю ў стварэнні характараў дзеючых асоб п’ес-казак, напісаных паводле матываў народнай творчасці ці літаратурных твораў: з аднаго боку, яны захоўваюць сутнасць вобразаў і іх палярызацыю, у выніку якой адбываецца канфлікт, а з іншага — у многіх выпадках назіраецца імкненне пісьменніка да мадыфікацыі партрэтаў дзеючых асоб, абумоўленае як індывідуальнасцю творчай манеры аўтара, так і актуальнай рэчаіснасцю.

Крытыка ўжо заўважыла цягу аўтараў да асучаснівання казкі. П’еса для дзяцей, нягледзячы на ўзроставую скіраванасць, сваімі канцэптуальнымі катэгорыямі — перадусім канфлікту і характару — зрэагавала на з’яўленне новых актуалій як у жыцці грамадства, так і ў светапоглядзе падлеткаў. Як адзначае С. Шамякіна, “своеасаблівым далейшым развіццём літаратуры казачна-фантастычнага характару можна лічыць фэнтэзі”.

Наватарскія шляхі не сталі чужымі І. Сідаруку. У п’есе “Віртуальнае зубраня” сімулякр зубраняці адыгрывае ключавую ролю ў перамозе дабра над злом, якое таксама з’яўляецца выдаткамі эвалюцыі чалавечай думкі і тэхнічных магчымасцей. Увасабляе тыя выдаткі, а значыць і зло, Лавец. Ён вынайшаў клона-монстра-вірус, які хоча злучыць з пушчанскім зубрам XV стагоддзя, размножыць яго да памераў непераможнага войска і заваяваць усю планету, распаўсюдзіўшы па ёй свае каштоўнасці:

*Чорнае ўчора, чорнае сёння,*
*чорнае заўтра —*
*Чорная радасць без слоў.*

У якасці экзэмпляра для размнажэння абіраецца маці зубраняці, якому, такім чынам, неабходна ратаваць не толькі планету ад хцівага заваёўніка, але і сваю рэальную будучыню (зубрыха якраз насіла яго пад сэрцам). Такую функцыю на яго ўскладае Астральнае вока. Аднак менавіта чалавечыя якасці, смеласць і кемлівасць, у дадатак да віртуальных магчымасцей сталі перадумовай перамогі і выратавання планеты ад катастрофы. Дзеянні зубраняці становяцца прыкладам таго, што “кожны з нас яшчэ можа зрабіць… яшчэ можа паспець… яшчэ можа… ўратаваць…”

Адметныя сюжэтныя калізіі, гуманістычны пафас, абуджэнне сімпатыі чытача да герояў — вось неад’емныя і характэрныя рысы п’ес для дзяцей І. Сідарука. Парадыгма вобразаў яго твораў досыць шырокая. У іх канструяванні аўтар звяртаецца да ажыўлення прадстаўнікоў прыроды, да запазычання з біблейскіх матываў ці літаратурнага матэрыялу, уводзіць актуальныя рэаліі. Але нават, здавалася б, знаёмыя персанажы ў рэпрэзентацыі гэтага аўтара паўстаюць у новым святле. У сілу моцнай і трывалай традыцыі, чым характарызуецца беларускае мастацтва наогул, наватарства ў дзіцячых п’есах не стала дамінантай, аднак пашырыла драматургічныя даляглады і аўтарскія магчымасці, дынамізавала творчы працэс у гэтым кірунку. І адным з лідараў гэтага працэсу з’яўляецца І. Сідарук.

## Нарадзіўся, як капусту садзілі

Уладзя
СОДАЛЬ-САДАЛЬСКІ

У аўтабіяграфічнай даведцы Сяргея Давідовіча, якому сёлета спаўняецца семдзесят гадоў, значыцца, што ён нарадзіўся 20 ліпеня 1942 года.

Вайна ў самым разгары. Яго родная Карпілаўка, як і ўсе суседнія вёскі і вёсачкі, акупавана. Не хапае хлеба, солі, бульбы. І вось у гэты час нараджаецца хлапчук, якому наканавана будзе стаць знаным маэстра беларускага слова і пэндзля, надзеленым прыродай надзвычай чуйнай творчай душой і талентам.

Усім "ваенным" дзецям выдавалі метрыкі пасля вызвалення мясцовасці ад фашыстаў. Таму часта былі разыходжанні з сапраўднымі датамі нараджэння. Неяк я пацікавіўся ў Сяргея, ці згадвала хоць калі пра гэта сама яго матуля?

— Так, згадвала! І не адзін раз. Казала, што я нарадзіўся, як капусту садзілі. А капусту ў нас садзяць, як зямелька добра прагрэецца. Дзесьці ў канцы мая ці на пачатку чэрвеня. Так што прыблізная дата маіх народзін больш-менш дакладная. — І дадае: — Выходзіць, знайшлі мяне ў капусце!

Сяргей Давідовіч скончыў 10 класаў, працаваў у калгасе. Пасля арміі працаваў шафёрам. У 1971 годзе быў накіраваны працоўным калектывам на службу ў міліцыю.

Завочна закончыў Вышэйшую школу МУС СССР (цяпер Акадэмія МУС). Прайшоў службовы шлях ад сяржанта да палкоўніка міліцыі. У 1990 годзе абраны ў Вярхоўны Савет БССР XII склікання, быў членам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У 1994 годзе, пасля выдання кнігі паэм "Люстэрка лёсу", прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. На яго рахунку зборнікі вершаў, паэм і прозы: "Спасцігнуў я тайну", "Нясу свой крыж", "Горкая кропля", "Душы маёй бяссонніца", "Святло сярод ночы", "Гумарынку пад язык", "Развод па-славянску", "Выбранае" (серыя "Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі"), "Зямлі святая памяць" і іншыя.

Ім напісаны песні сумесна з кампазітарамі І. Лучанком, Я. Глебавым, Э. Зарыцкім, Л. Захлеўным, В. Івановым, У. Буднікам і інш.

С. Давідовіч вядомы і як мастак. У 1995 годзе прыняты ў Саюз мастакоў Беларусі. Правёў больш як сорак персанальных выставак у Беларусі, Польшчы, Германіі, Літве, Латвіі, ЗША. Працуе ў жанры краявіду, рэлігійна-філасофскай, вяскова-побытавай, спартыўна-гумарыстычнай тэматыкі. Асобнае месца ў яго творчасці займае тэма Чарнобыльскай трагедыі. Яго мастацкія творы знаходзяцца ў многіх музеях Беларусі, у прыватных калекцыях і галерэях за мяжой, а адна работа — у экс-прэзідэнта ЗША Дж. Буша-старэйшага.

У 2001 годзе на кінастудыі "Беларусьфільм" выйшла поўнаметражная кінакамедыя "Свежына з салютам" паводле сцэнарыя С. Давідовіча.

З блаславення мітрапаліта Філарэта ў 2006 годзе распісаў ён купал Храма ў гонар святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла, пабудаванага ў 1706 годзе ў в. Жукаўка Мінскага раёна, за што быў узнагароджаны медалём святога Кірылы Тураўскага.

Імя С. Давідовіча ўключана ў сусветную 80-томную энцыклапедыю "Мастакі ўсіх часоў і народаў", выдадзеную ў Мюнхене ў 1997 годзе (том 18).

# Хата, дзверы ў якой не зачыняюцца

**Нехта з вялікіх сказаў: "З якімі набыткамі чалавек сустрэне свой юбілей, так будзе жыць і далей". У такім разе Сяргею Давідовічу ў далейшым наканавана гэткае ж актыўнае творчае жыццё, як і цяпер. Я не пра тое, як шмат зроблена ім, — гэта відавочна. Я пра тое, што сваё 70-годдзе Сяргей Фёдаравіч сустрэў вельмі цікавай паэтычнай падборкай, змешчанай у сёмым нумары "Полымя" за гэты год.**

Алесь МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава



Чытаю яго новыя вершы, і хваля замілавання атуляе сэрца. На шчасце, ёсць яшчэ на нашай зямлі паэты, якія ўмеюць пісаць хораша, а разам з тым проста, прытрымліваючыся той паэтычнай традыцыі, што называецца класічнай. Яны не стараюцца здзівіць чытача моўнай вычурнасцю і рэбусавай загадкавасцю, а ўражваюць дакладнасцю думкі, не прыдуманасцю, а шчырасцю пачуцця. Зорак з неба, можа, і не хапаюць, ды гэтыя зоркі запальваюць у сваёй душы, а ўжо святло і цяпло іх перадаецца і табе. Пасля чаго ты становішся намнога багацейшым духоўна, шчадрэйшым на пачуцці.

Такое ўзбагачэнне адбудзецца і пасля знаёмства з вершам, названым проста — "Толькі тут". Хоць у творы і не адчуваецца пэўнай геаграфічнай прывязанасці, няма сумнення, што верш нарадзіўся на роднай Сяргею Фёдаравічу Лагойшчыне, а калі канкрэтна — у Карпілаўцы. Там, дзе прайшло яго маленства, дзе засталася бацькоўская хата. С. Давідовіч тут часта бывае і падоўгу жыве. Ад першых вясновых праталін, што з'яўляюцца ў ваколіцах, ажно да... Не, не да першых замаразкаў, а да моцных, калі зямля цвярдзее, а ў паветры ўжо адчуваецца стыласць.

Да ўсяго ж Сяргей Давідовіч і непаўторны, надзвычай арыгінальны жывапісец. Дый проста задумваецца над жыццём-быццём. Пагадзіцеся: у такім узросце ёсць пра што падумаць. Ёсць і што асэнсаваць. Знаходзіцца што ўзважыць. Бо за плячыма — доўгая дарога, на якой асобнымі паўстанкамі абазначаныя асноўныя вехі ягонага жыцця. І не толькі творчага. А жыццё ў Сяргея Фёдаравіча — багатае, насычанае, выніковае (не ў тым сэнсе, што час рабіць падлікі. Да гэтага яшчэ доўга. Выніковае, бо шмат зрабіў, многага дасягнуў).

Але час і пра верш "Толькі тут" сказаць. Пачынаеш чытаць яго — і адразу адчуваеш, наколькі С. Давідовіча слухаецца слова. Як удаецца паэту праз пачуцці, перажыванні лірычнага героя выказаць тое, што не можа не хваляваць кожнага, для каго найвышэйшая асалода адчуваць сваю еднасць, зітаванасць з бацькоўскай зямлёй. Герой гэты, убіраючы ў сябе ўсё хараство наваколля, адначасова прагне яшчэ большай повязі з тым, што застанецца з табой да канца. Таму вельмі да месца ў пачатку верша зварот-заклік. Да каго? Да таго, што вакол цябе, але што ўжо і ў табе самім:

*Расхініцеся, далягляды,*
*Распаляйся, душы агмень,*
*Хай пашырацца зоркапады,*
*Хай ва ўсю распрамяніцца дзень.*

*Ветру цесна пад небасхілам,*
*Думкам вольна вышэй аблок.*
*І ляціць да мясцінаў мілых*
*Сэрца, нібы ў агонь матылёк.*

Сяргей Давідовіч прыродай захапляецца, але і пастаянна здзіўляецца ёй, кожным разам знаходзячы штосьці новае, дагэтуль незаўважанае, нават там, дзе, здавалася б, нічога новага сказаць ужо немагчыма. Ды гледзячы як на ўсё паглядзець. Калі вачыма, поўнымі захаплення, то многае адкрыецца і шмат што ўбачыцца. Пацвярджэнне таму — верш "Бабіна лета":

*Прыдумаць лепшае прыродзе ці магчыма?*
*Увосень лета! Здорава! Удала!*
*І неба яснымі, блакітнымі вачыма*
*На лета бабіна ўлюбёна паглядала.*

У паэзію С. Давідовіч прыйшоў позна. У тым узросце, калі многія маюць некалькі кніг, а некаторыя нават перастаюць пісаць вершы. Дый, бадай, важна не калі пачаў, а як пішаш і што. На сёння ў яго некалькі паэтычных зборнікаў. Лепшыя творы, змешчаныя ў іх, упэўніваюць: С. Давідовіч правільна зрабіў, што ўзяўся за пяро. А што пазнавата, то адна з асноўных прычын у тым, што, як пяецца ў папулярнай песні, у яго была "служба дни и ночи". Проза будняў не пакідала часу на паэзію.

Важкія ягоныя набыткі і ў жанры паэмы. У кнізе "Званы часу", што папоўніла "Бібліятэку Саюза пісьменнікаў Беларусі", іх прадстаўлена ажно 52. Прытым гэта творы самыя розныя: патрыятычна-філасофскія, сатырычна-гумарыстычныя, лірычныя. Эпіграфам да гэтай кнігі С. Давідовіч паставіў такія радкі:

*Згаджацца можна,*
*не згаджацца —*
*А я такі.*
*О, укладаць цяжкая праца*
*Душу ў радкі.*

*Што меў, сказаў —*
*"адрэзаў лусту",*
*І вось чаму:*
*Не трафіў я чужому густу —*
*Толькі свайму.*

Сапраўды, "згаджацца можна, не згаджацца". У тым сэнсе, што, магчыма, і не ўсё ўдалося паэту аднолькава. Але што С. Давідовіч па-майстэрску валодае сакрэтамі жанру паэмы — гэта несумненна. Асабліва ўдаюцца яму гумарыстычныя творы, як, скажам, паэма "Свежына". З такімі творамі перад якой хочаш аўдыторыяй выступай (што Сяргей Фёдаравіч часта і робіць), людзі ад смеху за жываты будуць брацца. Настолькі дасціпны гумар у С. Давідовіча. Галоўнае, што сюжэты ў жыцці падгледжаныя.

Гэта датычыць і яго празаічных твораў, што асабліва заўважаецца ў кнізе "Развод па-славянску". Па-славянску, бо дзеянне ў аднайменнай аповесці адбываецца ў вёсцы Славянка. Усё было спакойна, ды... "Прыкладна на сто першай серыі мексіканскага тэлефільма "Секс без грыму" і на дзевяноста восьмай бразільскай тэлеатрупы "Любоўная вакханалія" мясцовыя бабы ўсіх узростаў сцямілі, што на свеце ёсць паголеныя, ласкавыя мужчыны, апранутыя ў модныя смокінгі, а не ў падраныя ватоўкі і стаптаныя, у гнаі боты. Яны, бабы, былі ледзь не забітыя напавал, калі даведаліся, што ад гэтых асляплялыных мужчын не пачуеш п'янай лаянкі, не схопіш "ліхтара" пад вока, што побач з імі не верне нос ад страшэннага перагару. Гэта быў эфект выбуху бомбы падчас сеанса Чумака ў перапоўненай соннай зале. І прыкладна гэткі выбух скалануў адвечна ціхую Славянку".

"Бунт" у адной асобна ўзятай вёсцы, пра які расказвае С. Давідовіч, пры ўсёй ягонай немагчымасці, фантастычнасці небеспадстаўны. Аўтар, напісаўшы гэтую гумарыстычную аповесць, узняў і значную сацыяльную, маральна-этычную праблему. Гэта дае падставы гаварыць пра тое, наколькі актуальна мысліць ён, рэагуючы на працэсы ў жыцці грамадства. Таму, адзначаючы высокае аўтарскае майстэрства, нельга не бачыць і жыццёвасці ягоных персанажаў.

> *"Калі ж мець на ўвазе ўсе тры аповесці, дык я ніколькі не здзіўіўся б, калі б С. Давідовіч з цягам часу на аснове іх напісаў невялікія п'есы. Не сумняваюся: цікавыя вадэвілі атрымаліся б і, несумненна, знайшліся б жадаючыя ўвасобіць іх на аматарскай сцэне, бо тэлесерыялы тэлесерыяламі, а нярэдка хочацца паглядзець і нешта такое, што прываблівала б знаёмым родным каларытам.*

У гэтым зборніку змешчаная і аповесць "Рыбалка з салютам". Напісаная яна так, што аўтарскі гумар высвечваецца тонкім досціпам ці не на кожнай старонцы. Пры гэтым на дзіва прывабнымі атрымаліся асноўныя персанажы твора, найперш рыбак Язэп Шыцік, які "быў добра вядомы не толькі аднавяскоўцам, але і ўсім навакольным жыхарам як гарачы прыхільнік і заступнік прыроды і ўсяго жывога ў ёй. Таму і на рэчку, хоць і быў заядлым рыбаком, не дазваляў сабе браць больш як адну вуду". Пра такіх звычайна кажуць: не кладзі яму палец у рот. Аднак Шыцік не толькі дыхту браканьерам дае, выводзячы іх на чыстую ваду, а і аматар пажартаваць. Пры гэтым са сваім сябрам Сцяпанам часам у такія сітуацыі трапляе, што хочаш смейся, хочаш плач.

Калі ж мець на ўвазе ўсе тры аповесці, дык я ніколькі не здзівіўся б, калі б С. Давідовіч з цягам часу на аснове іх напісаў невялікія п'есы. Не сумняваюся: цікавыя вадэвілі атрымаліся б і, несумненна, знайшліся б жадаючыя ўвасобіць іх на аматарскай сцэне, бо тэлесерыялы тэлесерыяламі, а нярэдка хочацца паглядзець і нешта такое, што прываблівала б знаёмым родным каларытам.

Каб прадоўжыць задавальненне ад апавяданняў, паколькі іх у кнізе шмат, лепш чытанне расцягнуць на некалькі дзён. Якое ні возьмеш, абавязкова ўзнаўляецца сітуацыя, не "заезджаная" іншымі пісьменнікамі. І гэта пры тым, што С. Давідовіч па сутнасці закранае тэмы, якія не абыходзяць увагай многія, — і традыцыйная барацьба з п'янствам, і выкрыццё абыякавасці, бездухоўнасці. С. Давідовіч умее заінтрыгаваць чытача яшчэ да таго, як падасць нейкі цікавы эпізод. Адны назвы чаго вартыя: "Маўглі", "Шык і пшык", "Двойчы падкідыш", "Гасцінцы на той свет", "Трыфан і чыкагская мафія", "Водаўстойлівая вош", "Хітрыкі вакол паўлітрыкі"...

Піша С. Давідовіч, як відаць, найчасцей з натуры, хіба толькі, каб сюжэт атрымаўся больш інтрыгуючым, дадае штосьці ад сябе. Аднак калі і абмяжоўваецца падгледжаным у жыцці, дасягае многага. Як у апавяданні "Арыгінальная проза", што і мае падзагаловак — "з натуры". У Алесю, які не проста бавіць час у "бацькоўскай хаце, дзе калісь нарадзіўся, у якой прайшло амаль усё яго жыццё і якая даўно стала святасцю душы і болем сэрца", а піша свой чарговы твор, угадваецца сам апавядальнік, а ягоны сусед п'янюга Міхась — з тых сённяшніх вяскоўцаў, якія не абцяжарваюць сябе працай, бо ўвесь белы свет ім даўно засланіла гарэлка. Гэты Міхась так дакладна выпісаны з натуры, што дзіву даешся назіральнасці С. Давідовіча, ягонаму ўменню схопліваць у характары і гаворцы персанажа найбольш вызначальнае.

Падобная дакладнасць ідзе ўжо не толькі ад С. Давідовіча-пісьменніка, а і ад С. Давідовіча-мастака. Дарэчы, выхад кнігі "Развод па-славянску" ў свой час амаль супаў з ягонай чарговай выстаўкай жывапісных работ.

Не сумняваюся, што і ў гэтыя дні Сяргей Фёдаравіч у сваёй роднай Карпілаўцы, дзе заўсёды знаходзіць "прытулак для душы жывой". Дарэчы, так называецца і верш, якім адкрываецца ягоная палымянская падборка, — "Прытулак для душы жывой":

*Нарэшце за спіной дарога,*
*Не чую ні плячэй, ні ног.*
*Нібы не я — мая знямога*
*Зрабіла крок цераз парог.*

.........................................

*Надзея не губляе веры,*
*І я, у кут дапяўшы свой,*
*Не зачыніў на клямку дзверы, —*
*Прытулак для душы жывой.*

*Мо ён камусьці дапаможа*
*Не ўпасці, сілы аднавіць...*
*Ноч, безгалоўе, бездарожжа,*
*Нервова шыбіна трымціць.*

Творчасць С. Давідовіча — гэта, вобразна кажучы, тая ж хата, дзверы якой ніколі не зачыняюцца на клямку. Яны адчыненыя кожнаму, каму ў наш тлумны век часам нестае добрага спагаднага слова, крынічнай чысціні паэтычнага радка.

# У братоў-паэтаў юбілей

**Калі Анатоль і Васіль Дэбішы ўпершыню прынеслі свае вершы ў часопіс "Маладосць", братоў-блізнят нехта з супрацоўнікаў трапна ахрысціў "баравічкамі". Падобныя знешне, яны зусім розныя і арыгінальныя ў паэтычнай творчасці. Анатоль і Васіль нарадзіліся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна, пасля сярэдняй школы разам скончылі Мінскі інстытут культуры, цяпер жывуць і працуюць у Брэсце. На рахунку Анатоля зборнікі паэзіі "Калядная вячэра" і "Стодзівы", у Васіля таксама дзве кнігі — "Белыя птахі" і "Лісты да Марыі", прычым адзін зборнік на двух браты-паэты выдалі ў папулярнай калісьці серыі "Бібліятэка часопіса «Маладосць»". Памяркоўныя і сціплыя па натуры, вядомыя берасцейскія "баравічкі", мабыць, і не заўважылі, як іх сонца паднялося ў зеніт, і ім, таленавітым і чуйным да слова, на днях споўніцца роўна па 50 гадоў. Чытачам "ЛіМа" юбіляры прапануюць свае новыя вершы.**

**Віктар ГАРДЗЕЙ**



Анатоль Дэбіш

* * *

*Нехта ляціць да зор.*
*Нехта ў райскай даліне*
*палюе на райскіх птахаў.*
*Я крочу лясной сцяжынай*
*у грыбы і ягады —*
*і восенню,*
*і зімою.*
*Вы скажаце,*
*што такога не бывае?*
*Спытайцеся пра гэта*
*ў рыжай векшы,*
*што ў старажытным дупле,*
*адзінокая,*
*часу імгненні збірае.*

* * *

*Міг вечаровы. Парк. Алея.*
*Птушыны посвіст, пошум дрэў.*
*Час супыняецца. Мярцвее*
*Дзень, што сыходзіць не хацеў.*

*Між голля цень мільгнуў вавёркі*
*І раставарыўся — як імгла.*
*Скрозь мур нябёс свіцяцца зоркі,*
*Вось і яшчэ адна ўзышла.*

*Ціш ахінае свет паволі.*
*Душа схіляецца да сну.*
*Пазбыцца скаргаў, смутку, болю, —*
*Хоць на хвіліну, на адну.*

**Кут**

*У кут збягаюцца ўсе дарогі,*
*і ўсе шляхі зыходзяць з яго.*
*Ён — вязніца.*
*Ён — бязмежжа.*
*Ён — воля.*
*І — няволя.*

*Кут — пакаранне.*
*І дар Божы.*
*З яго пачынаю свае вандроўкі*
*і вяртаюся да яго —*
*з усіх сцяжынак і прастораў.*

*Тут, за партрэтамі родных і блізкіх,*
*жыве мая памяць.*
*І праз гады —*
*кут ніколі не старэе,*
*вяртаючы маладосць тым,*
*хто даўно пастарэў.*

*Зноў спяшаюся да цябе —*
*родны кут,*
*куточак,*
*куцця…*

* * *

*Стаю на падворку роднай хаты,*
*галавою ўпёршыся ў неба,*
*нагамі прарослы скрозь зямлю.*
*стаю і не бачу*
*ні бацькі,*
*што плугам неба гарэ,*
*ні матулі,*
*якая рэчку палошча,*
*ні нават ката,*
*што быка, нібы мыш, цярэбіць,*
*ні сябе —*
*хлапчука-падпаска,*
*які з вясёлкі*
*пугу сплятае…*
*Які я маленькі.*

* * *

*Пакіньце мяне аднаго*
*У гэтым пустым пакоі.*
*Хай будзе са мною Бог,*
*Надзеі мае і мроі.*

*Хай будзе са мною ноч*
*І свечак на небе ззянне,*
*Яе светлы цень наўзбоч —*
*Маё незямное каханне.*

*Хай будзе са мною сон,*
*Салодка-мярэжны і вечны,*
*Што возьме мой дух у палон,*
*І розум, і боль чалавечы.*

*Хай будзе ў мяне ўсяго*
*Адно толькі доля ізгоя —*
*Пакіньце мяне аднаго*
*У гэтым пустым пакоі.*



Васіль Дэбіш

**Уцёкі**

*Кладзецца на зямлю духмяны вечар.*
*Лугі густыя, дзе туман пасецца…*
*Збягу я ў сад, дзе водар бэзу ўецца,*
*Каб пра жыццё падумаць і пра*
*вечнасць.*

*Каб ад штодзённых будняў абудзіцца,*
*Каб з сілаў часу выбрацца нябачных…*
*Схіліўся ў небе месяц, як начніца,*
*Пасе паўзмрок. І слых мой вецер*
*лашчыць.*

*Так добра тут. Квітнее куст язміну.*
*Арганнай музыкай гучыць бусліны*
*клёкат.*
*Пад вечар хату душную пакіну.*
*Збягу я ў храм — без даху і без вокан.*

**Яблычны спас**

*Жнівень. Вецер. Нудны дзень і шэры.*
*Холадам павеяла з двара.*
*Спелыя антонаўкі і бэры*
*Сонцамі ў садку маім гараць.*

*Яблычны мой спас. Кружляюць восы,*
*П'юць салодкі яблычны напой.*
*Дзень кароткім стаў… Яшчэ не восень…*
*І птушыны спеў над галавой*

*Не змаўкае. І мацнее вера —*
*На зямлі яшчэ я пажыву…*
*Спелыя антонаўкі і бэры*
*Сонейкамі коцяцца ў траву.*

* * *

*Яшчэ пяе жаўрук для нас дваіх.*
*Высока сонца адплывае ў лета.*
*У каласы збіраецца палетак.*
*Такі шчаслівы, светлы гэты міг*

*Кахання. Нават дождж бурлівы сціх.*
*Я сонейкам вачэй тваіх сагрэты.*
*Яшчэ пяе жаўрук для нас дваіх.*
*Высока сонца адплывае ў лета.*

* * *

*У цёмнай хаце раптам пасвятлела.*
*Помню, ад здзіўлення закрычаў:*
*Белы бусел, асляпляльна белы,*
*Па-над хатай велічна кружляў…*

*Адплыло маленства, адзвінела*
*Галасістай песняй маладой…*
*Белы бусел, асляпляльна белы,*
*Назаўсёды ў памяці маёй.*

* * *

*Ратуе ад жыццёвага шаленства,*
*Як свята для душы і для вачэй,*
*Той луг за вёскай, дзе жыве ручэй,*
*Дзе дрэмле казка дзіўная маленства.*

*Там пастарэлы сад. А ў агародзе*
*Пякучка-крапіва. Пахілы дах.*
*У час вячэрні прытамлёны птах*
*Не першы год тут схованку*
*знаходзіць.*

*На смак вада ў крынічцы — проста*
*цуд.*
*І дрэвы шэпчуць голасам матулі,*
*І летуценні, што ў душы заснулі*
*Даўным-даўно, зноў ажываюць тут.*

* * *

*Прачнуўся я пасля расстання,*
*Аконца насцеж расчыніў.*
*Ступіў у хату, з сонцам, ранак,*
*Святлом вясновым дом заліў.*

*Гляджу звысоку: зелянее*
*Трава, сваволяць матылькі.*
*А ля акна любоў квітнее —*
*Рамонкі, ружы, гваздзікі…*

*Спіць любая. Сябе пытаю,*
*Як без яе пражыць я мог.*
*Маўкліва з ранкам размаўляю,*
*Што ў дом мой увайшоў, як Бог.*

**Натхненне**

*Дзівоснае яно, душы натхненне:*
*Звініць, пяе, бруіцца, як крыніца,*
*І адплывае ў Вечнасць праз імгненне,*
*Хоць ты і не паспееў ім наталіцца.*

*Дарэмныя замовы і маленні,*
*Бо з высахлай крыніцы не напіцца.*
*Пакуль звініць, пяе душа, бруіцца,*
*Пі пацалунак Вечнасці — натхненне!*



*Фота Валянціна Хасяневіча*



Ганна Дусь

**Вяртанне**

***Дыпціх***

**1**

*На "раз",*
*"два",*
*"тры"*
*расплюшчыла вочы.*
*Грукае ў такт цягніку сэрца.*
*Назаўтра буду маліцца*
*не здрадзіць,*
*не згубіць свой Дрэздэн.*
*На адлегласці ў тысячу кіламетраў*
*адшукаў ува мне сваю Вільню…*

**2**

*Хутка будзе "позна-позна"*
*ўсвядоміць сваю бясконцасць,*
*замовіць яшчэ гарбаты*
*і забыцца на марнасць імпэту*
*двух супрацьлеглых цягнікоў.*

**Прабач**

*Пасталелі мары.*
*Вясна прыносіць новыя.*
*Надта імпэтныя*
*каляровыя гмахі.*
*Чую,*
*як на суседнім даху*
*гамоняць нейкія бадзягі.*
*Замаўляю гарбату,*
*спявядаюся ветру,*
*чакаю павагі?!*
*Не! Усё вымерана,*
*вылічана і зразумела.*
*З мяне досыць!*
*У такое няўцешнай эры*
*адна прага, адно жаданне —*
*легчы спаць.*

**Сістэматызацыя пачуццяў**

***Трыпціх***

**1. Уступ**

*Збіраю кавалкі*
*нейкага бруднага*
*матэрыялу.*
*Мая вера ўчора*
*сканала.*
*У прыватнай лядоўні*
*скончыўся каляндар майя.*
*Ты дарма*
*наракаеш на поўню.*
*Яна не ўспомніць.*

**2. Кульмінацыя**

*Шафран пакладзены*
*на ноч у ваду —*
*сямейнае свята.*
*Я, праўда,*
*болей не магу.*
*Мне карціць.*
*Забойствы катаў*
*хвораму розуму*
*не дапамогуць.*
*Рашэнні даўно*
*прынятыя.*
*Кім?*
*Тым,*
*хто бачыць*
*сусвет праз дым.*

**3. Развязка**

*Акуляры.*
*Ложак.*
*Котка здохла.*
*На дыбачках —*
*да сметніку,*
*сагнуўшы спіну.*
*Шэптам:*
*"Усё будзе добра..."*

## Мастак і кніга

# Мара пра неба

**На старонках чатырох кніг серыі “МІФ — Мужская інтэлектуальная фантазія” Юрыя Юлава ёсць і малюнкі — як своеасаблівы камертон да ўспрымання кожнай з расказаных гісторый. Выканаў іх калега Юрыя — архітэктар Аляксандр Ліхачоў.**

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



*“Славянка”.*

**— Аляксандр Васільевіч, як пачалося ваша творчае супрацоўніцтва?**

— Лёс звёў нас у навукова-вытворчым аб'яднанні “Цэнтр” на прадпрыемстве, што ў савецкія часы працавала на “абаронку”. Кіраўніцтва ва ўмовах перабудовы знайшло новы напрамак дзейнасці — распрацоўваць атракцыёны. Абсталяванне, плошчы і высокакваліфікаваныя кадры гэта дазвалялі. Можна сказаць, я апынуўся амаль ля вытокаў развіцця гэтага напрамку. Для ўзору далі розныя “буржуйскія” каталогі, але ніколі не займаўся плагіятам. Канструкцыі, рашэнні і тэмы проста прыходзілі аднекуль звыш.

**Візітка:**
*Аляксандр Ліхачоў нарадзіўся ў 1958 годзе ў Мінску. Скончыў архітэктурны факультэт БПІ. Член Саюза архітэктараў СССР з 1983 года. Малюнкі друкаваліся ў газетах “Піянер Беларусі”, “Зорька”, “Вечерний Минск”, “Звязда”. На яго рахунку — дзве персанальныя мастацкія выстаўкі (2009, 2011).*

У НВА “Цэнтр” і пазнаёміўся з Юрыем. Праз некаторы час ён прапанаваў мне зрабіць малюнкі для яго твораў. Мы з ім падобныя: на рабоце займаемся выключна работай, а вольны ад працы час абавязкова прысвячаем патрэбам душы і сэрца. Яго літаратурныя творы дастаткова арыгінальныя і своеасаблівыя. Ён прапануе погляд на пэўную сацыяльную праблему, можа, іншы раз і перабольшаную. Таму графіка да яго фантазій — асабістае асэнсаванне тэмы, спроба яе раскрыцця пры дапамозе мастацкага вобраза.



*“Паралельны свет”.*

**— З якой пары пачалася ваша цікавасць да малюнка?**

— Яшчэ з дзіцячага садка. Там я добра маляваў і ляпіў. Гэта дапамагло вытрымаць першы ў жыцці іспыт. Першы экзамен здаваў пры паступленні ў школу: да поўных сямі мне не хапала больш як месяц, маці палічыла, што год губляць не варта, давялося адказваць на пытанні дырэктара школы і дэманстраваць яму свае малюнкі і самаробкі з пластыліну.

У школе ў мяне па малюнку канкурэнтаў не было. Займаўся ў студыях выяўленчага мастацтва пры школе, на Трактарным заводзе, пры Саюзе архітэктараў.

**— Чаму ж абралі будучай спецыяльнасцю архітэктуру?**

— У мяне яшчэ добра ішлі матэматыка і фізіка, але гэта вельмі далёка было ад малюнка. Бацька павёў на дзень адкрытых дзвярэй у політэхнічны. “Так зможаш?” — “Змагу”. Дарэчы, не шкадую, а пра студэнцкія гады засталіся добрыя ўспаміны — у нас было столькі сіл, ідэй.

**— Пра якія свае аб'екты ўзгадваеце з асаблівым задавальненнем?**

— Лента Мёбіуса ў дворыку Нацыянальнай акадэміі навук. Цікавая была задача, доўга шукаў вырашэнне.

Распрацаваны ад ідэі да апошняга балта атракцыён “Дракоша”. Я ў той час працаваў у “Ноу-хау” — маленькай фірме з вялікімі амбіцыямі. Менавіта там даручылі распрацоўку новага атракцыёна — невялікай каруселі для дзяцей, дыск з карыстальнікамі якой выконваў дастаткова складаны прасторавы рух. Зробленая ў трох экзэмплярах, яна трапіла ў сталічны парк Горкага (дзе працуе і сёння), у Маскву і Южна-Сахалінск. Гэты від дзейнасці мне вельмі падабаўся. Але з 2005 года попыт на распрацоўкі такой тэматыкі стаў зніжацца. Давялося шукаць новае месца прыкладання сіл. Паралельна займаўся жывапісам і малюнкам. І неўзабаве пачаў ілюстраваць творы Юрыя.

**— Як прыходзяць да вас сюжэты карцін?**

— І мастацкія, і тэхнічныя тэмы нараджаюцца знутры, патрабуюць свайго ўвасаблення. Ідэі бегла замалёўваю з тлумачальным тэкстам і датай. І толькі калі ўяўляю нават якога памеру будзе работа, пераношу на палатно. У 2009 годзе назбіралася пэўная колькасць жывапісных палотнаў, за якія не было сорамна. Тады і правёў першую выстаўку ў Саюзе архітэктараў.

**— А дзе ж выконваеце работы?**

— Майстэрняй служыць уласная кватэра.

**— Дзеянне некаторых твораў можна вызначыць як “дахрысціянскі час”.**

— Мяне заўсёды цікавіла гісторыя. Упэўнены, некалі людзі мелі магчымасць кантактаваць з дапамогай тэлепатыі, перадаючы адзін аднаму вобразы. Пасля згубілі гэты дар і сталі звяртацца да слова. Нашы продкі верылі, што існуе праяўленае і непраяўленае жыццё — “Явь” і “Навь”. (Ёсць яшчэ “Правь” — законы, па якіх жывуць гэтыя сусветы.) Калі душа знаходзіцца ў Наві, яна ведае ўсё пра свае папярэднія ўвасабленні і пра тое, што ёй неабходна ўдасканаліць, з'яўляецца ў праяўленым жыцці менавіта там, дзе можа гэтыя якасці напрацаваць. Таму людзі такія розныя.

**— Якой літаратурай цікавіцеся? З чаго пачыналася для вас уваходжанне ў Краіну чытання?**

— Пачынаў як чытач, канечне, з казак. Потым была школьная праграма, фантастыка, Бальзак, Гюго. Спрабаваў чытаць Канта. Сёння прыцягвае тое, што называюць эзатэрычнай літаратурай, але да яе трэба падыходзіць вельмі крытычна, апелюючы да ўласнага генетычнага вопыту.

**— Апрача таго, у сферы вашых захапленняў яшчэ і дэльтапланерызм.**

— Так, я захапляўся дэльтапланерызмам каля года, але кінуў — дзеля некалькіх хвілін палёту трэба вельмі доўга рыхтавацца.

**— І назаўсёды развіталіся з небам?**

— Не ўгадалі. Проста шукаю найменш затратны спосаб быць у ім. Хачу сам зрабіць аднамесны лятальны апарат. Неяк быў на зборы вынаходнікаў апаратаў звышлёгкай авіяцыі ў Кіеве. Пра іх знялі дакументальны фільм, у якім прамільгнуў на экране шчаслівы тварык маёй пяцігадовай дачушкі, звернуты да неба, дзе парылі гэтыя дзівосы. Хацелася б набыць гэту стужку для свайго сямейнага архіва.

**— Калі вы адчуваеце сябе найбольш шчаслівым?**

— Калі атрымліваецца работа. Знойдзеш рашэнне, як павінна закручвацца гайка, ці скончыш карціну. Пасля ўбачыш яе на выстаўцы зусім у іншым асвятленні і разумееш: “А жывеш недарма!”



*“Капялюш, пень, шалаш і вядзьмарка”.*

## Пад вокладкай

Юзэфа ВОЎК




**У невядомых сусветах — In fremden Welten: сучасная нямецкая літаратура / уклад. Райко Ласончык, Андрэ Бём. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — 255 с.**

Нацыянальная літаратура мацуецца, развіваецца не толькі за кошт новых кніг, напісаных на нацыянальнай мове, але і дзякуючы перакладам. Гэта перастварэнні як класікі, так і сучасных твораў маладых аўтараў. Думаецца, новы зборнік — добрае ўліванне “літаратурнай донарскай крыві” з Германіі ў выглядзе новых твораў, ідэйм і аўтарскіх падыходаў да творчасці. Анталогія змяшчае арыгінальныя нямецкія тэксты і іх пераклады, якія ўпершыню друкуюцца на беларускай мове. Яны сталі вынікам вялікага двухгадовага праекта, арганізаванага выкладчыкамі Германскіх службаў акадэмічных абменаў (DAAD) для студэнтаў з Мазыра, Гомеля, Гродна і Мінска. З дапамогай твораў сучасных нямецкіх аўтараў беларускі чытач наведае Санкт-Пецярбург пачатку XX ст., пешкі накіруецца ў Маскву, даведаецца пра лёс в'етнамскіх імігрантаў, пабачыць новыя з'явы ў невядомых землях і сусветах.



**Лыч, Л. Яўрэйская культура Беларусі — яе агульны духоўны набытак / Леанід Лыч. — Мінск, 2012. — 122 с.**

Яўрэйская культура Беларусі, нягледзячы на тое, што наша краіна знаходзіцца на вялікай адлегласці ад яўрэйскай гістарычнай тэрыторыі, на працягу не аднаго стагоддзя, як піша аўтар даследавання, “была на ўзроўні патрабаванняў часу, вызначалася сваім дынамічным развіццём”. Больш за тое, самыя адораныя прадстаўнікі яўрэйскай творчай інтэлігенцыі Беларусі пакінулі добрыя набыткі і далёка за межамі нашай краіны. У гэтай кнізе ў форме навукова-папулярнага нарыса ў агульных рысах асвятляецца гісторыя яўрэйскай культуры Беларусі ад моманту з'яўлення гэтай этнічнай супольнасці на яе тэрыторыі і па сёння. На старонках выдання шмат месца адведзена паказу як агульнага, так і адметнага ў лёсе яўрэйскай і беларускай культур, іх развіцця пад уплывам рускай і польскай.




**Гришковец, Е. Асфальт / Евгений Гришковец. — Москва: Махаон, Азбука-Аттикус, 2011. — 576 с.**

“Працаваць у бяссонную ноч не атрымаецца. У бяссонную ноч можна толькі не спаць”. “Парадак узнавіць лягчэй. А вось у спакоі ёсць мудрасць”. Фразы з рамана, якія адкрываюць хутчэй разуменне жыцця, чым проста ўжываюцца як патрэбныя па сюжэце, можна доўжыць і доўжыць. Гэта Грышкавец. Як заўсёды, спакойны, разважлівы, смелы. Але на гэты раз нейкі крыху скомканы ў стылі і адначасова расцягнуты па сюжэце. “Асфальт”, як ужо адзначылі крытыкі, — “вельмі спакойны раман пра смерць”. Спакойны не па дзеянні, а па адносінах да самога прадмета, то бок смерці. Калі вы любіце ўпотай назіраць за людзьмі, то гэтая кніга для вас.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл.: 385-60-89.**



Раіса Дзейкун

# «Бульбаш» на караблі

*Апавяданне*

Пасля заканчэння сельскагаспадарчай акадэміі Сашу ўзялі служыць на Чарнаморскі флот, а патрапіў вясковы хлопец у Севастопаль на ракетны крэйсер. Там, дзе Саша нарадзіўся, не тое што мора — возера людскага, нават рачулкі не было — так, лес ды балоты, вакол вёскі меліярацыйныя канавы, маленькія і адна вялікая. На малых ён разам са старэйшымі братамі ставіў вербалозавыя кошыкі на ўюноў, на вялікую, якая выструнілася за некалькі кіламетраў ад селішчаў, яны хадзілі з комляй — лавіць шчупакоў, язёў, плотак. Там жа, на водмелях, можна было і пакупацца — канава была даволі глыбокая.

Вось і ўсё знаёмства хлопца з воднай стыхіяй.

Цяжка яму давялося спачатку. Усё для Сашы было незнаёмае, нязвыклае. А тут яшчэ марская хвароба — гайданка. Варочала, як казалі ў іхняй вёсцы, усе шлунні. Не паспеўшы што ўкінуць у рот, хлопцы беглі да гальюна. Бывала, не дабягалі. Медыкі з карабельнага лазарэта, вядома, памагалі навічкам змагацца з неспадзяванай хваробай, але не ўсім удалося справіцца з ёю — некалькі чалавек потым спісалі на бераг.

Так працягвалася тыдні з два, пакуль маладыя арганізмы хлопцаў прызвычаіліся да новага асяроддзя. Потым стала лягчэй. Саша з іншымі навабранцамі, якіх на караблі было ні многа ні мала некалькі сотняў, а з пастаяннай камандай — больш як тысяча, пачаў патроху ўцягвацца ў нялёгкія марскія будні. Разам з такімі ж, як сам, "салагамі" вучыўся драіць палубу, стаяць на вахце, прычым стаяць у прамым сэнсе слова — шырока расставіўшы ногі, ні за што не трымаючыся.

Атамны велікан быў памерамі са шматпавярховы дом. З такога не саскочыш на сушу і не пойдзеш куды захочацца. Крэйсер нават не стаяў дзе-небудзь у порце, а рэйд за рэйдам баразніў прасторы акіяна, рассякаючы магутнай грудзінай шэра-зялёныя валы вады. Гэтай без меры салёнай вадой Саша ўжо апаліў сабе шлунак — навабранцаў усіх прапусцілі праз абрад прыняцця ў матросы. Кожны з "салаг" мусіў выпіць амаль па літры марской вады, якую самі ж мусілі даставаць праз ілюмінатар алюмініевым чайнікам, прывязаным да шнура ад бялізны.

Яшчэ перад службай Саша навучыўся па-майстэрску граць на гармоніку і на баяне, быў удзельнікам акадэмічнага народнага танцавальнага калектыву. У ваенкамаце, відаць, добра ведалі сваю справу. Саша быў залічаны ў карабельны духавы аркестр, а тут заадно давялося асвойваць ударныя інструменты. Акрамя гэтага, яму яшчэ даручылі распісваць ноты ваенных маршаў.

Каманда музыкаў, у якую патрапіў Саша, налічвала дваццаць два чалавекі. З вышэйшай адукацыяй, як ён, было яшчэ трое хлопцаў: грузін Нодзік, армянін Цігран і ўкраінец Сяргей. Яны пасябравалі. У рэдкія хвіліны, вольныя ад карабельнай службы, Саша браў баян і з асаблівым пачуццём найграваў свае і матчыны любімыя мелодыі: "Цячэ вада ў ярок", "Касіў Ясь канюшыну"... Хутка да беларуска-рускага рэпертуару Сашы далучыліся ўкраінскія, армянскія, грузінскія і нават чувашскія песні.

Ціграна з дыпломам выпускніка інстытута харчовай прамысловасці неўзабаве забраў да сябе на камбуз карабельны кок.

— Свой чалавек ля катла з кашай — залаты чалавек, тым больш у моры, — па-філасофску аб'явіў Нодзік. З ім усе пагадзіліся.

Перавагу і карысць "свайго чалавека" на камбузе першым на сабе адчуў Саша.

— На, Сашко, табе дзве порцыі бульбы, ты ж у нас "бульбаш"! Я ведаю, што яна для цябе як макароны для італьянцаў, — падміргваў Цігран кожны раз, калі на гарнір была тоўчаная бульба-пюрэ або смажанка.

А Сашу ўспаміналася іншая бульба — свая, беларуская.

Так, бульба для яго была чымсьці большым, чым проста смачная ежа. Гэта была часцінка яго даармейскага жыцця, яна нагадвала яму дзяцінства, вучобу ў акадэміі — словам, родную Беларусь. У іх сям'і, дзе было сем чалавек разам з бацькамі, а Саша — селядоршым сярод братоў і сясцёр, бульба і зімою, і ўлетку лічылася асноўным наедкам. Яна ў іх расла на агародзе, на "рагу", на "балоце", "ля Шкірмана", "каля Восава", словам, усюды, дзе льга было ўторкнуць клубень. У суседзяў па вуліцы таксама — у каго дзе. Колькі ён яе, гэтай смачнай, сопкай бульбы, перакапаў разам з сёстрамі і маці! А колькі мяшкоў перавёз разам з братамі і бацькам: і на тачцы, і на веласіпедзе, і на "мадзяроне" (чыгуначнай дрызіне), і на суседскім кані! А колькі перабраў і паабрываў па вясне доўгіх белых парасткаў, седзячы наўколенцах у падполе! А колькі вялізных чыгуноў свінням яе намыў, бо трэба было кожны дзень памагаць маці выпальваць у печы!



Дык жа было чаго старацца — бульба аддзячвала ім таксама ого як! З-пад рук маці яна падавалася на стол тоўчанай на малацэ, з краплінамі падсмажанай на сале цыбулі з морквою, ахутанымі парай салонікамі, роўненькімі, адзін у адзін, хрумсткімі дранікамі, а яшчэ была бульба са свіным тлушчам, запечаная з сялянскай каўбасой, гатавалася салодкім ад маладых падасінавікаў булёнам, пахучай бабкай, усялякімі там коржыкамі. А пячонікі! Як жа Саша забыў пра іх? Пячонікі, выхапленыя з цяпельца, былі асабліва смачныя, калі браты і сёстры пасвілі кароў, свіней, гусей на выгане. А пра тыя, што пякліся ў грубцы, калі ў хату зімовымі суботамі збіраліся суседзі, не варта і казаць. Пячонікі на такіх вячорках былі абавязковым атрыбутам, за які адказваў Сашаў старэйшы брат. Старэйшы камандаваў гармонікам, а ён, малы, разам з яшчэ меншай сястрой скакалі-танчылі на тых вячорках…

У труме — велізарным чэраве карабля — была назапашана для экіпажа розная правізія: штабялі скрынь і мяхоў з крупамі, макаронамі, жытняй і пшанічнай мукой (на крэйсеры выпякаўся свой хлеб), кансервамі, гуркамі ў трохлітровых слоіках... У асобных адсеках захоўвалася гародніна: буракі, морква, капуста, бульба. Калі ў меню на гарнір была менавіта бульба, абіраць яе на камбуз адпраўлялі два дзясяткі матросаў. На ўвесь састаў карабля бульбы патрэбна было сем-восем вялізных пяцівядзёрных алюмініевых "каструль". Есці любілі ўсе, а лупіць-абіраць, як высветлілася, — не вельмі.

Калі першы раз Саша разам са сваёй камандай патрапіў у нарад на камбуз, а адтуль — да трума з агароднінай, дык першае, што кінулася яму ў вочы, была аграмадная, аж пад столь, распоўзлая ва ўсе бакі гурба бульбы. Большасць хлопцаў, навучаных старэйшымі матросамі з іншых падраздзяленняў, узялі маленькія вострыя нажы і пачалі ўзбірацца на тую гару, на самы верх. Іншыя — тапталіся ўнізе па бульбе, толькі трушчылі яе і не ведалі, з чаго пачаць. Вакол стаяў гнілаваты пах. Саша пабачыў, што бульба ўся перамешана з лушпінамі. Хлопцы палезлі наверх, парассядаліся хто дзе і пачалі шукаць у той мешаніне самыя вялікія клубні. Знайшоўшы буйны клубень, пачыналі яго лупіць. Лепш сказаць — рэзаць, крэмзаць, абразаючы бульбіну ледзь не напалавіну. Лушпайкі падалі тут жа — на бульбу. Аблупленую бульбіну пад радасныя воклічы: "Ёсць адна!", або "У мяне пятая!" зверху кідалі-цалялі ў каструлі. Патраплялі не ўсе. Матросы, што засталіся ўнізе, прыселі наўколенцы і пачалі рабіць тое самае.

— Што ж гэта вы, хлопцы? — з гневам закрычаў тады Саша. — Хто так лупіць? Што вы там шукаеце-перабіраеце? Чаго калупаецеся, а не бярэце ўсю падрад? А хто мяшае бульбу з яе лушпайкамі? Яна ж абавязкова згніе. А чаго вы па ёй лазіце, жывасілам абдзіраеце сваімі каванымі шкрабакамі? Гэта вам не капа сена, што наверх палезлі! А чаго вы клубнямі кідаецеся, як гранатамі? Ці не ведаеце, як цяжка яна дастаецца людзям, калі так абыходзіцеся з ёю? Ану, злазьце!

— Чаго ты расхадзіўся, табе што, бульбы мала? Табе ж Цігран падкідвае як нікому з нас. Большую шукаем, каб хутчэй напоўніць гэтыя бочкі — каструлі. Хіба не зразумела? А лупіны тут кідалі і да нас. Куды іх дзяваць? — загулі хлопцы.

— Злазьце, кажу вам! Лепш я адзін налуплю, чым так, як вы робіце!

Да гэтага спакойны і разважлівы, "бульбаш" аж затупаў нагамі. Нехаця хлопцы пачалі злазіць уніз.

— Паглядзіце, як патрэбна лупіць бульбу.

Саша ўзяў першую з-пад ног і імгненна яе ачысціў. Паказаў лупіну — тая аж прасвечвалася.

— Іграць навучыліся? А тут бульбу аблупіць як след не можаце. Глядзіце сюды.

Саша спачатку паказаў, як трымаць нож, потым пачаў акуратненька вадзіць лязом вакол клубня. Аблупленыя бульбіны, роўненькія, адна ў адну, з рук "бульбаша" так і сыпаліся ў каструлю. Усё шалупінне, знятае колцамі, было надта тонкім. Хлопцы толькі дзівіліся Сашаваму спрыту. Потым і самі пачалі спрабаваць абіраць бульбу гэтак жа роўна і чыста.

Саша вучыў хлопцаў лупіць бульбу па-гаспадарску, расказваючы ім розныя гісторыі пра яе: як заморскі клубень трапіў у Еўропу, у Беларусь, якія прыгоды з бульбай адбываліся ўвесь той час, як яна прыжывалася на новых землях. Як яна, мёрзлая, гнілая, ратавала людзей ад голаду ў час апошняй вайны. Саша ведаў гэта з успамінаў бацькі і маці. А колькі чароўных якасцей бульбы адкрыў для сябе чалавек! І дзе толькі сёння не абыходзяцца без бульбы: яна ёсць у цукерках, у гуме, у тэкстылі, у сухім лёдзе — усяго не пералічыць! "Бульба — сапраўдны скарб зямлі", — раскрываў вочы сваім таварышам па службе "бульбаш".

Высветлілася, слухалі яго не толькі таварышы-музыканты…

Пасля першага паходу на абірку бульбы, калі яна зноў аказалася ў меню, нарад выпаў на іншы кубрык. Да музыкантаў, якія развучвалі ноты культавага маршу "Славянка", зайшоў мічман.

— Мічман Нарэйка, камандзір прадуктовых запасаў, — коратка адрэкамендаваўся ён і тут жа спытаў: — А дзе тут наш Бульбаш?

Саша выцягнуўся перад ім "смірна".

— Як ты, паважаны, глядзіш на тое, каб павучыць розуму новую каманду? — спытаў Нарэйка. І ўдакладніў: — Бульбу абіраць павучыш, а то нам яе да канца паходу не хопіць. З тваім камандзірам я дамовіўся.

Так Саша акрамя сваіх законных нарадаў пачаў бываць каля любіміцы-бульбы амаль кожны тыдзень. Ён дамогся таго, што бульбу ўсю перабралі, аддзялілі ад яе гнілое шалупінне, падгрэблі. Каструлі цяпер ставілі на падлогу на вызваленае месца, а абіральшчыкі сядзелі ўнізе на маленькіх табурэтках — іх спецыяльна купілі дзясяткі два пры заходзе ў нейкі порт падчас рэйду.

Першыя дні, тыдні і месяцы маладыя матросы адчувалі сябе галоднымі, нягледзячы на добрую кармёжку. З меню не выбывалі мяса, рыба, але ў час нават невялікай гайданкі з іх уся тая яда вылятала, як корак з бутэлькі. У свой чарговы нарад па бульбе Саша прапанаваў Ціграну адварыць "мундзіраў".

— Чаго-чаго?

— Бульба ў шалупінні. Хлопцы галодныя, не бачыш — зялёныя сталі. Памыць толькі яе трэба.

Зварылі поўную каструлю. Забралі з сабой у кубрык, прыхапілі солі. Хапіла ўсім па дзве-тры ды яшчэ іншым засталося. Саша глядзеў, як хлопцы лупілі "мундзіры", і толькі шчасліва ўсміхаўся. Збоку яму здавалася, што сябры век не бачылі не толькі пустой бульбы, а мо тыдзень не елі зусім. І здарылася дзіва: пасля "мундзіраў" ніхто не пабег да гальюна.

Іншы раз, пакуль яны лупілі бульбу і запаўнялі каструлі для ўсёй каманды, трое хлопцаў, якім Саша паказаў, як трэба рабіць смажанку, церлі бульбу на дранікі для "бульбянай каманды": музыканты, кок і яго памочнікі — дзе ж тут не напячы на ўвесь экіпаж карабля?

Хлопцы, што часова траплялі да гэтай каманды, мала-памалу вучыліся не толькі як след лупіць бульбу, а і гатаваць і пячы з яе тыя ж хрумсткія дранікі. У мічмана-гаспадарніка адпала праблема з нарадамі на абіранне бульбы. Раней матросы пад любымі прычынамі стараліся ўнікнуць гэтай усё ж нуднай і марудлівай справы, а працэс абірання так зацягваўся, што кок ледзь паспяваў управіцца з прыгатаваннем абедаў.

— Хутчэй бы ўжо той нарад, дранікаў хочацца, — цяпер марылі не толькі музыканты.

Так з лёгкай рукі Сашы-бульбаша "мундзіры" з дранікамі сталі на крэйсеры традыцыяй.

Заканчваўся тэрмін марской службы.

— Глядзі, не падвядзі, годна трымай высокую марку "бульбаша" на крэйсеры, — наказваў Саша навабранцу-земляку з-пад Гомеля праз месяц, пакідаючы карабель у апошні дзень службы.

Сам ён вяртаўся дамоў, у Беларусь, у сваю палескую вёску, да роднай зямлі.

# Маштабная містычнасць

**Выстаўка Ракеша Бані, мастака-графіка індыйскага паходжання, упершыню дэманструецца ў Беларусі. Экспазіцыя, прадстаўленая ў сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, уключае больш як дваццаць работ у тэхніцы афорта. Аднак адмысловае значэнне маюць буйнамаштабныя аркушы, у якіх мастак выяўляе бязмежныя магчымасці эксперымента. Ён з'яўляецца дацэнтам мастацкага факультэта ва ўніверсітэце Курукшэтры ў Індыі. Удзел у шматлікіх семінарах і стажыроўках дапамог яму даследаваць разнастайныя аспекты друку і тэхнікі стварэння каляровага афорта.**



*"Успаміны-ІІ".*

**Віктар КАВАЛЁЎ, фота аўтара**

Галоўны прынцып творчасці Ракеша Бані можна вызначыць як уваходжанне ў свет уяўлення: "чалавек становіцца мастаком, як толькі пачынае фантазіраваць". Яго творчае імкненне скіроўваецца на тое, каб удыхнуць жыццё ў свае работы, выказаўшы праз іх смутак, радасць і гнеў. Менавіта таму ў афортах індыйскага майстра можна пабачыць дынамічныя чалавечыя фігуры з крыламі стракозы, матыля, анёла. Гэтыя вобразы, нібы ўспаміны пра містычныя часы, дапамагаюць усвядоміць, што ў гэтым свеце існуе толькі бачная, ілюзорная рэальнасць. Мастак ілюструе тонкую сувязь з рытуалам, духоўным мінулым індыйскай культуры, паказваючы шлях ад "міфа" да "логасу".



*"Страчаныя мары".*

Ракеш Бані з'яўляецца адным з данатараў нашага Музея сучаснага выяўленчага мастацтва, які на пачатку восені адзначыць сваё пятнаццацігоддзе. Таксама індыйскі творца стаў адным з першых мастакоў, хто пагадзіўся браць удзел у міжнародным праекце "Ex libris" і падараваў музею дзесяць сваіх афортаў. Такім чынам, ад знаёмства з экслібрысамі ды мініпрынтамі пацягнулася нітачка да буйных твораў Ракеша Бані. Убачыўшы фотаздымкі яго работ, супрацоўнікі музея з задавальненнем прынялі прапанову — паказаць у Мінску буйнамаштабныя афорты індыйскага майстра.



*"Нямы дыялог".*

Выстаўка унікальная не толькі тым, што яна — першая персанальная экспазіцыя работ Ракеша Бані ў Беларусі. Гэта наогул першая выстаўка сучаснай друкаванай індыйскай графікі ў нашай краіне. Работы цікавыя не толькі ў плане вобразнасці, багатага ўнутранага свету мастака, а таксама тэхнікай аўтара. Справа ў тым, што свае буйныя творы ён набірае з некалькіх афортных пласцін паводле прынцыпу мазаічнасці, але гэта абсалютна не перашкаджае цэласнаму ўспрыманню выявы, не дробніць работы. Творчасць такога ўзроўню, як кажуць спецыялісты, перацякае ў разрад ментальнай графікі.

На вернісажы беларускі мастак-графік Раман Сустаў зазначыў: "Дадзены праект унікальны. Адна справа стварыць невялікую, камерную работу ў межах невялікай майстэрні, і зусім іншая — займацца афортам і друкаванай графікай у такіх уражлівых памерах, бо самы вялікі твор на выстаўцы разгорнуты ў даўжыню на два метры. Практычна не знойдзеш цяпер у Беларусі мастака, які працуе ў такіх маштабах, у нас проста тэхнічна немагчыма выканаць такія работы. І не толькі таму, што трэба зрабіць вялікую дошку для прынта, але і надрукаваць выяву. Гэта выдатны досвед для беларускіх мастакоў і студэнтаў — пабачыць, на якім высокім тэхнічным узроўні ўсё гэта зроблена: складаны двух- і трохколерны друк, тым больш у такім фармаце".

Экслібрыс Ракеша Бані нясе ў сабе абагульненне назапашанага тэхнічнага майстэрства, выяўляе "цёмны бок", страх і ўнутраны холад чалавечага светаўспрымання. Мастаку ўласцівае адчуванне глыбокага хвалявання. Ён імкнецца перадаць станы чалавека, спазнаць унутраную таямніцу яго перажыванняў, выявіць падсвядомасць і ўтоеныя эмоцыі. Гэта сюррэалістычнае мастацкае мысленне, дзе вызначаны тэмы метамарфозы, вечнасці і сувязі чалавека з прыродай.

Складаныя сімвалічныя вобразы Ракеша Бані ўтвараюць свет фантазій, сноў, ірэальнасці. Пластыка формаў абагульненая і валодае асаблівай экспрэсіўнасцю і эмацыянальнасцю. Выкарыстоўваючы некалькі друкарскіх формаў, мастак стварае колеравыя танальныя пераходы, запаўняе "адчувальным" паветрам прастору карціны. Такі эфект дасягаецца за кошт маштабнасці друкаванага аркуша, які, як мазаіка, скрупулёзна канструюецца аўтарам. Пры гэтым творца эксперыментуе, спалучае некалькі тэхнічных прыёмаў, якія надаюць эфект свежасці яго графічным работам.

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Вячаслава Дубінку ведалі многія. Таленавіты беларускі самародак, ён меў залатыя рукі, шчырае сэрца, творчую душу. Яго памятаюць як будаўніка, фотарэпарцёра, мастака і пісьменніка — аўтара трох кніг прозы. Дзякуючы энтузіязму Вячаслава Андрэевіча, які ў 1965 г. пачаў займацца выцінанкай, у Беларусі адрадзіўся гэты традыцыйны, але амаль забыты від народнага мастацтва. Сваімі арыгінальнымі выцінанкамі В. Дубінка афарміў зборнікі казак, кнігі паэзіі, выданні для дзяцей. Яго жыццё раптоўна абарвалася пазамінулым летам, але дзякуючы сябрам творцы ў 2011 г. выйшаў у свет яго аўтарскі альбом — "Выцінанкі". Нядаўна Беларускі саюз мастакоў наладзіў у сталічным Палацы мастацтва мемарыяльную выстаўку "Я проста ў далёкай дарозе", прысвечаную яе 70-годдзю з дня нараджэння В. Дубінкі.

Праведзены летась у Мінску Фестываль культуры і мастацтваў Ірана пазнаёміў нас з творчымі традыцыямі далёкай краіны і нават даў магчымасць паназіраць за працай яе ўмельцаў: дываноўшчыкаў, ганчароў, майстроў люстраной мазаікі, лепкі, пляцення цыновак, паўдзельнічаць у майстар-класах каліграфіі, чаканкі, разьбы па дрэве. Працягам знаёмства сталася выстаўка "Традыцыйнае іранскае мастацтва" з фонду Пасольства Ісламскай Рэспублікі Іран у нашай краіне, адкрытая ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў вёсцы Раўбічы (філіял НММ Беларусі). Тут экспануюцца шэдэўры традыцыйных відаў старажытнага іранскага мастацтва, якое фарміравалася на працягу васьмі тысячагоддзяў. Дываны з воўны, абрусы і сурвэткі з баваўнянай тканіны, медны посуд, распісаны каляровай эмаллю, інкрустацыя па дрэве — сапраўдныя рукатворныя цуды!

Больш як 40 твораў Уладзіміра Кароткага знаходзіцца ў фондах музея Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Гэта пераважна лірычныя акварэльныя пейзажы, падораныя музею іх незабыўным аўтарам. "Заўжды з адкрытай добраю душой" — такую назву атрымаў вернісаж, зладжаны ў выставачнай зале цэнтральнай часткі палаца Румянцавых і Паскевічаў у памяць пра майстра, карэннага гамяльчаніна, песняра беларускіх краявідаў, светлага чалавека, які пакінуў адметны след у мастацтве.

Сёння — 90 гадоў з дня нараджэння народнага артыста БССР Георгія Волкава. Ураджэнец Масквы, ён звязаў сваё творчае жыццё з Беларуссю. У 1944 г. пасля заканчэння Маскоўскага гарадскога тэатральнага вучылішча пачаў працаваць акцёрам Брэсцкага абласнога драматычнага тэатра. Неўзабаве заняўся рэжысурай у тым жа тэатры, 14 гадоў быў яго галоўным рэжысёрам (спецыяльную адукацыю атрымаў на Вышэйшых рэжысёрскіх курсах пры Ленінградскім тэатральным інстытуце). З 1979 г. выкладаў у БДТМІ. Сярод асноўных пастановак — "Дзень цішыні" М. Шатрова, "Брэсцкі мір" і "Брэсцкая крэпасць" К. Губарэвіча, "Усяго адно жыццё" А. Маўзона, спектаклі паводле п'ес А. Макаёнка, М. Матукоўскага, рускай класікі.



# Настаўнік. Майстар. Кумір

**Май Данцыг, Уладзімір Стальмашонак, Уладзімір Тоўсцік, Васіль Сумараў, Нінэль Шчасная, Зоя Літвінава, Святлана Каткова ды яшчэ многія вядомыя імёны... Што аб'ядноўвае іх, такіх розных прадстаўнікоў некалькіх пакаленняў айчыннага выяўленчага мастацтва: прыналежнасць да творчай эліты? Так, але не толькі. Усе яны родам з аднаго "мастацкага дзяцінства", незабыўным кумірам якога быў Сяргей Каткоў — выдатны жывапісец і педагог, заслужаны настаўнік БССР.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Студыя выяўленчага мастацтва пры мінскім Палацы піянераў і школьнікаў, якую ён вёў з 1937 г., славілася ў даваенны час. А потым — трагічны паварот гісторыі. Гады гітлераўскай навалы зламалі, скалечылі, рэзка змянілі лёс нашых суайчыннікаў. Аднак мастак-франтавік Сяргей Каткоў, перажыўшы ліхалецце, вярнуўся ў вызвалены Мінск і аднавіў заняткі з дзецьмі.

Чвэрць стагоддзя (з 1946-га па 1971-ы) працаваў у Палацы піянераў і школьнікаў, раскрываў, падтрымліваў таленты, дапамагаў студыйцам вызначыцца з выбарам будучай прафесіі. Стаў ён і Настаўнікам для тых юных творцаў, якія свой выбар ужо зрабілі: выкладаў у Мінскім мастацкім вучылішчы (1956 — 1958), Рэспубліканскай школе-інтэрнаце па музыцы і выяўленчым мастацтве (1963 — 1965).

Адным з галоўных урокаў для вучняў Сяргея Пятровіча была яго ўласная творчасць. Ураджэнец расійскай глыбінкі, ён скончыў славуты Пензенскі мастацка-педагагічны тэхнікум, дзе прайшоў сапраўдную школу класічнага жывапісу. Традыцыі рэалістычнага пейзажу ён увасабляў і пераасэнсоўваў у сваіх работах з творчай смеласцю наватара, з адчуваннем жывога подыху сучаснасці, што і сёння захапляе гледачоў.

Да 100-годдзя з дня нараджэння майстра Нацыянальны мастацкі музей Беларусі наладзіў выстаўку "Сяргей Каткоў і вучні", дзе экспануюцца дзясяткі ўзораў яго жывапісу і графікі з фонду НММ, са збору дачкі Сяргея Пятровіча — мастачкі С. Катковай, а таксама творы яго вучняў (з прыватных калекцый). Ёсць тут і дзіцячыя малюнкі 1960-х гадоў — кранальныя творы колішніх студыйцаў С. Каткова.

# Мандаліна, гітара і бас

**“Вы паверце, гучалі не горш, чым джаз, мандаліна, гітара і бас!” Гэты радок старой добрай песенькі стаўся сугучным аднаму з канцэртаў сёлетняга сезона Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэтым канцэртам завяршаўся фэст “Mandolinissimo” (пад такой назвай у Мінску з 2008 года праходзяць Міжнародныя дні мандалінна-гітарнай музыкі). Асаблівую ўрачыстасць канцэрту надавала тое, што ў межах яго праграмы ладзіўся юбілейны вечар выдатнага музыканта, аранжыроўшчыка, педагога Яраслава Валасюка. Сваё 60-годдзе маэстра адзначаў не проста ў коле родных і сяброў, а на сцэне, сярод калег-аднадумцаў, вучняў і ўдзячных слухачоў, цешачы прысутных сваёй творчасцю і выканальніцкім майстэрствам.**

**Тацццяна РЭЯНТОВІЧ**

Творчая біяграфія Яраслава Валасюка ўражвае. Заняткі ў Брэсцкім музычным вучылішчы. Затым, у сценах Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, — спасціжэнне сакрэту прафесійнага майстэрства пад кіраўніцтвам выдатных музыкантаў і педагогаў Г. Жыхарава і В. Краснаярцава. Скончыўшы кансерваторыю, Я. Валасюк становіцца салістам-інструменталістам у Ансамблі песні і танца Беларускай ваеннай акругі. Падчас працы ў выдатным калектыве музыкант атрымлівае званне лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі.

Затым ён прыйшоў у Камерна-інструментальны ансамбль Беларускага тэлебачання і радыё. Знаны калектыў узначальваў тады Л. Смялкоўскі, поруч працавалі Л. Чарняк, А. Халшчанкоў, У. Гародкін — вялікія энтузіясты адраджэння домры і мандаліны ў Беларусі. І для Яраслава Аляксандравіча адраджэнне традыцый гэтага віду выканальніцтва, прапаганда адпаведнай музыкі ў масавай аўдыторыі зрабіліся адной з яго галоўных спраў. Калі ў 1983 годзе Я. Валасюк стаў мастацкім кіраўніком ансамбля, калектыў наладзіў шырокую канцэртную дзейнасць, неаднаразова выступаў за мяжой, нястомна прапагандуючы, разам з іншымі творамі, музыку беларускіх кампазітараў. Але важней за ўсё быў запіс музыкі ў радыёстудыі. Вынік гэтай велізарнай працы “на гісторыю” — больш як пяцьсот твораў, якія запісаныя камерна-інструментальным ансамблем і знаходзяцца ў фондах радыё.

З 1982 года Я. Валасюк з’яўляецца выкладчыкам спецыяльных дысцыплін у БДУ культуры і мастацтваў, а з 1992-га — у Мінскім дзяржаўным музычным каледжы імя М. І. Глінкі, дзе сёння ўзначальвае цыклавую камісію “Інструменты народнага аркестра” (народныя струнныя інструменты). Цяпер асноўная частка яго прафесійнай дзейнасці — карпатлівая, але вельмі плённая педагагічная праца. Вучні Яраслава Аляксандравіча — К. Пракопчык, Л. Кісялёва, К. Забайрачная, К. Жылякова, І. Драгуноў, Т. Анкуда, А. Шалаева — лаўрэаты і дыпламанты міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі.



*Трыа мандалiністаў.*

Незабыўным у творчай біяграфіі музыканта застанецца 1997 год, калі ў складзе квартэта мандаліністаў ён удзельнічаў у выкананні музыкі балета С. Пракоф’ева “Рамэа і Джульета” пад кіраўніцтвам М. Растраповіча. Спектакль, пастаўлены ў Нацыянальным тэатры оперы і балета Літвы, быў паказаны ў розных краінах.

Працуючы ў каледжы, Я. Валасюк заснаваў ансамбль народных інструментаў, удзельнікі якога — выкладчыкі каледжа аддзялення “Інструменты народнага аркестра” і, вядома ж, сам Яраслаў Аляксандравіч. Неўзабаве ансамблю было нададзена званне “народны”. Дарэчы, і на сёлетнім юбілейным вечары свайго маэстра калектыў радаваў слухачоў выдатнай ігрой. Але гэта не адзіны ён, створаны Я. Валасюком. Аддаваны справе адраджэння мандаліны ў Беларусі, ён у сценах музычнага каледжа арганізаваў неапалітанскі ансамбль — з навучэнцаў і выкладчыкаў класаў домры (мандаліны) і гітары.

Неўзабаве ансамбль быў пераўтвораны ў Мінскі мандалінны аркестр, куды ўжо ўваходзілі, акрамя прадстаўнікоў каледжа, выкладчыкі, студэнты, навучэнцы Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, дзіцячых музычных школ і ДШМ. А 16 снежня 2008 г. прэзідыум праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў сваёй пастановай замацаваў статус Мінскага мандалінна-гітарнага аркестра як калектыву БСМД і зацвердзіў яго мастацкім кіраўніком Я. Валасюка.

Новы статус — новыя клопаты. Цяпер аркестру быў патрэбны пастаянны дырыжор, які б ведаў спецыфіку працы з гэтым інструментальным складам. Са шматлікіх кандыдатур быў абраны чалавек, непасрэдна звязаны са сцэнай і выканальніцтвам на народных струнных інструментах — Эльвіра Тахірава. Выпускніца Мінскага музычнага вучылішча і БДАМ па класе домры, яна, да таго ж, — прафесійны дырыжор. Цяпер Эльвіра Бахціяраўна спалучае канцэртную дзейнасць з выкладаннем у ДШМ, дзе таксама кіруе ансамблем выкладчыкаў. Ядро Мінскага мандалінна-гітарнага аркестра — музыканты, якія ігралі тут з моманту яго стварэння, лаўрэаты многіх міжнародных конкурсаў, педагогі. Поруч з імі — больш зменлівы кантынгент навучэнцаў і студэнтаў.

Такім чынам у аркестра з’явіўся свой дырыжор, а Я. Валасюк змог паглыбіцца ў абавязкі мастацкага кіраўніка. Яраслаў Аляксандравіч вядзе вялікую работу, узбагачаючы і пашыраючы рэпертуар аркестра па ўсіх стылёвых і жанравых напрамках. З аднаго боку, у музычным багажы гэтага выдатнага калектыву пастаянна з’яўляюцца новыя творы — рознага кшталту, здатныя задаволіць музычныя запатрабаванні і прафесіяналаў, і аматараў, але заўсёды адметныя высокімі мастацкімі вартасцямі. З іншага боку, пашыраецца інструментальны склад канцэртных праграм: у іх уваходзяць не толькі аркестравыя, але і ансамблевыя творы (для дуэта, трыа, квартэта мандалін і розных змяшаных складаў). Высокі мастацкі ўзровень тым больш выклікае павагу, што гэты аркестр не скіраваны на рэгулярную канцэртную дзейнасць.

Мандалінна-гітарны аркестр перыядычна збіраецца для ўдзелу ў асобных праектах, такіх, як канцэрт памяці выдатнага японскага кампазітара і мандаліста Я. Кувахары (2008), IV Рэспубліканскі фэстываль памяці Г. І. Жыхарава (2010). Але галоўнай канцэртнай пляцоўкай для калектыву застаецца фэст “Mandolinissimo” — сапраўднае свята, якое заўсёды ўражвае багатай канцэртнай праграмай, высокім прафесійным узроўнем выканаўцаў. Выступленні спадзвіжнікаў Я. Валасюка займаюць у гэтым праекце годнае месца і выклікаюць захапленне публікі.

## Нашы юбіляры



**Томас Мацвеевіч КУРЫЛА** — ганаровы намеснік старшыні праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, заслужаны работнік культуры Беларусі;



**Анатоль Леанідавіч АКУШЭВІЧ** — начальнік упраўлення культуры Мінскага аблвыканкама, член прэзідыума праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў;



**Сяргей Дзмітрыевіч САЛОХІН** — член праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, старшыня пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі БСМД;



**Віктар Мікалаевіч КУЛЬПІН** — член праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў, старшыня Асацыяцыі беларускіх майстроў музычных інструментаў БСМД;



**Алег Барысавіч ЗАЛЁТНЕЎ** — кампазітар, загадчык кафедры Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, член праўлення Мінскага гарадскога аддзялення БСМД;



**Іван Міхайлавіч ЛАПАЦЕНТАЎ** — дырэктар Дзіцячай музычнай школы № 19 г. Мінска;



**Людміла Іванаўна ВАЛАТКОВІЧ** — артыстка Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра Рэспублікі Беларусь імя І. І. Жыновіча.

# «Star Show» — упершыню

**Алеся ПЕРВУНОВА**

**224 ўдзельнікі ад 5 да 27 гадоў, у тым ліку і дзеці-інваліды — прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь, Украіны, Расіі, Малдовы, сабраліся ў Мінску на Першы міжнародны форум дзіцяча-юнацкай творчасці “Star Show”. Заснавальнікамі яго выступілі Беларускі саюз музычных дзеячаў і прадзюсарскі цэнтр “YSV”. У форуме бралі ўдзел вакальныя, харэаграфічныя, інструментальныя калектывы.**

Адкрыццё мерапрыемства адбылося ў Палацы культуры “Золак” пад гранне бліскучага джаз-бэнда “Jazz Party” (кіраўнік Павел Варонін) Баранавіцкага дзяржаўнага музычнага каледжа. Канцэртныя нумары змяняліся прывітаннямі і пажаданнямі гасцей форуму — ганаровага місіянера, протаіерэя Георгія Арбузава, члена прэзідыума праўлення БСМД, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, прафесара Віктара Войціка. А сімвалічную стужачку адкрыцця перарэзалі лаўрэат міжнародных конкурсаў артыстаў эстрады, дырэктар міжнароднага форуму дзіцяча-юнацкай творчасці “Star Show” Сандра Валькові і вядучы музычных забаўляльных праграм, прадзюсар Уладзімір Зылікаў (Уладзімір Барада).

Форум доўжыўся чатыры дні. Былі створаныя ўсе неабходныя ўмовы для творчай бацькоў і адпачынку, забяспечаныя экскурсіі, паездкі на прыроду, пражыванне і харчаванне. Педагогаў і бацькоў запрасілі на “круглыя сталы” (сустрэчы з членамі журы), а таксама на майстар-класы. Заняткі па эстрадным вакале правяла старшыня журы форуму “Star Show”, член БСМД, педагог, аўтар музычных праектаў для юных “Ноты дзяцінства” і “Дарога дабра”, мастацкі кіраўнік заслужанага аматарскага калектыву, лаўрэата прэміі спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі — тэатра эстраднай песні і танца “Хвілінка” Таццяна Панова. А майстар-клас па сучаснай харэаграфіі давала член журы форуму, член савета дырэктараў фестывальнага міжнароднага руху “Надзеі Еўропы”, старшыня грамадскай дзіцяча-юнацкай арганізацыі “Формула поспеху”, дырэктар Усерасійскага фестывалю дзіцячай, юнацкай і маладзёжнай творчасці “Расія маладая”, балетмайстар народнага ансамбля сучаснага эстраднага танца “Арабеск” Ларыса Скурыхіна.

Між тым, міжнароднаму журы форуму выпаў нялёгкі чын: дэталёва абмеркаваць кожнае выступленне і ацаніць удзельнікаў паводле шасці крытэрыяў.

Гала-канцэрт атрымаўся бліскучы. Ён доўжыўся дзве гадзіны і выклікаў захапленне гледачоў. Выступалі і пераможцы форуму, і члены журы: Таццяна Чыерава (Данецк), Сандра Валькові (Мінск), Яўген Касоўскі (Адэса).

А вось падчас цырымоніі ўзнагароджання канкурсантаў дыпломамі, кубкамі, памятнымі падарункамі прагучала сенсацыйная навіна: у намінацыі “Эстрадны вакал (ансамблі)” здарылася неверагоднае: прадстаўнікоў такіх гарадоў, як Кішынёў, Самара, Масква, Мінск, Кіеў апярэдзіў калектыў з вёскі Новая Мыш Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Такім чынам, Гран-пры першага міжнароднага форуму дзіцяча-юнацкай творчасці “Star Show” у намінацыі паехаў у вёсачку, дзе ёсць толькі пошта, адна крама і... музычная школа, але якая! Апроч галоўнай узнагароды навамышскі вакальны ансамбль “New Mouse” (кіраўнік Ірына Болбат) атрымаў памятны кубак, дыплом, мікрафон і музычны цэнтр.

У намінацыі “Сучасная харэаграфія” сваёй творчасцю ўразіў журы і гледачоў калектыў з Барысаглебска (Расія) — народны ансамбль сучаснага эстраднага танца “Арабеск” (кіраўнік Ларыса Скурыхіна). Ансамбль адзначаны Гран-пры форуму.

Галоўны прыз у намінацыі “Інструментальная музыка” атрымала трыа цымбалістак ДМШ № 7 г. Мінска ў складзе А. Андрушэвіч, К. Кундзікавай, Д. Кліндзюк (кіраўнік Юлія Калягіна).

Некаторыя ўдзельнікі былі ўзнагароджаныя спецыяльнымі прызамі ад членаў журы і бясплатнымі паездкамі на міжнародныя фестывалі. А сюрпрызам для ўсіх стаў 25-кілаграмовы торт. Гэтым салодкім пачастункам ды святочнай дыскатэкай завяршыўся міжнародны музычны марафон.

## З ніткай у руках

Дар'я ШОЦІК

**Госць рубрыкі "Моладзь ідзе" — творчы чалавек. Гэта майстар па габеленах і баціку, член Беларускага саюза мастакоў і Беларускага саюза дызайнераў Вікторыя Іконнікава. Размова пойдзе пра ролю габелену сёння, тэматыку работ ды многае іншае. Словам, запрашаем да гутаркі саму мастачку.**



— Знаёмства з тэхналогіяй баціку і габелену пачалося ў студэнцкія гады, калі вучылася ў мастацкай школе, потым Мінскім мастацкім вучылішчы імя А. К. Глебава і Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Цяпер працую на кафедры дызайну гуманітарнага факультэта БДУ і выкладаю курсы малюнка для дарослых у школе "Ратрыс". Мэта нашых заняткаў — дапамагчы ажыццявіць мары людзей.

Асноўная тэматыка для мяне — прыгажосць прыроды, якая перадае непаўторнасць навакольнага асяроддзя. Падчас работы з'яўляюцца самыя розныя думкі, мары, у якіх ствараецца дакладны вобраз будучага габелена. Работа — гэта адчуванне святла, душэўнага цяпла і ўнутранай гармоніі. Атрымліваеш эмацыянальны зарад і захапленне ад таго, як яркія фарбы і адценні спалучаюцца з агульнай кампазіцыяй габелена.

Тэхніка габелену патрабуе пэўнага вопыту. Ніцяная аснова — пераважны элемент у габеленах. Вытканыя ўручную арнаменты ўяўляюць яднанне чалавека і мастацтва. Дарэчы, у сваіх работах імкнуся спасцігнуць прыроду і сябе, перадаць аўтарскую індывідуальнасць.

Вікторыя — удзельнік рэспубліканскіх і міжнародных выставак. Ладзіліся яе персанальныя выстаўкі ў тэхніцы габелену і баціку, работы знаходзяцца ў прыватных калекцыях Беларусі, Расіі, Украіны.

— "Кветкі і фарбы" — першая выстаўка, якая ажыццяўлялася ў рамках творчага праекта "Вандроўка". Кожны раз удзельнікамі будуць новыя, неардынарныя мастакі. Выстаўка, якая прайшла ў будынку рэктарата БДУ, прысвечана вясне і абуджэнню прыроды.

Мы размаўляем пра тое, што значнасць габеленаў страчваецца. Вікторыя мае ўласнае меркаванне.

— На жаль, людзі не зусім яшчэ разумеюць гэты від мастацтва. Можа, не ўсе ўсвядомілі, што акрамя таго, каб паказаць цудоўны твор, мастак жадае падзяліцца сваімі думкамі, разважаннямі. Мяркую, што габелен пройдзе шмат змен, каб заняць прэстыжнае месца ў сучасным мастацтве.

— Скажыце, калі ласка, каго з мастакоў вы можаце назваць сваім настаўнікам? Чые работы ўражваюць найбольш?

— Мой настаўнік — мастак Уладзімір Лісавенка, які навучыў любіць кожную нітачку… Яго работы ўнікальныя, выкананыя ў рознай тэхніцы. Габелен атрымліваецца рэалістычны.

Каб ацаніць якасць габелена, трэба да яго дакрануцца, адчуць працаёмкую работу майстра. Вікторыя Іконнікава запрашае гледачоў зазірнуць у дзівосны свет, убачыць незвычайную прыгажосць.

# V значыць пяць

**Тэатральны рух "Дзверы" прэзентаваў чарговы выпуск аднайменнага электроннага альманаха на Малой сцэне Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. Для тых, хто не дабраўся да РТБД, але прагне пра гэту падзею даведацца, — ніжэйнапісанае.**

Алена ШАНДРАК

З чаго пачынаецца тэатр, усім даўно вядома. А адкуль бярэ пачатак тэатральны рух? Думаецца, з намеру зрабіць крок. Таму для тых, хто пра "Дзверы" не чуў, адзін з каардынатараў і заснавальнікаў "дзвераўскага" руху Уладзімір Галак раскрыў самы пачатак гэтай гісторыі. Напрыклад, тое, што "Дзверы" адчыніліся ў 2010 годзе і спачатку віталі "шыльдачкай" "Рух аматарскіх тэатраў". Але праз год яны пасталелі і ўзмужнелі, а слова "аматарскі" ўпала, як А з трубы. За два гады "Дзверы" ажыццявілі 18 праектаў (фестывалі, пленэры і г.д.), супрацоўнічалі амаль з паўсотняй тэатраў, сабралі без малога тры тысячы сяброў у сацыяльных сетках.

І вось на сцэну выйшлі галоўны рэдактар Алена Іванюшанка і яе намеснік Кацярына Карпіцкая. Вельмі эмацыянальна і шчыра дзяўчаты распавялі, што для іх усё, чым яны займаюцца, вельмі важна, што яны шануюць сям'ю, якая "атрымалася раптам". А потым на велізарным экране пад цудоўнае кантры прадставілі новы нумар альманаха. Пятыя "Дзверы" аказаліся жалезнымі (верагодна, гэтая вокладка — сімвал стабільнасці),



а колькасць старонак павялічылася да 118 (для параўнання: у першым выпуску было 76).

Пасля "афіцыйнай" часткі нас вырашылі пачаставаць "Ілюзіямі" — новай п'есай Івана Вырыпаева, якая публікуецца ўпершыню. Чытанне п'есы арганізавала Студыя Альтэрнатыўнай Драмы (САД) — творчае аб'яднанне маладых драматургаў і рэжысёраў. Пасля чытанняў — традыцыйнае абмеркаванне, якое было тым цікавей, што на ім прысутнічалі прафесійныя крытыкі — Вадзім Салееў, Крысціна Смольская, Таццяна Арцімовіч. Вельмі цікава было паслухаць Аляксандра Марчанку, кіраўніка Цэнтра беларускай драматургіі, акцёраў САДа.

Пачытаць новы нумар можна на сайце *dverifest.org*

### Расказвае Алена Іванюшанка

**— Колькі вольнага часу ты аддаеш працы над альманахам?**

— Часу альманах займае шмат, гэта праўда. Часта атрымліваецца так, што даводзіцца выбіраць паміж "Дзвярыма" і чымсьці яшчэ. Напрыклад, з вучобай такое пытанне паўстае. Мы ўсе неяк выкручваемся. Калі бярэшся за справу, якая становіцца важнай і любімай, тады ўжо не думаеш, колькі часу яна адбірае, проста без яе ўжо ніяк.

**— Як ты стала галоўным рэдактарам?**

— Тут важна разумець, што ў нас ёсць каманда, гэта значыць мы разам ва ўсіх праектах, і мы можам "падхапіць" дзесьці нешта, дапамагчы адзін аднаму. Я рэдактар, гэта значыць, што я проста больш за ўсіх хвалююся за нашу справу. Мы з Кацяй, Мікітам і Вовам пачыналі рабіць альманах разам як эксперыментальны праект. Атрымалася цікава, пачалі прыходзіць людзі, ідэі. Пачалі займацца гэтым пастаянна. Я стала галоўным рэдактарам альманаха, Каця — галоўным рэдактарам нашага больш рухомага блога.

**— Калі раптам гэтыя дзверы зачыняцца, то....**

— Вельмі спадзяюся, што гэтыя дзверы не зачыняцца. Мне здаецца, мы прасунуліся ўсяго на міліметр, а наперадзе яшчэ кіламетры шляху. Калі раптам адбудзецца нешта нечаканае, хочацца застацца ў той справе, якая цябе закранае за жывое. Лічу, гэта правільны выбар. Ва ўсякім разе для мяне.

# Камедыя з адэскім каларытам

**Гумарыстычны спектакль "Раніца ў адэскім двары", прадстаўлены на чарговым фестывалі "Дзверы", літаральна ўзарваў залу. Яскравыя жарты, бліскучае акцёрскае выкананне і пераканаўчая пастаноўка нікога не пакінулі абыякавым. А неўзабаве тэатральная студыя "На сцэну!" сталічнага Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Эўрыка" падрыхтавала пашыраную версію гэтай пастаноўкі, якая з "Раніцы…" ператварылася ў "Дзень…". Спектакль "Дзень у адэскім двары" быў паказаны ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі. Мы гутарым з рэжысёрам спектакля Наталляй МЕЛЬНІКАВАЙ.**

Алена ХАРЛАМАВА

**— Як стваралася гэтая пастаноўка?**

— Сама ідэя нарадзілася ў нас даўно, аднак магчымасці рэалізаваць яе не было, пакуль не з'явіўся фестывальны праект "Дзверы". Наша студыя "На сцэну!" атрымала шанц на супольную працу цэнтра "Эўрыка" і згаданага фестывалю. Вырашылі паставіць спектакль, які прыцягнуў бы акцёраў з іншых тэатральных студый. Арганізатары праекта "Дзверы" адабралі для нас больш як 200 заявак патэнцыяльных акцёраў, з якіх пасля кастынгу засталіся 10 будучых удзельнікаў спектакля. Астатняя частка акцёрскага складу набіралася са студый нашага Цэнтра творчасці. Гэта хлопцы і дзяўчаты ва ўзросце да 16 гадоў, многія з іх марац паступаць у Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў і БДУ культуры і мастацтваў, і такі праект можа стаць для іх неблагім стартам.



Калі калектыў быў сфарміраваны, а ролі размеркаваныя, мы задумаліся над інтэрпрэтацыяй матэрыялу, у аснове якога — своеасаблівая "салянка" з гумарыстычных аповедаў Георгія Галубенкі ды эпізода п'есы Леаніда Сушчанкі і Валерыя Хаіта. Пастаноўку планавалі спачатку паказаць у скарочаным варыянце, а потым ужо ў поўным. Першы варыянт спектакля — паўгадзінная камедыйная замалёўка — быў прэзентаваны шырокай публіцы летась на ІІІ фестывалі "Дзверы". Дарэчы, пасля гэтага паказу мы змаглі ацаніць уласныя памылкі. Колькасць гледачоў была даволі вялікая, і дзецям цяжка было ўсвядоміць маштаб аўдыторыі — настолькі яны прызвычаіліся да невялікай сцэны Цэнтра творчасці. Аднак можна сказаць, што гэтае выступленне стала новым этапам у развіцці нашага калектыву — акцёры справіліся і ўзяліся за далейшую працу. Наш праект атрымаў развіццё ў пашыранай версіі пастаноўкі, якая ператварылася ў паўнацэнны спектакль "Дзень у адэскім двары". У ім нават з'явіліся новыя персанажы.

**— Раскажыце крыху пра ўдзельнікаў спектакля.**

— Гэта дзеці з тэатральных гурткоў Цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Эўрыка" ва ўзросце ад 12 да 16 гадоў, а таксама ўжо дарослыя акцёры да 30 гадоў. Нельга сказаць, што нам працаваць проста: вядома ж, дзіцячае ўспрыманне матэрыялу значна адрозніваецца ад дарослага. Аднак стасункі ў калектыве сяброўскія, мне не даводзіцца кагосьці мірыць ці штосьці дзяліць. Усе мірна суіснуюць, і ў выніку атрымліваецца цудоўная творчая атмасфера. Акцёры часам прапануюць такія ідэі, якія мне самой проста не прыходзілі ў галаву. Рэпетыцыі нашы доўжацца каля трох гадзін з 15-хвілінным перапынкам у сярэдзіне. Часам іх колькасць дасягае трох разоў на тыдзень — гэта залежыць ад колькасці акцёраў, занятых на сцэне. Рэпетыцыйны працэс даволі насычаны, таму як бы ні хацелася калі-нікалі пагутарыць на іншыя тэмы, часу на гэта практычна не застаецца. Адзначу развіццё калектыву. Справа ў тым, што многія хлопцы і дзяўчаты, якія спачатку адбіраліся не паводле тэатральных схільнасцей і навыкаў, а толькі з-за жадання ўдзельнічаць, заўважна выраслі — і ў самым простым сэнсе, і прафесійна, бо многія рэчы для іх цяпер звыклыя і зразумелыя. Калі раней мне даводзілася адказваць на іх пытанні пра тое, як выходзіць з-за куліс, як трэба размаўляць і дзе стаяць, — дык цяпер яны ведаюць гэта самі. На жаль, пакуль наш калектыў складаецца толькі з акцёраў і рэжысёра. А вельмі хацелася б, каб у нас былі свае гукарэжысёр і мастак.

**— Якія перспектывы з'явіліся ў вашай студыі пасля прэм'еры?**

— Першы паказ спектакля адбыўся на сцэне цэнтра "Эўрыка". Ён ладзіўся для бацькоў і сяброў нашых акцёраў. Наступны прайшоў на сцэне філфака БДУ у межах праекта "Дзверы". І нарэшце, на эксперыментальнай пляцоўцы "Вольная сцэна" РТБД. Ёсць надзея, што "Дзень у адэскім двары" будзе прадстаўлены і ў праграмах тэатральных фестываляў за мяжой. Дарэчы, нас з радасцю прынялі на чацвёрты фестываль "Дзверы", які адбудзецца сёлета ў кастрычніку: будзем выступаць па-за конкурсам.

Сёння нас 25 чалавек — і гэта нямала. Прытым, заняты кожны з акцёраў. Аднак мы б хацелі павялічыць колькасць удзельнікаў трупы, прыцягнуць новых людзей, неабыякавых да тэатральнай справы. І, вядома, хацелася б дасягнуць поспехаў на гарадскім узроўні.

# Шлях да “Я”

## Суб’ектывізацыя слоўнага мастацтва як эвалюцыйны працэс (на прыкладзе беларускай і рускай літаратур)

Мікола МІШЧАНЧУК,
доктар філалагічных навук, прафесар

**Матэрыялістычная і ідэалістычная філасофіі (пры ўсіх момантах пераходнасці) у многім вызначаюць суадносіны “аб’ектыўнага” і “суб’ектыўнага” фактараў гнасеалогіі, навукі пра пазнанне свету і — адпаведна — “тыпаў” мастацкай творчасці (усе тры тэрміны возьмем у двукоссе як няпоўныя, умоўныя).**

Яшчэ Арыстоцель у сваёй “Паэтыцы” назваў мастацтва “пераймannем”, прыпадабненнем да рэчаіснасці і адзначыў, што яно можа ажыццяўляцца рознымі шляхамі. Працытуем найбольш характэрныя выказванні слыннага філосафа: “Эпічная і трагічная паэзія, а таксама камедыя і паэзія дыфірамбічная... — усё гэта, уласна кажучы, мастацтвы пераймальныя <...>”; “Іменна, пераймаць у адным і тым жа і адно і тое ж можна, расказваючы пра падзею як штосьці адлучанае ад сябе, як гэта робіць Гамер, ці так, што пераймальнік застаецца сам сабою, не мяняючы свайго твару ці прадстаўляючы ўсіх паказаных асоб”. Як бачым, “аб’ектыўны ідэаліст” эпохі старажытнасці (так пазней ахрысцілі Арыстоцеля) пакідаў за мастацтвам права на адноснае, прыблізнае пазнанне свету, лічыў яго вынік не копіяй рэчаіснасці, а спробай мастака стварыць яе прыблізную мадэль, “прыпадобніць” той, што схоплена яго свядомасцю. Некаторыя антычныя філосафы (Платон, Плацін) пазнанае і пераказанае рэцыпіенту лічылі ўвогуле “ценем ценю”. З падобнай канцэпцыі вынікае, што мастацтва — гэта рэальны свет, перастораны ўжо за трэцім ці нават чацвёртым разам. Да нашых дзён вядзецца дыскусія пра магчымасці чалавечага пазнання не толькі зямной, але і калязямной і — шырэй — касмічнай рэчаіснасці, з якой вынікае, што яно дасюль застаецца адносным.

> *Часам актывізацыі суб’ектыўнага фактару ў літаратурах народаў-суседзяў стаўся перыяд Сярэбранага веку, які ў рускім мастацтве слова прыпадае на канец XIX — пачатак XX стагоддзя, а ў беларускім — на першую трэць XX.*

Працэс пазнання свету і чалавека ў ім паступова ўскладняўся, паглыбляўся па меры вылучэння чалавека з акаляючага асяроддзя, узвышэння над ім. Гэты працэс вобразна пераказаў беларускі паэт Аркадзь Моркаўка ў вершы “Я жыў...”:

*Пясок Егіпту мой хавае след,*
*Дзе я пастроіў піраміды.*
*Я — раб... Мае балелі рукі,*
*Мяне тапілі акіяны мукі, —*
*Я ж абышоў зямныя краявіды,*
*Стварыў мільёны дзіў*
*І — сам дзіўлюся...*
*Я жыў...*
*Але нікому не малюся.*

Паэт паказвае ў творы, як паслядоўна, паступова чалавек пераадольваў абставіны, залежнасць ад прыроды, яе стыхійнай сілы і — у рэшце рэшт — перастаў маліцца і ёй, і ўсяму існаму на свеце.

Ад малюнкава-зрокавага ўспрымання рэчаіснасці чалавецтва паступова пераходзіць да ацэначна-абстрактнага, натуральныя “адбіткі” прадметаў і з’яў пад уплывам ускладненага мыслення набывалі з часам шматзначнасць, дэфармаваліся, па аналогіі з існымі ствараліся фантазійныя. Усё большую і большую ролю ў працэсе мастацкага (у меншай ступені — навуковага) спасціжэння рэальнасці пачаў адыгрываць суб’ектыўны фактар.

Вылучэнне слоўнага мастацтва з сінкрэтычнага сталася пачаткам складанага працэсу паступовых змен у ім, абумоўленых многімі прычынамі, галоўная з якіх — інтэлектуальны рост чалавецтва, эвалюцыя яго свядомасці. Стаўшыся суб’ектывізаваным, мастацтва слова імкнецца да дыферэнцыяцыі родавай, а затым і жанравай. На першым этапе ў эпасе адбываецца адасабленне аўтара ад героя, выкананне абодвума апавядальнай, камунікатыўнай, дыдактычнай і іншых функцый; у драме назіраецца аб’ектывізацыя героя, у выніку чаго ён дзейнічае самастойна. Лірыка ж па прычыне свайго паходжання з харавых песенных воклічаў даўжэй, чым іншыя роды слоўнага мастацтва, пазбаўлялася калектыўнай эмацыянальнасці.

“Нарошчванне” суб’ектыўнага пачатку ў слоўным мастацтве заўважана яго даследчыкамі, якія стараліся ўкласці тэндэнцыю ў строгія тэрміналагічныя рамкі. Пачаліся навуковыя дыскусіі пра індывідуальныя стыль і метад, пра спецыфіку мастацкага вобраза. Да прыкладу, пра індывідуальны метад творчасці пісьменнікаў-класіцыстаў у іх час і пазней размова не магла весціся ў дыскусійным плане: усе яны прытрымліваліся адных і тых жа прынцыпаў пісьма, былі запраграмаваныя на адзінства творчых установак, на захаванне канонаў, нарматыўнасць. Падобная сітуацыя была ўласцівая і мастацтву Сярэднявечча: аўтары жыцій, словаў, хаджэнняў, іншых жанраў былі абмежаваныя ў самавыяўленні, індывідуальнае поўнасцю перакрывалася агульным. Сувязь жа паміж індывідуальным і суб’ектыўным, агульным і аб’ектыўным несумненная і відавочная.

> *Вылучэнне слоўнага мастацтва з сінкрэтычнага сталася пачаткам складанага працэсу паступовых змен у ім, абумоўленых многімі прычынамі, галоўная з якіх — інтэлектуальны рост чалавецтва, эвалюцыя яго свядомасці.*

Менавіта ў пераходны перыяд — на зломе XIX — XX стагоддзяў — працэс суб’ектывізацыі (індывідуалізацыі) мастацтва дасягнуў свайго апагею, пра што чытаем у сучасным выданні “Літаратура пераходнага перыяду: Тэарэтычныя асновы гісторыка-літаратурнага працэсу: “<...> малады Я. Купала ў сваім першым паэтычным зборніку заяўляў: <u>я не паэта</u> (вылучана Я. Гарадніцкім. — **М.М.**) <...> у ім будучы класік супрацьпастаўляў ананімнасці, калектыўнасці былых, блізкіх да фальклорных форм існавання нацыянальнай літаратуры асабовы пачатак творчасці”.

У рускім і беларускім слоўным мастацтве, думаецца, працэс дыферэнцыяцыі і пераразмяркавання аб’ектыўнага і суб’ектыўнага пачаткаў у XIX — XX стагоддзях адбываўся даволі гарманічна, сувымерна. Да прыкладу, спачатку і ў беларускай, і ў рускай літаратуры пераважала апавядальная, нарацыйная форма выказвання, эпічная аб’ектыўнасць, якая патрабавала ад аўтараў ахвярнага адхілення, самаадмаўлення ад сваіх сімпатый і антыпатый. Рух да падобнай формы выказвання заўважаецца на прыкладзе творчасці А. Пушкіна, які практычна ўхіляўся ад прамога суб’ектыўнага аўтарства і ў рамане “Евгений Онегин”, і — асабліва — у “Повестях Белкина”, у рамане “Капитанская дочка”. Невыпадкова эпічная аб’ектыўнасць дамінуе ў паэме (!) М. Гогаля “Мёртвые души”, дзе аўтар толькі зрэдчас выказваецца ад першай асобы. Творчасць Л. Талстога становіцца завяршальным этапам пошукаў рускай літаратуры XIX стагоддзя ў кірунку эпізацыі (аб’ектывізацыі) слоўнага мастацтва. Беларускія літаратары У. Сыракомля, В. Дунін-Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч таксама ставілі на першую пазіцыю аб’ектыўны фактар мастацтва, прадметам адлюстравання ў іх творчасці станавіліся іншыя. Апавядальнасць дамінавала над спавядальнасцю.

Часам актывізацыі суб’ектыўнага фактару ў літаратурах народаў суседзяў стаўся перыяд Сярэбранага веку, які ў рускім мастацтве слова прыпадае на канец XIX — пачатак XX стагоддзя, а ў беларускім — на першую трэць XX. Гэты час — перыяд выпрацоўкі прынцыпаў модульнага (эксперыментальнага) пісьма, адмаўлення ад пісьма кананічнага. І хоць тэрмін “Сярэбраны век” датычна беларускай літаратуры згаданага перыяду не замацаваўся, сучасныя даследчыкі ўсім ходам разважанняў пацвярджаюць яго наяўнасць і ў нашым нацыянальным слоўным мастацтве роўна ў такім самым значэнні, як датычна літаратуры рускай, так і заходнееўрапейскай, і “<...> ёсць усе падставы сцвярджаць, што менавіта з гэтага часу літаратура ўступіла на шлях паўнакроўнага самадастатковага развіцця згодна з законамі ўласнага ўнутранага самаруху і ў адпаведнасці з вызначальнымі тэндэнцыямі агульнага пераструктуравання мастацкага мыслення, што ў роўнай ступені вылучае ўсю літаратуру эпохі пераломy стагоддзяў” (В. Максімовіч).

Наяўнасць нашага, як і рускага, Сярэбранага веку абумоўлена не толькі сацыяльна-грамадскімі (рэвалюцыйная, пераломная сітуацыя), культуралагічнымі (новае нацыянальнае Адраджэнне, паскоранае развіццё ўсіх відаў мастацтва) прычынамі, але і ўсё большым вылучэннем на першую пазіцыю суб’ектыўнага фактару. Разняволеная асоба шукала выйсця “накалу” ўнутранай энергіі ў актыўным наступленні на пазітыўнае, рэалістычнае мастацтва, у адмаўленні ад кананізацыі вобразаў і вобразнасці, арыентаваных на праўдападобнасць, на прывілею традыцыйных жанраў і жанравых формаў. Бунт, пратэст выліваўся ў форму дэкларацый і маніфестаў (сімвалісты, акмеісты, футурысты), а найбольш у практыку словатворчасці. Калі першы складнік мадэрнізму ў нас не атрымаў развіцця ў адначассе з рускім (М. Багдановіч абмежаваўся адно толькі агульнымі згадкамі, сентэнцыямі), дык на ўзроўні аваладвання прынцыпамі “мадэрнавага” пісьма наша словатворчасць, па сутнасці, не саступала рускай, ішла з ёю поруч. Прывяду некалькі канкрэтных фактаў у пацвярджэнне выказанай думкі...

Янка Купала, якога доўгі час рэпрэзентавалі як рэаліста з пэўнымі прыкметамі рамантызму, на працягу 1905 — 1922 гг. годна (адзін!) прадстаўляе і неарэалізм, і неарамантызм, і такія мадэрнісцкія плыні, як сімвалізм, акмеізм, авангардызм, экспрэсіянізм. Янка Купала энцыклапедычны, шматгранны ў сваіх ідэйна-тэматычных і жанравастылёвых пошуках... Наўздагад разгортваем зборнік яго паэзіі “Спадчына” і чытаем радкі, роўныя радкам самых змрочных рускіх сімвалістаў “дэкаданцкага” крыла Д. Меражкоўскага, Ф. Салагуба, запоўненыя вобразамі-сімваламі невымернай трагедыйнасці:

*У грудзі, здзіўленыя здрадай,*
*Упіўшысь, рабская трывога*
*Шыпіць хаўтурную загладай,*
*На небе толькі, як прынада,*
*Бялее млечная дарога.*
*То там, то сям запаланее*
*Іскра над скованаю шыяй;*
*Наскоча пошасць трупавая, —*
*І царства ночнае шалее,*
*Над курганамі звер’ё вые.*

Чытаем Бядулевы радкі з абразка “Зямля” і бачым, як пераліваецца ў іх усімі магчымымі адценнямі настрой, якая рухомая, зменлівая карціна ў іх паўстае: “Як у казцы, нясуцца прада мной шыры гэтай зямлі, каторыя і ідуць лясамі, нівамі, лугамі, далінамі, месцамі паханымі, мяккімі, нібы пух, шнурамі і месцамі камяністымі шэрымі глыбамі...

Як у казцы, нясуцца перад вачыма поры года: святая, зялёная вясна, гарачае залатое лета, сытная багатая восень. Бліскучая здаровая зіма...

І мяняюцца фарбы, і мяняюцца віды... Усё жыве, усё рухаецца... шуміць...”

Наш імпрэсіяніст! А яшчэ і экспрэсіяніст (узяць хоць бы абразок “Акорды мора”). А яшчэ і імажыніст у ранняй паэзіі, перапоўненай вобразамі-знаходкамі, што ніяк і нічым не саступаюць ускладненым ясенінскім: “Нібы парусы ў моры, бялеюць стагі”, “Гурба скача, як конь, лезе злосным мядзведзем” (“На балоце”), “Ноч мільгае вялізнаю рыбай”, “Ноч насунула на лес/ Чорную папаху” (“Восень”).

Максім Гарэцкі ў апошнія гады пісаў “Скарбы жыцця” і “Лявоніуса Задумекуса”, перагукаючыся і агульным пафасам, настроем, і вобразамі-універсаліямі ды вобразамі-рэаліямі Смерці, Маны, Труны, Мёртвага поля з сімвалістамі, востра адчуў і паказаў “перакосы” жыцця ў духу экспрэсіянізму. Кузьма Чорны ў ранніх апавяданнях “Бяздонне”, “Жалезны крык” і іншых паказвае сябе годным імпрэсіяністам і адначасова экспрэсіяністам. Прыклады можна доўжыць. Яны яскрава сведчаць пра перавагу суб’ектыўнага фактару над аб’ектыўным на зломе XIX і XX стагоддзяў, у перыяд Сярэбранага веку і ў беларускай літаратуры, як і ў літаратуры народаў-суседзяў — рускага, польскага, украінскага.

Сінхронна з рускай адбывалася станаўленне беларускай лірычнай прозы пачатку XX стагоддзя, сярэдзіны 1950 — 1960-х гадоў (творы У. Салавухіна, В. Берггольц, апавяданні У. Караткевіча, М. Стральцова, І. Навуменкі).

Такім чынам, неаспрэчаныя факты сведчаць, што працэс суб’ектывізацыі, індывідуалізацыі мастацтва Беларусі і Расіі адбываўся ў асноўным сінхронна і ў XIX, і ў пазнейшых стагоддзях. Яго вынікам стала пазбаўленне канонаў, жанрава-стылявая разняволенасць, відавочная лірызацыя, якая выявіла сябе нават ва ўмовах жорсткіх нарматываў сацыялагічнага рэалізму ў савецкі час. Суб’ектыўнасць, індывідуальны характар змястоўна-фармальных пошукаў — дамінантны фактар станаўлення і эвалюцыйнага развіцця літаратуры пасля яе вылучэння з сінкрэтычнага мастацтва да нашых дзён.

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»

## Слова краязнаўцы



**Юрый КАРАБУХІН, выкладчык гісторыі Нёманскага дзяржаўнага прафесійнага ліцэя (г. Бярозаўка Лідскага раёна), аспірант гістарычнага факультэта БДУ, распавядае пра гісторыю свайго горада:**

— Гісторыя Бярозаўкі цесна звязана са шклозаводам "Нёман". Зразумела, што побач з заводам павінна была існаваць адукацыйная ўстанова, якая б рыхтавала для яго рабочых. Нядаўна дырэктар ліцэя Генадзь Разумоўскі прапанаваў напісаць артыкул, прысвечаны гісторыі вучылішча (такі статус калісьці меў ліцэй). Я зацікавіўся гэтым пытаннем. У выніку межы даследавання пашырыліся, і яно ахапіла ўсе этапы навучання на заводзе.

Гісторыя завода пачынаецца ў 1883 годзе (некаторыя даследчыкі схіляюцца да 1875-га). Але спецыяльнай навучальнай установы не існавала. Яна ўзнікла пасля вайны: у 1945 — 1948 гадах у Бярозаўцы існавала рамесніцкае вучылішча, якое аднавіла сваю дзейнасць у 1979-м. У ім рыхтуюць выдувальшчыкаў, швей, будаўнікоў.

У рэчышчы гэтай тэмы мяне цікавяць не толькі непасрэдна адукацыйныя пытанні, але і побыт. Як і дзе жылі вучні і рабочыя? Чым харчаваліся? Як бавілі вольны час? Які ўзровень быў характэрны для тагачаснай медыцыны? Адказы на гэтыя пытанні шукаў у архіве шклозавода, у газетнай перыёдыцы, размаўляў з выпускнікамі вучылішча 1947 і 1948 гадоў...

Гісторыяй Бярозаўкі займаецца Андрэй Буяк. На сайце "Глобус Беларусі" ён зрабіў старонку пра наш горад. Асобную работу "Шклозавод «Нёман». Кароткі агляд станаўлення і развіцця" напісаў Мікалай Герасімовіч, які працаваў там 37 гадоў.

Сфера маіх зацікаўленняў, акрамя адукацыі, — шкляная прамысловасць заходніх губерняў Расійскай імперыі ў XIX — пачатку XX стагоддзя.

## З жартамі і песнямі

"Ісціна — у віне, а жарты ўсе — у Дубіне", — так кажуць пра сябе жыхары вёскі Дубіна Валожынскага раёна. І з імі цяжка спрачацца, бо сёлета тут ужо ў шосты раз ладзіўся раённы фестываль гумару "Дубінскія жартачкі". Невыпадкова за столікам журы ў Дубіне засядалі "хросны бацька" Аўцюкоўскага фестывалю Уладзімір Ліпскі і яго паплечнікі Анатоль Зэкаў і Анастасія Радзікевіч. Разам з мясцовай паэткай Валянцінай Гіруць-Русакевіч яны ўважліва назіралі за ўсім, што адбывалася на імправізаванай сцэне каля ўвахода ў сельскі дом культуры. Удзельнікі дубінскага фестывалю тым часам, змяняючы і дапаўняючы адзін аднаго, на вачах у шматлікай вясковай публікі разыгралі сапраўдны спектакль пад назвай "Хрэсьбіны ў Дубіне" (і гэта лагічна, бо на папярэднім фэсце якраз гулялі вяселле).

Усё, зрэшты, было як у сапраўднасці: шчаслівыя маладыя бацькі, немаўляты (аж двойня!), кум з кумою, бабка з гаршчком кашы і, вядома ж, падарункі ад гасцей. І гэтаксама, як і мае быць на такой гулянцы, ад пачатку і да канца было весела — з жартамі, песнямі, прыпеўкамі і скокамі.

**Сяргей КРЫВІЧОЎ**

## Музейны ўнікат

# Памяць у кожным радку

**У Смаргонскім гісторыка-краязнаўчым музеі шмат цікавых і адметных экспанатаў, ёсць сярод іх і вельмі рэдкія, старажытныя.**

**Дар'я ШОЦІК, фота з архіва музея**

— У нашым музеі захоўваецца ўнікальнае выданне "Четьи-Минеи" (Жития Святых). Аўтар — расійскі царкоўны дзеяч Дзмітрый Растоўскі (Данііл Савіч Туптала), — распавёў галоўны захавальнік фондаў смаргонскага музея Павел Картавік. — Гэты друкаваны рарытэт належыць да рускай царкоўна-гістарычнай і павучальнай літаратуры, у ім змешчаны апавяданні пра жыццё святых праваслаўнай царквы. "Четьи-Минеи" прызначаны для штомесячнага чытання. Дарэчы, адметнасць выдання ў тым, што акрамя самога жыццяпісу ў яго ўвайшлі апісанні святых і павучальныя словы, якія сведчаць пра жыццё святога.

Сапраўды, гэты царкоўнагістарычны помнік — выдатны і значны твор. "Четьи-Минеи" Растоўскі стварaў у Кіева-Пячэрскай лаўры. Вядома, што пры напісанні Д. Растоўскі карыстаўся Макар'еўскімі Мінеямі, рукапісам Сімяона Метафраста, рускімі пралогамі. Унікальнасць рарытэта — яшчэ і ў вадзяным знаку "1811 год".

Яшчэ адзін унікальны музейны экспанат — сямейны фотаальбом, які належаў жыхару Смаргоні Івану Сініцкаму. Ён вядомы па кнізе ўспамінаў "Новая Зеландыя — Еўропа", у якой апісаў свае падарожжа ў далёкую краіну.

— У 1893 годзе Сініцкі вярнуўся ў Смаргонь, купіў невялікі кавалак зямлі, пабудаваў дом, развёў сад, — зазначыла Святлана Чагадаева, якая працавала ў смаргонскім музеі навуковым супрацоўнікам з 1993 па 2007 год. — Дарэчы, была выпушчана паштоўка з выявай дома Сініцкіх. У доме размяшчалася бібліятэка, у якой за невялікія грошы людзі маглі карыстацца ўсімі кнігамі. Цікавы факт: у Харкаў, дзе некаторы час жыў Сініцкі, дасылалі паштоўкі з Петраграда, на якіх сцісла апісваліся падзеі Кастрычніцкай рэвалюцыі.

— У адным з такіх лістоў было зазначана: "… Выпісала для Вас газету "Единство". Выдаецца пад рэдакцыяй Пляханава. Мне гэта газета больш падабаецца, таму што ў ёй выказваецца шмат разумных, глыбокіх і дакладных думак Пляханава. Б. Меку", — распавяла Святлана Мікалаеўна.



*"Четьи-Минеи" Дзмітрыя Растоўскага.*

Іван Сініцкі браў актыўны ўдзел у Першай рускай рэвалюцыі (1905 — 1907 гг.), быў членам Смаргонскай арганізацыі РСДРП. Пра падзеі таго часу ў Смаргоні сведчыць памятная дошка з надпісам "У 1905 — 1907 гг. у горадзе праходзілі актыўныя выступленні рабочых, якімі кіравала Смаргонская арганізацыя РСДРП", — зазначыў Павел Пятровіч. — Дошка змешчана на адным з дамоў Смаргоні па вуліцы Савецкай.

Праз нейкі час Сініцкі трапіў у Віленскую турму, дзе пачаў пісаць мемуары "З майго жыцця ў вёсцы", прысвечаныя рэвалюцыйнаму руху ў Смаргоні. Пахаваны ў гэтым горадзе на старых могілках.

## Фэст

# Аўцюкі чакаюць веселуноў

**Усебеларускі фестываль народнага гумару пройдзе ў Аўцюках 27 — 28 ліпеня.**

**Уладзімір ЛІПСКІ**

** Доктар-каласок, палячы, захварэў.*
*— Што баліць?*
*— Жывот.*
*— Ад чаго баліць?*
*— Ад смеху!*
*От і кажуць у Аўцюках: "Не кожны хворы, хто стогне".*

Для тых, хто яшчэ не чуў пра гэтае свята, паведамляю, што Аўцюкі, Малыя і Вялікія, — гэта дзве даўжэзныя, вялізныя вёскі на Палессі, у Калінкавіцкім раёне, непадалёк ад старажытнага паселішча першабытных людзей у Юравічах. Відаць, з тых далёкіх часоў мясцовыя жыхары ўмеюць і гараваць, і жартаваць. І як даказалі фестывалі гумару, якраз бадзёры настрой дапамагае заставацца аптымістамі пры любых жыццёвых вятрах.

Напачатку былі мае кнігі "Аўцюкоўцы", "Аўцюкоўскія шуры-муры", "Чыстая брахня". А пасля ў вёскі беларускіх габраўцаў завіталі і фестывалі народнага гумару. Наце вам, людзі, свята, збірайцеся, смейцеся ад пуза, будзьце здаровыя ды яшчэ і атрымлівайце ўзнагароды за гэта.

На першым фестывалі я, напрыклад, атрымаў у падарунак варанога, неаб'езджанага каня, якога перадаў аўцюкоўскім дзецям. Цяпер яны называюць яго "конь Ліпскі", даглядаюць мой жывы прыз і з ім дапамагаюць старым аўцюкоўцам па гаспадарцы, у агародах. А на свяце — катаюць на кані "Ліпскім" усіх жадаючых за так.

** Захварэў аўцюк. Ляжыць, стогне: "Паміраю".*
*Суседка раіць яго жонцы:*
*— Манька, засячы курачку, звары яму булёну. Найлепшыя лекі!*
*— Волька, як я засяку гэту курыцу, калі да яе ходзіць певень старшыні калгаса.*

** На беразе сажалкі сядзяць дзяўчына і жаба. Воддаль, на сенажаці, стаіць бусел. Пра што кожны з іх думае?*
*Мудры аўцюк так адказвае:*
*— Дзяўчына думае, каб бусел прынёс ёй дзіця. Жаба думае, каб бусел яе не з'еў. А бусел у гэты час разважае: "Сонца пячэ, аж мазгі выцякаюць. Калі ўсё гэта скончыцца?"*

Якія будуць падарункі на гэтым фестывалі — тайна нават для мяне, старшыні журы. Але веру: мудрыя аўцюкоўцы шчодра аддзячаць усім, хто завітае да іх са сваімі жартамі на тэму "Не жыццё — адны спакусы".

Усіх фішак фестывалю не магу раскрыць, але тое-сёе агучу па сакрэце. У першы дзень адбудзецца адкрыццё сядзібы Каласка і Калінкі на раздарожжы паміж Малымі і Вялікімі Аўцюкамі. У гэты своеасаблівы музей гумару ўсе дэлегацыі вязуць свае адмысловыя экспанаты. Чакаецца адкрыццё Ганаровай дошкі гумарыстаў і ўручэнне імянных ордэнаў самым слынным аўцюкоўцам ды тым, хто іх усла ўляе.

** — Як здароўе, каласок?*
*— У галаве быццам усе птушкі разам ціўкаюць. У грудзях — вуголле пякучае. У чэраве — мядзведзь варочаецца. У вушах — нібыта козы начуюць. А так — нічога…*

Затым дэлегацыі гумарыстаў, журы і госці фестывалю будуць "швэндацца" па вёсках і вызначаць лепшы падворак, найбольш гаспадарлівыя сем'і, самую адмысловую кухарку. Вынікі гэтых вандровак падвядуць вечарам, прылюдна, з удзелам усіх аўцюкоўцаў, аўцюковак і аўцючанят. Лепшыя гаспадары будуць узнагароджаны. У іх гонар — канцэрт і салют.

Другі дзень свята гумару адбудзецца ў саміх Калінкавічах. На Цэнтральнай плошчы пройдуць конкурсныя выступленні ўсіх каманд і нават гасцей-гумарыстаў з Расіі і Украіны. Тутэйшым вясёлым аўцюкоўцам давядзецца ўсур'ёз пацягацца з гумарыстамі-профі з вёсак Спорава (Бярозаўскі раён), Дубіна (Валожынскі раён), Баянічы (Любанскі раён).

На плошчы-ярмарцы гумару можна будзе набыць смешныя сувеніры, агледзець выстаўкі печаных скульптур па матывах народных баек, гумарыстычна-парадныя карцін мастакоў, вырабаў народных рамёстваў. Калі пашанцуе, выйграеце ў латарэю курачку Рабку ці парсючка Нюф-Наф, бабулінага вясёлага гуся ці фанабэрку індыка. Можаце зазірнуць у гумарыстычнае фотаатэлье, наведаць аўцюкоўскі цір, пабываць на футбольным матчы паміж Каласкамі і Калінкамі з Малых і Вялікіх Аўцюкоў. Паверце, барселонцам да мясцовых спорт-віртуозаў далёка.

Усіх сюрпрызаў фестывалю не пераказаць. Ды й навошта?

** — Што гэта ў цябе на твары?*
*— Асфальтная хвароба.*
*— Дзе падхапіў?*
*— Учора ў райцэнтры. Лішнюю чарку ўзяў, а тут — аднекуль асфальт пад нагамі падвярнуўся.*

Трэба там пабываць. Збірайцеся, хто на чым, хто з кім, і едзьце ў сталіцу гумару Беларусі — Аўцюкі. Праезд, напрыклад, харчаванне за ваш кошт, добры настрой і весялосць — за кошт аўцюкоўцаў, гарантуюць арганізатары Усебеларускага фестывалю народнага гумару — Міністэрства культуры, Гомельскі аблвыканкам, Калінкавіцкі райвыканкам, Беларускі дзіцячы фонд.

Адзінае, што трэба помніць усім, хто збярэцца ў Аўцюкі, — гэта мясцовае пажаданне гасцям:

— Калі вы хочаце, каб вас прынялі па-людску, вывучыце хаця б дзясятак дасціпных народных анекдотаў, а то будзеце мець праблемы на аўцюкоўскай мытні.

Экспедыцыі

# Чарнобыльскі скарб

**У адпаведнасці з праграмай дзейнасці Дзяржаўнай гісторыка-культурнай экспедыцыі па выратаванні помнікаў гісторыі і культуры Беларусі ў раёнах, якія пацярпелі ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС, з 1990 па 1994 год супрацоўнікі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту і Музея старажытнабеларускай культуры Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН Беларусі правялі некалькі сумесных навуковых экспедыцый.**

**Валянціна МАЛЮШЫНА, фота аўтара**



*Аўтэнтычныя рэчы, знойдзеныя ў адселеных вёсках Магілёўскай вобласці.*

Як удзельнік гэтых навуковых вандровак (у якасці мастацтвазнаўцы), не магу забыць уражанні ад іх. Яркае пяшчотнае сонца. Усюды духмяныя кветкі, дарогі ў гірляндах акацый, ля дамоў шыпшына і язмін. Прыгажосць бязмежная! Але побач — пякучая крапіва густою сцяною вырасла на тых сцежках, дзе раней хадзілі людзі. Новыя гаспадары з'явіліся ў выселеных вёсках, і нам пашанцавала ўбачыць іх: дзе лось прабяжыць па цэнтральнай вуліцы, дзе казуля, а бліжэй да хат — мноства слядоў дзікоў. Але больш за ўсё ўразіў чорны бусел, які пасяліўся ў нараўлянскай вёсцы. Нізка пралятаючы над намі, гэтая рэдкая птушка нібы выконвала гасцінны абрад, вітаючы нас сваімі крыламі.

У адселеных вёсках засталіся пабудовы канца XIX — пачатку XX ст. Яны паступова разбураюцца і гніюць. Знікаюць помнікі драўлянага сялянскага дойлідства, прадметы побыту, што складалі частку інтэр'ераў, створаных руплівымі рукамі іх былых уладальнікаў. Знікаюць у першую чаргу гумны, свірны, прылады працы, якія страцілі свае асноўныя функцыі. Таму навуковыя экспедыцыі займаліся выяўленнем і фотафіксацыяй архітэктурных помнікаў, а таксама рэчаў, якія маюць гістарычнае значэнне.

Асаблівую цікавасць выклікаюць архітэктурныя помнікі на Палессі: у Брагінскім раёне — у пакінутых вёсках Грушнае (клець канца XIX ст.), Спярыжжа (гумно, хаты канца XIX ст.), Сувіды (хлеў пачатку XX ст.), Ясені (млын, клець, хлеў канца XIX ст.); на Нараўляншчыне — Завойць (клець канца XIX ст.), Белабярэжная Рудня (клець канца XIX ст.), Надтачаеўка (хата канца XIX ст., унікальны навес для лодак пачатку XX ст.), Цешкаў, Вербавічы, Дзернавічы, Вяжышча, Ліхоўня, Галоўчыцкая Буда, Акопы, Міхайлаўка, Вепры (хаты канца XIX ст.). Ды хіба ж можна пералічыць усе тыя вёскі, дзе паступова гінуць выдатныя ўзоры народнай архітэктуры! Яны вылучаюцца даволі дасканалымі канструктыўнымі асаблівасцямі і сведчаць, што тут у канцы XIX — пачатку XX ст. ужо было трохкамернае жыллё з бярвення, з гладкім вуглом, высокай столлю і чатырохсхільнай страхой на кроквах.

У якасці будаўнічых матэрыялаў часцей выкарыстоўваліся хваёвыя пароды, у прыватнасці, сасна. Народная практыка сведчыць, што хаты, пабудаваныя з гэтай драўніны, захоўваюцца больш як 100 гадоў. Ніжні вянок зруба — падруба — звычайна зроблены з дубовага бярвення. Дубовымі былі і штандары падмурка, прамежкавыя шулы сцен, а таксама апорныя сохі страх. Дубовая драўніна доўга служыць, разам з тым яна масіўная і занадта цвёрдая, што ўскладняе яе цяслярскую апрацоўку. Народныя дойліды выкарыстоўвалі дубовы лес для тых ці іншых састаўных частак, якія надавалі ўсёй будаўнічай канструкцыі трываласць і даўгавечнасць, а таксама для асобных элементаў, якія хутчэй зношваліся: варот, дзвярэй, вушакоў, млынавых колаў, дэкаратыўных аздоб і г. д.

Лакальныя асаблівасці вытворчай культуры выяўляліся не столькі ў рамеснай тэхніцы і будаўнічых навыках, колькі ў вытворчым і архітэктурным стылях, напрыклад: закладцы падмуркаў, апрацоўцы вуглоў, узвядзенні стрэх, у выкарыстанні тых ці іншых парод дрэва, што адлюстроўвае пэўныя этнічныя традыцыі, ландшафтна-кліматычныя ўмовы і спецыялізацыю гаспадарчай дзейнасці.

Дзе яшчэ можна ўбачыць такія хаты, пакрытыя саломай альбо дранкай? Беларускія цесляры-ўмельцы пакінулі сапраўдныя музеі пад адкрытым небам, якія, на жаль, хутка будуць зусім знявечаныя і зруйнаваныя. А ці можна было б усё дагледзець, захаваць для нашчадкаў як каштоўныя ўзоры рэгіянальнай архітэктуры?

Разам з хатамі назаўсёды сыходзіць ад нас усё тое, што іх так хораша аздабляла: ліштвы, вільчыкі, мэбля, зробленая рукамі мясцовых майстроў. Простая і выразная палеская разьба не мае нічога агульнага з натуралізмам выяў рускай разьбы па дрэве. Мэбляй асабліва багатая Нараўляншчына. Геаметрызм і простасць канструкцыі пры мінімальнай аздобе нагадваюць антычную мэблю позняга перыяду. Здзіўляе багацце асартыменту, разнастайнасць форм, арыгінальнасць народнай мэблі. У кожнай хаце стаялі канапы, сталы, куфры, але ніводная рэч па сваім выглядзе нідзе не паўтаралася двойчы. Нават калі ў адной хаце было тры канапы і два сталы, зробленыя ў адзін час адным і тым жа майстрам, — усё роўна ўсе яны былі розных памераў і формаў, з розным малюнкам аздаблення. Сустракаліся нам і ўнікальныя рэчы: авальны стол на адной фігурнай ножцы, куфар з філёнчатымі сценкамі і накладнымі калонкамі.

Дакладныя прапорцыі на першы погляд масіўных, груваcткіх рэчаў складалі рытмічны строй кампазіцыі інтэр'ераў. Відавочна, што, выразаючы фігуры на спінцы канапы ці крэсла альбо ажур карніза, куфра ці стала, гаспадар укладваў у рэч цяпло сваёй душы. Што ні хата — новы свет "інтэр'ерных" пачуццяў, свой змест, утульнасць. Горка на душы, калі бачыш пакінутым гэты свет, які ствараўся дзесяцігоддзямі і аб'ядноўваў рэчы і чалавека ў яго паўсядзённым, працоўным і святочным жыцці, эмацыянальна ўздзейнічаў на людзей і фарміраваў іх душы.

На тэрыторыі, цяпер забруджанай радыяцыяй, у канцы XIX — пачатку XX ст. існавала вялікая колькасць ганчарных цэнтраў. Многія ўзоры вырабаў з іх нам удалося знайсці. Па тэматыка-геаграфічным асартыменце калекцыя керамікі ў цэлым у музеях далёка не поўная, таму экспедыцыі па Гомельскай вобласці мелі вялікае значэнне. Нам пашчасціла натрапіць на кераміку з былога ганчарнага цэнтра Камарын Брагінскага раёна. Зробленая з тэракотавай гліны, яна вельмі зграбная, вытанчаная, далікатная па форме. Цікавыя ўзоры майстроў Лельчыцкага і Ельскага раёнаў з выселеных вёсак Ліпляны і Шышкі. Знаходкі ў вёсках Нараўлянскага раёна здзіўляюць багаццем каляровай гамы палівы, адмысловасцю формаў збаноў і гладышоў. Прозвішчы ганчароў, сакрэты майстэрства мясцовых умельцаў — пытанне для даследчыкаў.

У кінутых хатах фрагментарна альбо цалкам былі захаваны дзівосныя ўзоры беларускага народнага мастацтва: ткацтва, вышыўкі, маляваных дываноў, роспісу па шкле, а часам і абразоў. Яскравы талент, вынаходлівасць беларускіх умельцаў увасоблены ў гэтых вырабах. Сімвалам неўміручасці можа служыць святая рэліквія — абраз "Маці Божая Цэхвінская" беларускай школы іканапісу XIX ст. У 1943 годзе, па словах яго былога ўладальніка, фашысты спалілі хату ў в. Катынічы Лельчыцкага раёна. З усёй маёмасці гаспадыня паспела вынесці з агню толькі адзін гэты абраз. Тры гады ён вісеў у садзе на грушы. Ні снег, ні дождж, ні сонца не сапсавалі яго. І гэта цуд. Другі раз яго выратавалі ў 1992 годзе, калі вывезлі з Чарнобыльскай зоны.

Прааналізаваць увесь трагічны скарб у межах аднаго артыкула немагчыма. Многія рэчы, беражліва сабраныя ўдзельнікамі экспедыцый, знаходзяцца ў фондах розных музеяў, а Музей старажытнай беларускай культуры НАН Беларусі стварыў першую ў СНД экспазіцыю "Быт і мастацтва чарнобыльскай зоны".



*Сялянская хата з сенямі, плеценымі з лазы (канец XIX стагоддзя). Вёска Храковічы Брагінскага раёна.*

Штрыхі жыцця

# Галоўны герой — чалавек у пагонах

**У Дзяржаўнай Думе і Радзе Расійскай Федэрацыі добра ведаюць Мікалая Цеdisplayрашчука — парламенцкага карэспандэнта гэтага вышэйшага заканадаўчага органа дзяржаўнай улады.**



**Сяргей ГРАНІК, фота Івана Лявончыка**

З гэтым цікавым знакамітым чалавекам я сустракаўся некалькі разоў. Штогод ён прыязджае на сваю малую радзіму, у вёску Залессе, якая знаходзіцца ў Драгічынскім раёне за Дняпроўска-Бугскім каналам. Тут, сярод палескіх лясоў, Мікалай Васільевіч адпачывае ад маскоўскай мітусні і, вядома ж, дапамагае бацькам. За доўгія гады службы ў арміі ён так і не адвык ад вясковай працы.

Мікалай Царашчук нарадзіўся ў сялянскай сям'і, дзе выхоўвалася 12 дзяцей. Нічым асаблівым не адрозніваўся ад астатніх вясковых хлопцаў, хіба што, калі вучыўся ў старшых класах Сварынскай сярэдняй школы, у яго праявілася вялікая цікавасць да чытання. Кніга для яго — зразумела, пасля бацькоў — стала самым галоўным настаўнікам у жыцці. Шлях да афіцэрскіх пагонаў быў нялёгкім. Паступіць адразу пасля школы ў ваеннае вучылішча не атрымалася, таму пайшоў у армію. Служыў на мяжы. У вольны час шмат чытаў, пісаў нататкі і артыкулы ў газету "Советский пограничник". Камандзір, заўважыўшы ў Мікалая творчыя здольнасці, параіў яму паступаць у Львоўскае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча на факультэт журналістыкі. Пасля праходжання творчага конкурсу Мікалай стаў курсантам.

Вучыцца ў Львове было цікава яшчэ і таму, што часта хадзілі з сябрамі ў музеі, тэатры, на розныя выстаўкі і канцэрты. Самае ж галоўнае — працягваў друкавацца ў ваеннай газеце "Слава Родине". Праз чатыры гады лейтэнанта накіравалі ў рэдакцыю газеты "Каспиец" Каспійскай ваеннай флатыліі. Рэдакцыя знаходзілася ў горадзе Баку. Героі публікацый маладога журналіста — абаронцы марскіх меж і ветэраны. Шмат матэрыялаў апублікаваў у газетах "Красная Звезда", "Бакинский рабочий", "Баку" і інш. Мікалай Церашчук увесь час імкнуўся павысіць узровень сваіх ведаў і журналісцкага майстэрства, таму неўзабаве стаў слухачом рэдактарскага аддзялення Ваенна-палітычнай акадэміі імя Леніна ў Маскве. І там вучоба ў спалучэнні з творчасцю давалася яму лёгка. Пасля заканчэння акадэміі Мікалая Васільевіча накіроўваюць у рэдакцыю часопіса "Агитатор Армии и Флота". Падчас працы яму давялося аб'ехаць незлічоную колькасць аддаленых гарнізонаў Узброеных сіл Савецкага Саюза, пабываць на караблях і падводных лодках. Галоўны герой яго публікацый — чалавек у пагонах, абаронца Айчыны.

Пасля распаду СССР наш зямляк працягнуў службу ўжо ва Узброеных сілах Расіі. У 1992 годзе яго прызначаюць начальнікам аддзела ваеннага друку Галоўнага ўпраўлення выхаваўчай работы Узброеных сіл Расійскай Федэрацыі, а праз некаторы час — начальнікам групы інфармацыйна-псіхалагічнай абароны Галоўнага ўпраўлення выхаваўчай работы Узброеных сіл Расіі. Узначальваючы групу пры Радзе бяспекі Расійскай Федэрацыі, часта бываў у камандзіроўках у Чачэнскай рэспубліцы, дзе кіраваў зборам, сістэматызацыяй і аналізам аператыўнай інфармацыі, якую накіроўвалі ўраду краіны для прыняцця рашэнняў. Праца была вельмі адказнай.

Праслужыўшы 26 гадоў у войску, Мікалай Церашчук у званні капітана першага рангу пайшоў на пенсію. З гэтага часу ён уключаецца ў актыўную грамадскую працу і ўзначальвае прэс-службу Агульнарасійскага руху "Расія Праваслаўная", адначасова з'яўляецца парламенцкім карэспандэнтам Дзяржаўнай Думы. Яго дзейнасць — гэта пастаянныя стасункі з рознымі людзьмі. Вынікам шматлікіх паездак сталі рэпартажы, якія выйшлі ў выдавецтве "У Никитских ворот", кнігі "Сустрэчы на скрыжаваннях жыцця" і "Скрозь час і лёсы". У іх ён распавядае пра лёс Айчыны, праблемы расійскай культуры і шляхі іх рашэння.

З 2008 года Мікалай Васільевіч узначальвае Маскоўскае аддзяленне Расійскага творчага саюза работнікаў культуры і становіцца галоўным рэдактарам газеты "Московский вестник культуры". За актыўную грамадскую працу па патрыятычным выхаванні моладзі і вялікі ўнёсак у расійскую культуру яму было нададзена вайсковае званне генерал-маёра, а Руская Праваслаўная Царква адзначыла ордэнам "Данііла Маскоўскага".

Наш зямляк — лаўрэат літаратурных прэмій і журналісцкай прэміі "Лучшие перья России", узнагароджаны шматлікімі ўрадавымі ўзнагародамі СССР і Расіі.

# І лікі строгія святых

**Не так даўно ў Чашніцкім раённым Доме рамёстваў ушаноўвалі новалукамчаніна, народнага майстра Беларусі Мікалая Рыбачонка. Мастаку споўнілася пяцьдзясят. Кажуць, паўвека — узрост мудрых.**

**Ірына ТОРБІНА,**
**фота аўтара**

Хутка прабеглі гады. Звычайна лічаць, што чалавек жыве шчасліва, калі мае надзейную сямейную апору і прафесійнае задавальненне. Юбіляр у гэтым сэнсе — чалавек заможны. Сталі дарослымі двое яго дзяцей, ёсць любімая работа. А яшчэ ён знайшоў найцікавейшую справу, якая прыносіць душэўнае задавальненне, таму майстар не стамляецца радаваць людзей сваімі пошукамі і знаходкамі. Мікалай Мікалаевіч — адзіны на Чашніччыне іканапісец.




*Абраз Хрыста Спасіцеля.*

Традыцыі іканапісу на нашай зямлі бяруць пачатак у XVIII стагоддзі, калі мастацкі талент часцей за ўсё выяўляўся ў згаданым жанры. Менавіта ў тыя часы ў Латыгалічах — самай аддаленай цяпер ад Чашнікаў вёсцы — жыў і працаваў невядомы майстар. Створаныя ім абразы ўвайшлі ў спіс лепшых твораў іканапісу Беларусі XV — XVIII стагоддзяў. У сучасных Латыгалічах, ад якіх да райцэнтра амаль 60 кіламетраў, ніводнай рэчы, што нагадвала б пра славутага земляка, не захавалася. Даўно няма і царквы. Вёска адносіцца да так званых неперспектыўных. У былым цэнтры сельсавета з устаноў засталася толькі невялічкая школа. А знакамітыя іконы вывезлі ў Віцебск яшчэ ў XIX стагоддзі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі абразы апынуліся ў калекцыі Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь.

Народны майстар з Новалукомля атрымаў блаславенне мясцовых святароў і пачаў пісаць іконы на чашніцкай зямлі, дзе асталяваўся ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Але азарэнне, як лічыць сам Мікалай Мікалаевіч, прыйшло значна раней. Так здарылася, што яго бацькі-беларусы, ураджэнцы раёна, паехалі па заробкі на Поўнач. Сын з'явіўся на свет у далёкім Манчагорску на Мурманшчыне. Маляваць любіў з дзяцінства. У падлеткавым узросце разам з сям'ёй апынуўся ў Туле. Менавіта там пачаў займацца ў мастацкай студыі. У горадзе, вядомым сваімі самаварамі ды зброяй, новалукомскі іканапісец сустрэў шмат аднагодкаў, якія цікавіліся пытаннямі рэлігіі. Большасць з іх таксама займалася ў студыі. Яшчэ існаваў Саюз, панаваў ваяўнічы атэізм, а яны наведвалі храмы, далучаліся да традыцый праваслаўнай культуры. Кола аднадумцаў пашыралася, калі будучы мастак паступіў на афарміцельскае аддзяленне Маскоўскага ўніверсітэта мастацтваў.

На радзіму бацькоў Мікалай Рыбачонак вернецца ў горкім 1986 годзе. Чорны попел Чарнобыля падзяліў жыццё беларусаў на "да" і "пасля". Нават самыя перакананыя атэісты адступалі ад сваіх прынцыпаў, імкнуліся ў рэлігіі знайсці адказ на пытанне: "За што?" Патокі паломнікаў пацягнуліся ў святыя мясціны. Адлучаныя ад веры рэвалюцыйнымі віхурамі стагоддзя зноў знайшлі яе.

У шматпакутнай Беларусі, на якую зноў абрынулася страшэннае гора, мастаку наканавана было знайсці сваю палавінку, радавацца нараджэнню дзяцей, за будучыню якіх не стамляецца маліцца. Менавіта да гэтай пары адносіцца яго першая ікона "Прэабражэнне". Здабыты вопыт не расчараваў, мастак пачаў тварыць у жанры іканапісу, ад вобраза да вобраза ўдасканальваючы майстэрства.

Напісаныя іконы вісяць у яго гарадской кватэры. Напярэдадні юбілею па просьбе калег Мікалай Рыбачонак даставіў іх у Дом рамёстваў, дзе арганізавалі аўтарскую выстаўку. Выступоўцы на яе адкрыцці, мастак зазначыў: вера будзе сапраўднай і моцнай, калі чалавек сам прыйшоў да яе. Такая вера натхняе на творчыя пошукі і дапамагае ў здзяйсненні задуманага. Майстар лічыць, што менавіта ёй ён абавязаны ўсім лепшым, што змог стварыць.

Адна з найбольш цікавых работ — ікона Казанскай Багародзіцы. Паводле падання, святы абраз быў знойдзены дзяўчынкай у тым месцы, якое яна пабачыла ўва сне. Казанская Маці Божая даўно прыцягвала ўвагу майстра. Вернікі пакланяюцца ёй як моцнай заступніцы. Ікона, выкананая Мікалаем Рыбачонкам, — копія. Але, як сцвярджае сам аўтар, у кожнай копіі ёсць часцінка асобы самога мастака. Багародзіца Рыбачонка блізкая да рэальнай жанчыны, зямной маці. У асабістай калекцыі майстра, вядома, ёсць абраз Мікалая Цудатворца, апекуна Беларусі і ўсіх Мікалаяў. Цудатворац новалукамчаніна мае твар чалавека, які прагне справядлівасці.



*Абраз "Маці Боская Феадараўская".*

У тэхніцы выканання іконы майстар не адступае ад традыцый. Схема простая: рыхтуецца дошка з дрэва ліставой пароды, на яе наносіцца грунтоўка, а далей — роспіс. Большасць работ аўтар апрацоўвае чаканкай. Адна ікона ствараецца на працягу некалькіх месяцаў.

Вельмі важная ўмова: абраз павінен быць асвечаны, інакш работа лічыцца карцінай, а не іконай. З прадстаўленага на выстаўцы не асвечаны пакуль толькі складні — дарожныя іконы. Але гэта "пакуль". Святым заступнікам у дарозе аўтар надае шмат увагі.

Іканапісныя работы майстра — не толькі тое, што ўбачылі наведвальнікі выстаўкі. Мікалай Мікалаевіч працуе ў храмах. Распісваў алтар у новалукомскім храме Уваскрасення Хрыстова, аздабляў Чашніцкую Спаса-Прэабражэнскую царкву, храмы Лепельскага і Крупскага раёнаў. Іканапісец браў удзел у юбілейнай выстаўцы Віцебскай епархіі, дзе атрымаў за свае работы падзяку.



*Мікалай Рыбачонак прадстаўляе ікону Казанскай Багародзіцы.*

## Афарызм

*... Цяжка, ды і немагчыма ўявіць нас, беларусаў, без Янкі Купалы. Ён наш буквар і энцыклапедыя, песня і сумленне.*

**Аляксей ПЫСІН**

## З глыбінкі

### Пачатак мае працяг

Падчас паездкі пісьменнікаў па Мінскай і Магілёўскай абласцях напрыканцы мінулага года сярод пунктаў наведвання быў і горад беларускіх шахцёраў Салігорск. Той дзень запомніўся мясцовым жыхарам, і тут вырашылі зрабіць сустрэчы з майстрамі прыгожага пісьменства традыцыйнымі.

Па запрашэнні супрацоўнікаў Цэнтральнай раённай бібліятэкі Салігорск наведаў Анатоль Зэкаў, які пастараўся прадставіць сваю шматгранную творчасць так, каб наглядна прадэманстраваць, якія тэматычныя мерапрыемствы могуць ладзіць бібліятэкары з удзелам літаратараў. Ён чытаў патрыятычныя і лірычныя вершы, творы на ваенную і чарнобыльскую тэматыку, весяліў публіку літаратурнымі пародыямі і сатырычнымі мініяцюрамі, дзяліўся развагамі пра ролю кнігі ў жыцці сучаснага грамадства.

Сустрэча атрымалася такой цікавай, што напрыканцы яе Анатолю Зэкаву давялося пакінуць аўтографы на больш чым паўсотні ўласных кніг. Зрэшты, яшчэ дагэтуль бібліятэчныя фонды Салігоршчыны папоўніліся 20 экзэмплярамі яго зборніка прозы "Генеральскі нумар" і 10 — кніг казак і вершаў "Зязюля Гулюля".

Работнікі бібліятэкі, скарыстаўшы прыезд паэта ў Салігорск, таксама арганізавалі сустрэчу з ім у мясцовым педагагічным каледжы.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ,**
**Салігорскі раён**

### Таленты роднай зямлі

У Германавіцкім музеі культуры і побыту прайшла сустрэча з таленавітымі асобамі Шаркоўшчынскага краю, шчырымі аматарамі паэзіі — Кацярынай Сосна, Міледзіем Кукуцём, Таццянай Еўдаковай, Віктарам Лагуном, Надзеяй Паляк, Ірынай Тарбэцкай, членамі народнага літаратурна-музычнага аб'яднання "Світанак".

У музеі захоўваецца шмат кніг гэтых аўтараў. Кожны з творцаў пазнаёміў прысутных са сваімі апошнімі выданнямі. У зборніку Кацярыны Сосна "Неистраченное" — шчырасць душы, тонкае светаадчуванне, натхнёныя сюжэты і жыццёвая энергія.

"Чысціня душы" — новая кніга вершаў і апавяданняў Міледзія Кукуця. У шчырых і самабытных вершах аўтар апявае мілую яму малую радзіму — лясы, палі, лугі, рэчку Дзісёнку, славутыя сады Сікоры, сцежкі-дарожкі, па якіх хадзіў незабыўны Язэп Драздовіч.

У зборніку вершаў Таццяны Еўдаковай "Неприрученный стих" —рознатэматычныя вершы, але ва ўсіх творах адчуваецца подых шчырых чалавечых пачуццяў.

Ірына Тарбэцкая — дзіцячая пісьменніца. Чацвёра дзяцей — крыніца яе натхнення. Піша вершы, апавяданні, сцэнарыі, але любімы жанр — казкі. Новая — "Удивительные приключения Горюши" — цудоўны падарунак для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту.

Творцы справядліва лічаць: жыць на гэтай зямлі і не быць паэтам — немагчыма.

**Кацярына АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**Шаркоўшчынскі раён**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў
Наклад — 2753
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 19.07.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3005
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686